# наша свабода

№42(269) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

19 КРАСАВІКА 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


ВЕСТКІ


Фота IREX/ProMedia

## Суд над «Пагоняй» – у траўні

Судовы працэс супраць галоўнага рэдактара зліквідаванай газеты «Пагоня» Міколы Маркевіча і журналіста Паўла Мажэйкі пачнецца ў траўні. Канкрэтную дату пачатку працэсу назаве новы суддзя па справе, які дагэтуль не прызначаны. Пра гэта 17 красавіка паведаміў адвакат Сяргей Цурко.

## Непавага да грамадзян

За мінулы год колькасць кіёскаў дробнарознічнага гандлю скарацілася з 4 170 да 3 440, ці на 17,5 працэнта. «730 знесеных кіёскаў раўназначны некалькім гіпермаркетам, якія планеуцца пабудаваць у Мінску, а знос кіёскаў на прыпынках грамадскага транспарту – гэта наогул ненармальны, вар'яцкі ход», – заявіў прэзідэнт БСП А.Патупа.

## «Агляд-хроніка» ў Польшчы

У Варшаве адбылася прэзентацыя «Агляду-Хронікі парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі за 2001 г.». Штогадовае выданне складзенае намаганнямі праваабарончага цэнтру «Вясна». «Сумная хроніка падзеяў» – так самі складальнікі кнігі гавораць пра яе. У «Аглядзе», які да гэтуль выходзіў па-беларуску, па-англійску і па-расейску, сабраныя факты парушэння правоў чалавека ў Беларусі.

## Піва «Гедымін»

У Лідзе пачалі выпускаць два новыя гатункі піва. Першае называецца «Князь Гедымін». Як вядома, Вялікі князь літоўскі пабудаваў у 1323 годзе ў горадзе замак, які часткова захаваўся і апошнімі гадамі рэстаўруецца. На этыкетцы – княскі партрэт. Другі гатунак называецца «Саладуха». Партрэта на этыкетцы няма, а толькі – сонейка. Хаця вядома, што спявак А.Саладуха дапамагае ў рэкламе лідскага піва. Абодва гатункі – гэта светлае 12-працэнтнае піва.

## У Беларусі менш валюты

За першы квартал гэтага году чыстыя замежныя активы (валютныя рэзервы) Беларусі скараціліся амаль на 30 млн. даляраў ЗША: з 229 млн. на 1 студзеня да 200 млн. на 1 красавіка. Паводле словаў старшыні Нацбанку Пятра Пракаповіча, скарачэнне валютных рэзерваў адбылося «за кошт таго, што памяняліся активы і пасівы», у прыватнасці, за кошт выдачы крэдытаў, у тым ліку ўраду, «і іншых пытанняў».

## Паборы з прадпрымальнікаў

У 2001 годзе аб'ём пабораў з мінскіх прадпрымальнікаў пад выглядам інвестыцый у розныя праекты склаў прыкладна 5,5 млн. даляраў ЗША. Аб гэтым заявіў прэзідэнт Беларускага саюзу прадпрымальнікаў, намеснік старшыні Беларускага кангрэсу прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Аляксандр Патупа.

Паводле слоў А.Патупы, «самая вядомая гісторыя апошняга часу» – Дом міласэрнасці, на будаўніцтва якога «дабіралі» 3,2 млн. даляраў – прыкладна ад 30 даляраў з кожнага гандлёвага месца на рынках да 10 тыс. даляраў з буйных фірм. «Пры гэтым Дом міласэрнасці – дробязь на фоне новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі, які патрабуе 40 млн. даляраў пазабюджэтных сродкаў, футбольнага манежа, гарналыжнай трасы і рэканструкцыі плошчы Незалежнасці. Гэта цягне ўжо не на 5,5, а на 60 млн. даляраў. Да таго ж просьбы аб пералічэнні сродкаў амаль на фоне закупкі 200 новых «Мерседэсаў» для мясцовай «вертыкалі», – лічыць А.Патупа.

На думку прэзідэнта БСП, «трэба катэгарычна, на ўзроўні судовага пакарання спыніць практыку напісання ад імя ўладаў персанальных дабрачынных запытаў з указаннем канкрэтных сум». «Гэта чыстай вады дзяржаўны рэкет, – лічыць А.Патупа. – Дабрачыннасць – цудоўная справа, але яна павінна ажыццяўляцца шляхам аб'яўлення акцый у газетах, прадпрымальніцкіх саюзах».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Плошча для незалежнасці

*У інтэрнэце з'явіўся сайт* www.minsk-building.com, *на якім можна падрабязна даведацца пра планы горадабудаўнікоў па рэканструкцыі плошчы Незалежнасці ў Мінску. Галоўным чынам гэты сайт мае прыцягнуць да плошчы ўвагу патэнцыйных інвестараў, бо без іхняй грашовай дапамогі гэты праект гарадскім уладам не рэалізаваць. Але і простаму незаможнаму менчуку цікава пабачыць, як, магчыма, будзе выглядаць галоўная плошча сталіцы праз гадоў пяць-дзесяць.*



Паводле інфармацыі, змешчанай на сайце, папярэдні кошт гэтых задумаў – 120 мільёнаў даляраў. Яны неабходныя, каб упарадкаваць плошчу і пабудаваць пад зямлёй цэлы горад на 120 тысячаў квадратных метраў. Радыкальных зменаў у выглядзе плошчы Незалежнасці чакаць не варта. Хіба што давядзецца прывыкаць да адной прамой транспартнай магістралі ад праспекту Скарыны да вуліцы Маскоўскай, да нязвыклага для нас цуду – святломузычнага фантана і да яшчэ аднаго помніка. На гэты раз «народу-працаўніку». Ленін нікуды не знікне і застанецца стаяць на сваім месцы каля Дома ўраду. Манумент, які б сімвалізаваў незалежнасць краіны, на плошчы Незалежнасці так і не з'явіцца.

Фантан і помнік стануць галоўнымі аздобамі ўсёй плошчы і таго месца, дзе гэты самы народ-працаўнік і будзе адпачываць. Месцам адпачынку стане большая частка плошчы з зелянінай і лаўкамі. Акрамя таго, па выходных уся плошча і частка праспекту Ф.Скарыны да плошчы Якуба Коласа будзе ператварацца ў пешаходную зону. Ва ўсялякім выпадку, такі варыянт разглядаецца гарадскімі ўладамі.

*Заканчэнне на стар.3*

# За Рывалье – Карпентэр

***Выцісканне місіі АБСЕ з Беларусі працягваецца***

*16 красавіка на Пастаянным савеце Парламенцкай асамблеі АБСЕ былы амбасадар Германіі ва Украіне Эбергард Хайкен прызначаны спецыяльным пасланнікам дзеючага старшыні АБСЕ па Беларусі. Гэта азначае, што АБСЕ расцэньвае сітуацыю на Беларусі як сур'ёзны крызіс.*

Менавіта Эбергард Хайкен мусіў узначаліць КНГ АБСЕ ў Мінску, аднак афіцыйны Мінск адмовіўся яго прызнаць у якасці кіраўніка місіі, запатрабаваўшы змяніць яе мандат.

Улады Беларусі напрошваюцца на небывалы міжнародны скандал, узяўшы курс на выцісканне ўсіх супрацоўнікаў місіі КНГ АБСЕ. 15 красавіка Беларусь пакінуў выканаўца абавязкаў кіраўніка місіі Мішэль Рывалье, бо беларускія ўлады адмовіліся працягнуць яму візу; праз тыдзень два заканчваецца дзеянне візы палітычнага дарадцы Эндру Карпентэра, які застаўся пасля М.Рывалье выканаўцам абавязкаў кіраўніка місіі. Такім чынам, цяпер штат КНГ складаюць тры замежныя супрацоўнікі: в.а. кіраўніка Эндру Карпентэр з Вялікабрытаніі, Аліна Жасану з Малдовы і Мэган Фітцджэральд са Злучаных Штатаў Амерыкі – яна прыбыла ў Мінск толькі сёлета.


Фота IREX/ProMedia

Інфармацыя пра паседжанне Пастаяннага камітэту ПА АБСЕ вельмі сціплая. У Вене выступіў Мішэль Рывалье, які распавёў пра абставіны свайго фактычнага выдварэння. Удзельнікі Пастаяннага камітэту канстатавалі, што «беларускае пытанне» выйшла ўжо за межы АБСЕ – для яго вырашэння неабходна ўмяшальніцтва іншых міжнародных арганізацыяў, найперш, Еўрасаюзу.

Былы сябра дэлегацыі Вярхоўнага Савету 13 скліканне ў ПА АБСЕ Уладзімір Нісцюк ні на ёту не сумняваецца, што вайна супраць КНГ АБСЕ задуманая і вядзецца з мэтай «выціснуць КНГ адсюль любым цаной». «Місія дае аб'ектыўную карціну таго, што адбываецца на Беларусі.

*Заканчэнне на стар.3*

# Заўтра – свята бясплатнай працы

*Заўтра ў Беларусі пройдзе суботнік. Для супрацоўнікаў дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстановаў, а таксама студэнтаў і школьнікаў гэта азначае як мінімум прыборку тэрыторыі навокал. Дзеячам недзяржаўнага сектару чарговы раз давядзецца прымірыцца з чынавенскімі паборамі.*

Традыцыя святкаваць дзень нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна днём бясплатнай працы даўно замацавалася ў гісторыі незалежнай Беларусі. Час ад часу рашэнне бясплатна дапамагчы роднай краіне прымае і кіраўнік дзяржавы. Тады ён апранае стары ватнік, штаны і гумовыя боты – і пачынае, да прыкладу, будаваць метрапалітэн. Альбо яшчэ што-небудзь. Разам з ім на «добраахвотную прымусоўку» выходзяць і ўсе ягоныя падначаленыя.

Былы галоўны камунальшчык краіны і былы кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі, сённяшні «акадэмікаў начальнік» Міхаіл Мясніковіч надоўга запомніў урокі свайго патрона. Яшчэ за тыдзень да афіцыйнага суботніка ён заняўся навядзеннем парадку ў Акадэміі навук.

Як распавёў нам адзін з супрацоўнікаў Інстытуту радыебіялогіі НАНБ, які пажадаў застацца невядомым, у мінулую суботу ў Акадэмгарадок, што ў мінскім мікраёне Уручча, прыехала прадстаўнічая дэлегацыя. На чале яе быў асабіста прэзідэнт НАНБ Міхаіл Мясніковіч.

*Заканчэнне на стар.3*

# Пасля 10 сутак за «Пагоню»

*Пасля 10 сутак арышту ў Гродне выйшлі на волю журналісты Анджэй Пісальнік і Станіслаў Пачобут. Абодва ўдзельнічалі ў несанкцыянаваных акцыях у падтрымку калегаў з газеты «Пагоня». С.Пачобут увесь тэрмін зняволення працягваў галадоўку.*

У той жа дзень 15 красавіка яны сустрэліся са сваімі калегамі на прэс-канферэнцыі. Напачатку галоўны рэдактар «Пагоні» Мікола Маркевіч назваў хлопцаў героямі, сказаўшы, што яны баранілі гонар журналістаў.

А.Пісальнік сказаў, што не адчувае сябе героем побач з С.Пачобутам. Яны рэгулярна атрымлівалі ад сяброў прэсу. Перакаваліся, якая ўзнялася інфармацыйная хваля ў падтрымку журналістаў «Пагоні». Асабліва пасля выступу галоўнага рэдактара *Gazety Wyborczej* Адама Міхніка, маральны аўтарытэт якога вельмі вялікі. Так супала, што ў дзень публікацыі, прысвечаннай «Пагоні», якая была змешчана ў *Gazecie Wyborczej*, выйшлі на несанкцыянаванае пікетаванне і А.Пісальнік з С.Пачобутам, і іхнія калегі. У падтрымку журналістаў выступілі таксама аўтарытэтныя асобы – Тадэвуш Мазавецкі, Чэслаў Мілаш. «Я таксама аказаўся не ўбаку, – сказаў А.Пісальнік. – Таму ні аб чым не шкадую. Нават рады, што так атрымалася».

*Заканчэнне на стар.3*

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1760**

**Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478**

## Серада перамогаў нашых

Феерычна правяла таварыскую гульню з Венгрыяй нацыянальная зборная Беларусі па футболе. У гасцях, у горадзе Дэбрэцэне, здабытая ўпэўненая перамога з лікам 5:2! І гэта адна з галоўных сенсацый футбольнай серады. Галы ў беларусаў на рахунку Кутузава (2), Глеба, Хацкевіча і Качуры. Цяпер нацыянальная зборная Беларусі можа смела ехаць 17 траўня на таварыскую гульню са зборнай Расіі ў Маскву – нам ёсць што паказаць!

Не меншую сенсацыю прынесла юнацкая хакейная зборная пад кіраўніцтвам Міхаіла Захарава, якая на чэмпіянаце свету, пакінуўшы за бартом спаборніцтваў шведаў(!), увайшла ў фінальную шасцёрку, якая пазмагаецца за медалі першынства.

На дарослым жа чэмпіянаце свету па хакеі ў другім дывізіёне працягваюць свае паспяховае выступленне хакеісты зборнай Беларусі на чале з галоўным трэнерам Уладзімірам Вароніным. У другой сваёй гульні яны «ўсухую» перамаглі слабую зборную Харватыі 9:0, а ў трэцяй разграмілі гаспадароў чэмпіянату, што праходзіць у горадзе Эйндховене, зборную Нідэрландаў – 15:4.

**Аляксей СТАЎСКІ**

## Сёння – «Марш пратэсту»

19 красавіка а 18-ай гадзіне на плошчы імя Якуба Коласа збяруцца ўдзельнікі маршу пратэсту «Так жыць нельга». Асноўныя мэты і дэвізы акцыі: кампенсацыя згубленых грамадзянамі Беларусі ўкладаў, падтрымка газеты «Пагоня», напамін пра зніклых палітыкаў, спыненне размеркавання студэнтаў ды іншае.

Заяўка, пададзеная месяц таму, дала чаканы вынік: дазволены толькі мітынг у парку Дружбы Народаў. На прэс-канферэнцыі, праведзенай арганізатарамі акцыі напярэдадні мерапрыемства, яны паведамілі, што падалі на дзеянні Мінгарвыканкаму скаргу ў вышэйстаячыя структуры.

Арганізатары акцыі прызналіся, што бачаць сваю імпрэзу як асноўны падрыхтоўчы этап да агульнанацыянальнага «Чарнобыльскага шляху-2002», у аргкамітэт якога некаторыя з іх таксама ўваходзяць.

Арганізатары паведамілі, што калі атрымаецца тэхнічна, то на акцыі будуць магчымыя разнастайныя мастацкія сюрпрызы. Адзін з арганізатараў маршу Зміцер Бандарэнка пагадзіўся адказаць на пытанні газеты.

*– Спадар, Бандарэнка, як вы прагназуеце колькасць удзельнікаў акцыі і дзеянні міліцыі?*

– На акцыю прыйдуць неабыякавыя, і ўжо на месцы будзе бачна, колькі зараз смелых людзей. Што датычыцца дзеянняў міліцыі, то ўсё будзе вырашацца на месцы.

*– Якіх мэтаў мусіць дасягнуць правядзенне «Маршу пратэсту»?*

– Па-першае, гэта давядзенне да насельніцтва краіны інфармацыі пра тое, што Лукашэнка не выканаў свае перадвыбарныя абяцанні. У прыватнасці, кампенсаваць страчаныя людзьмі ўклады ў ашчадных банках, падняць узровень жыцця да сярэднееўрапейскага і знайсці зніклых палітычных дзеячаў і журналістаў. Па-другое, выказаць пратэст існуючаму рэжыму ў актыўнай форме.

**Віктар СЕВЕРЦАЎ**

## Салодкі цукар – горкі ўрок

У Гомелі затрыманы намеснік генеральнага дырэктара акцыянернага таварыства «Гомельабххарч» Валерый Цярэшкін.

Яго ўзялі, як той казаў, пад белыя рукі проста на працоўным месцы супрацоўнікі Гомельскага ўпраўлення Камітэту па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй пры МУС Беларусі. Спадар Цярэшкін якраз атрымаў даляравы хабар ад прадстаўніка камерцыйнай структуры за згоду на пастаўку акцыянернаму таварыству партыі цукру.

Драматычнасць сітуацыі ў тым, што і гандаль, і грамадскае харчаванне працуюць зараз са стратамі. Фінансавыя рэсурсы ў іх абмежаваныя. Таму пастаўшчыкі прадуктаў і іншых тавараў, каб мець рынак збыту, імкнуцца схіліць кіраўнікоў на свой бок. У ход пускаюць і такі «стымул», як хабар.

Валерый Цярэшкін ці не пятнаццаты кіраўнік, што пасаджаны апошнім часам за краты праз хабар альбо злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі. У рэгіёне, па сутнасці, не засталося галіны, дзе б не існавалі такія заганы. Пра гэта сведчаць шматлікія арышты. Напрыклад, у аб'яднанні «Гомельхлебпрам» крымінальныя справы ўзбуджаны супраць, цяпер ужо былога, генеральнага дырэктара Мікалая Пугачова, ягонага намесніка Паўла Кундаса і начальніка аддзелу забеспячэння Алега Елісеева.

За кратамі знаходзяцца дырэктар радыёзаводу, намеснікі кіраўнікоў тлушчакамбінату, фабрыкі марожанага, дэкан універсітэту імя Францішка Скарыны ды іншыя.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

## Пракурорша-мачаха

*Прыцягнутая ў Мінску да суду за катаванні прыёмнага сына.*

24 красавіка ў дзіцячым санаторыі Астрашыцкага Гарадку заканчваецца чарговая змена. Выпішуць у гэты дзень і 11-гадовага Мікіту К. Да каго хлопчык вернецца, пакуль невядома. 11 красавіка суд Маскоўскага раёну сталіцы пазбавіў бацькоўскіх правоў яго прыёмную маці Тамару К., памочніцу аднаго з пракурораў у Мінску.

...Мікіта застаўся круглым сіратою ў 5 гадоў. Да гэтага ў прыватным доме ў Калодзішчах ён рос пры дзядулю Уладзіміру. Маці Святлана страціла цікавасць да жыцця пасля няўдалага кахання і нараджэння сына. Яна кінула працу, стала бываць у сумнiцельных кампаніях. Аднойчы гэта крывая сцежка яе жыцця абарвалася ў агні на пажары ў доме бацькі. Страціўшы дах над галавой, дзед знайшоў сабе прытулак у інтэрнаце заводу, дзе некалі працаваў. Малога часова накіравалі пад нагляд дактароў у лякарню. А праз нейкі час дзед ажаніўся з маладой жанчынай. Шлюб быў па разліку. У хворага на сухоты старога з'явіліся грошы ад продажу зямельнага участку, гаража і ацалелых гаспадарчых пабудоў на былой сядзібе ў Калодзішчах. І ён купляў за іх не жонку сабе, а няньку ўнуку. Тамара К. такім чынам юрыдычна аформіла мацярынства і ўсынавіла сірату Мікіту.

За глухой заслонай застаюцца гады дашкольнага выхавання хлапчука маладой удавіцай свайго дзеда. Горшае стала выкрывацца ў гэтым годзе. Вучні 2 «Б» класа не аднойчы бачылі свайго аднакласніка з драпінамі на твары і крывападцёкамі на руках. А 12 лютага ён прыйшоў літаральна ўвесь сіні. Настаўнікі выклікалі «хуткую дапамогу». Бацькоўскі камітэт правёў расследаванне і мусіў звярнуцца ў Беларускі Хельсінкскі камітэт па прававую дапамогу. Дзіця катавала яго прыёмная маці!

Па хадайніцтве аддзелу апекі Маскоўскага раёну Мінску суд прыняў да разгляду справу аб тэрміновым вызваленні дзіцяці ад жорсткага абыходжання. Аднак мінула поўныя два месяцы, пакуль слугі Феміды высветлілі ўсе абставіны катаванняў. Грубай фізічнай сілай жанчына імкнулася падпарадкаваць сабе волю хлапчука. У гневе прагаворвалася, што ёй абрыдлі непаслухмяныя дзеці, пракурорскі нагляд за якімі яна рабіла паводле службовага абавязку. Праваахоўная структура дзяржсістэмы прытуліла садыста. Лекары дзіцячага хірургічнага цэнтру ў Мінску і медыкі дзіцячага санаторыя ў Астрашыцкім Гарадку прызнаюць, што Мікіту спатрэбіцца доўгі час для фізічнай і псіхалагічнай рэабілітацыі. Ён адмаўляецца сустракацца з былой усынавіцелькай і прасіў на судзе аддаць яму сабаку. Жывёла кідалася на гаспадыню, калі яна біла малога...

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

### Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ

Мы не называем пакуль сапраўдных прозвішчаў у гэтай сямейнай драме. Прысуд можа быць абскарджаны. У пракурорышы шмат адвакатаў. Яшчэ да суду яе калегі наведваліся ў аддзел адукацыі Маскоўскага раёну, а адтуль тэлефанавалі ў школу і раілі «не выносіць смецце з хаты». І цяпер прафесійныя юрысты шукаюць дробныя зачэпкі, каб з меншым сорамам выгарадзіць свайго чалавека. Быццам бы рыхтуюцца нават падставы на ўзбуджэнне крымінальнай справы супраць настаўнікаў наконт раскрыцця імі тайны ўсынаўлення. У пацярпелай па суду ёсць за што змагацца, акрамя Мікіты. Як маці-адзіночка яна ў свой час атрымала службовую кватэру, якую зараз баіцца страціць. Не ўсё чыста з прысваеннем маёмасці дзеда Мікіты, на роўную долю якой хлапчук прэтэндуе па законе. Словам, кропку ставіць рана. Сістэма ўлады неахвотна аддае на суд грамадскасці прыклады дэградацыі сваіх выканаўцаў. Аднак НАША СВАБОДА дачакаецца развязкі гэтага скандалу, і мы паведамім чытачу пра далейшы лёс хлапчука Мікіты і назавём поўнае прозвішча яго мачахі-пракурорышы.

### НАШЫ ТРАДЫЦЫІ



Загад Лукашэнкі аб будаўніцтве футбольнага манежа ў Мінску без грошай з бюджэту недадаў энтузіязму тамтэйшым працоўным. Народ чакае прэзідэнта, пра асабісты ўдзел якога ў суботніку на гэтым спартовым аб'екце ўжо паведамілі з яго Адміністрацыі.

## У кошце солі – прыварак да пенсіі

Настойлівыя чуткі наконт негатыўных наступстваў ад маючай адбыцца пенсійнай рэформы ў Беларусі вымушаюць працоўныя калектывы шукаць сваю альтэрнатыву ў матэрыяльным забеспячэнні пенсіянераў. Наватарскі крок да гэтага зроблены ў вытворчым аб'яднанні «Беларуськалій». Зараз прадпрыемства, дзе 20 тысячаў работнікаў, плаціць унёскі за кожнага ў спецыялізаваную страхавую арганізацыю – Беларускі народны страхавы пенсійны фонд. Грашовыя сумы на недзяржаўную пенсію тут засцерагаюцца ад інфляцыі шляхам інвеставання іх у каштоўныя паперы дзяржавы і Нацыянальнага банку. Не менш як 10% сродкаў размешчаны адначасова на рахунках некалькіх банкаў, па іх налічваюцца працэнты. Па дамоўленасці з ВА «Беларуськалій» Беларускі народны страхавы фонд абавязаны індэксаваць рахункі ў адпаведнасці з дэпазітнай стаўкай «Беларусбанку». Калі салігорскі эксперымент не падкосіць якая-небудзь катастрафічная з'ява ў фінансавым абарачэнні, як гэта было, прыкладам, з савецкімі ўкладамі ў «Ашчадбанку», то шахцёры атрымаюць дадатак да пенсіі. Разлікі паказваюць, што цягам 5 гадоў на рахунку кожнага можа «набягаць на старасць» да 4 амерыканскіх даляраў штомесяц. Зрэшты, у любым выпадку калійшчыкі абароненыя ад стратаў, бо гэта своеасаблівае страхаванне робіцца не за кошт зарплаты. Адлічэнні загадзя ўключаны ў сабекошт гатовай прадукцыі.

У дзяржструктурах становіча выказваюцца аб першым у Беларусі выпадку рацыянальнай дапамогі прадпрыемства сваім працаўнікам. Да жалю, распаўсюдзіць яго падаецца праблематычным. Бальшыня заводаў і фабрыкаў – стратныя.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Беларусаў усынаўляюць замежнікі

Сёлета каля 12 тысячаў сіротаў у Беларусі маюць прававы статус для ўсынаўлення. Гэта дадзеныя Нацыянальнага цэнтру ўсынаўлення, дзе не хаваюць, што знайсці сям'ю пашанцуе мала каму. У 2001 годзе ўсяго каля 500 дзяцей пакінулі дамы дзіцяці і школы-інтэрнаты. Амаль 10 заяўнікам было адмоўлена.

Найчасцей вывозяць дзяцей з Беларусі італьянцы. На другім месцы па ўсынаўленні – грамадзяне ЗША, на трэцім – Швецыі. Назіраецца таксама бацькоўскі інтарэс да беларускага генафонду ў Канадзе, Францыі, некаторых землях Нямеччыны. Да паўналецця ўсыноўленае дзіця мае двайное грамадзянства. А на працягу першых трох гадоў жыцця за мяжою праз кожныя паўгады ў Беларусь паступае інфармацыя пра умовы ўтрымання дзіцяці і яго развіццё.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## Мінсувязі залезе ў кішэні

Наўрад ці ў ведамстве дзяржманаполіі на сродкі сувязі будуць патрабаваць абвяржэння звестак наконт павелічэння дадатковай колькасці платных паслугаў. Абаненты АТС у в.Калодзішчы Мінскага раёну атрымалі за красавік вельмі спрошчаную справаздачу – лічбу колькасці выхадаў на міжгорад і іх сумарны кошт. Быццам бы не ведаюць сувязісты пра неабыякавую цікавасць сваіх кліентаў да паперы з камп'ютэрнай расшыфроўкай. Гэта перасцярога ад памылак, выпадковага падключэння, больш дакладнага разліку з суседзямі і г.д. Словам, не попыт знік, а прапанова. Трымаецца псіхалагічная паўза, каб перачакаць успляск незадаволенасці абанентаў і рушыць насустрач прапанове аб аплаце дадатковых паслугаў.

**Галіна БАРАВАЯ**

## *Velcom* крочыць наперад

Першы аператар сотавай сувязі стандарту *GSM* у нашай краіне СП ТАА «Мабільная лічбавая сувязь», гандлёвая марка *Velcom*, адзначыў свой трэці дзень нараджэння.

Як паведаміў генеральны дырэктар Мікалай Юшкевіч, у свой актыў яны могуць залічыць 165 тысяч абанентаў, шырокую зону пакрыцця. Базавыя станцыі пачнуць усталёўваць у гарадах з колькасцю насельніцтва ў 30 тысячаў чалавек. Кампанія мае роўмінг з 65 краінамі свету, шырокую дылерскую сетку і высокапрафесійны персанал. Да канца бягучага году *Velcom* плануе прывітаць свайго 300-га абанента.

Камерцыйны дырэктар Роберт Дашан распавёў пра новыя паслугі. Сярод іх *WAP* – бесправадны доступ у інтэрнэт, *SMS*-інфа (навіны, даведкі пра надвор'е, адпачынак, курсы валютаў і інш.), пашыраны спіс паслугаў аўтаматызаванай службы сервісу абанента, з'яўленне карт экспрэс-аплаты, а інфармацыйна-даведачны цэнтр пачаў працаваць поўныя суткі.

Мабільны тэлефон перастаў быць прывілеем бізнесоўцаў і іншых нябедных людзей. Сярод абанентаў *Velcom* ёсць і студэнты, і пенсіянеры. Не рэдкасць, калі адна сям'я мае 2-3 «мабільнікі». Спрыяе гэтаму палітыка зніжэння тарыфаў і магчымасць набыць мабільны тэлефон у крэдыт. Паколькі сацыяльны партрэт уладальніка «мабільніка» становіцца ўсё больш дэмакратычным, то хутка *Velcom* запраце і пад зямлёй – па лініях мінскага метро.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# За Рывалье – Карпентэр

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

А праўда – гэта тое, што пужае кіраўніцтва Беларусі больш за ўсё. Улада не хоча, каб праўда выходзіла за межы Беларусі. Усе байкі пра тое, што КНГ – «штаб апазіцыі», што праз групу АБСЕ фінансавалася беларуская апазіцыя, патрабаванні змяніць мандат, спробы не дапусціць новага кіраўніка місіі, маюць адну мэту – выжыць КНГ АБСЕ. Зараз – Рывалье, затым – Карпентэр», – упэўнены Уладзімір Нісцюк.

Ён лічыць, што наступствы ад такога бязглуздага рашэння ўладаў не прымусяць сябе доўга чакаць і будуць надзвычайнымі. Улічваючы, што членамі АБСЕ з'яўляюцца 55 краінаў, у тым ліку ЗША, Канада, еўрапейскія краіны, беларуская праблема можа выйсці на ўзровень Еўрасаюзу. А мы ведаем, што Еўрапейскі Саюз мае магчымасці эканамічнага ўплыву: і квоты на беларускі тэкстыль, беларускі калій, на іншую прадукцыю, двухбаковыя адносіны паміж краінамі, у тым ліку з Германіяй, могуць набыць зусім іншы характар. У рамках кансалідацыі Еўропа можа адрэагаваць вельмі сур'ёзна. Рэзананс можа быць самы шырокі і палітычны, і эканамічны», – запэўніў У.Нісцюк.

18 красавіка ў Мінску будзе знаходзіцца дэлегацыя Сацінтэрну, у якую ўваходзіць таксама прэм'ер-міністр Чэхіі Мілаш Земан. «Мы будзем пра гэта гаварыць і з дэлегацыяй Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу, што трэба спрабаваць праз дыпламатычныя, іншыя каналы пераканаць кіраўніцтва Беларусі, што група АБСЕ павінна працаваць у Мінску, а чыніць перашкоды ёй – не толькі бесперспектыўны, з пункту гледжання палітыкі, занятак, але і небяспечны для грамадзянаў Беларусі, на якіх могуць адбіцца магчымыя санкцыі адносна Беларусі», – падкрэсліў У.Нісцюк.

Праблема развязанай афіцыйным Мінскам вайны супраць місіі АБСЕ будзе згадвацца і на сесіі ПА СЕ, якая з 22 па 26 красавіка пройдзе ў Страсбургу. Уладзімір Нісцюк, хутчэй за ўсё, будзе адзіны прадстаўляць беларускую апазіцыю на форуме.

**Рыгор БУЯН**

# Заўтра – свята бясплатнай працы

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Дэлегацыя праінспектавала стан, у якім знаходзіцца тэрыторыя, прылеглая да будынку інстытуту, і, відаць, знайшла яго нездавальняючым. Бо адразу пасля ад'езду «шэфа» дырэктар Інстытуту радыебіялогіі акадэмік Яўген Канапля асабіста ўзяўся за венікі і граблі, каб навесці парадак. Разам з ім каштоўнай справай заняліся навуковы сакратар, загадчыкі лабараторыяў і іншыя адказныя асобы, якія ў выходны дзень вырашылі ахвяраваць навуцы некалькі гадзінаў свайго жыцця.

Нагадаем, што радыебіялогія для Беларусі – навука жыццёва неабходная. Інстытут радыебіялогіі займаецца не толькі вывучэннем радыеактыўна-экалагічнай сітуацыі ў краіне, і даследуе, як радыяцыя ўплывае на жыццёвыя сілы арганізмаў. Сярод найбольш актуальных праблемаў, якія даводзіцца вырашаць – гэта шляхі абароны ўсяго жывога ад уплыву радыяцыі, а таксама вывучэнне наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.



Міхаіл Мясніковіч

І калі замест працы ў гэтым накірунку ад супрацоўнікаў інстытуту запатрабавалі пастроіцца і пачаць прыбіраць леташняе лісце разам з акуркамі, то нешта не тое робіцца ў галовах сённяшніх кіраўнікоў беларускай навукі з камунальнай адукацыяй.

Наш суразмоўца не хаваў раздражнення. «Можна ўявіць, што па якасці прыборкі тэрыторыі новае начальства акадэміі ацэньвае стан усёй навукі. Добра прыбралі дворык – значыцца, усё ў парадку, у навукі ёсць вялікі патэнцыял. А калі ў двары поўна смецця – могуць паляцець галовы». Па ягоных жа словах, у той жа дзень асобна прыязджаў адзін з віцэ-прэзідэнтаў НАНБ – каб праінспектаваць якасць прыборкі.

Наўрад ці Міхаіл Уладзіміравіч інспектаваў выключна Інстытут радыебіялогіі. Хутчэй за ўсё, пад праверку трапілі і іншыя акадэмічныя ўстановы. Прыкра робіцца за людзей навукі, многіх з якіх, дарэчы, нядаўна перавялі каго на палову, каго на трацінy стаўкі -- дзяржава патлумачыла, што на навуку ў яе няма грошай.

Тым часам, у шмат якіх рэгіёнах краіны мясцовыя ўлады штогод патрабуюць ад прадпрыемстваў, збольшага – недзяржаўных, «пералічыць» заробак за адзін дзень на «суботнікавыя» рахункі ў гарвыканкам. Маўляў, там ужо разбяруцца, куды перанаправіць гэтыя «добраахвотныя ахвяраванні». На жаль, і галоўныя бухгалтары, і дырэктары фірмаў прыміраюцца з гэтым сапраўдным рэкетам. Замест таго, каб звяртацца ў праваахоўныя органы і суд, каб абараніць свае маёмасныя правы ад бандытаў у строях, яны лічаць прасцейшым падзяліцца з чыноўнікамі дадатковым кавалкам сваіх прыбыткаў. А бюджэты ўсіх узроўняў адразу знаходзяць ужытак для сабранай даніны. Напрыклад, фінансуюць набыццё прадстаўнічых «мерседэсаў» для «вертыкальшчыкаў». Хоць насамрэч яны і на «запарожац» не зарабілі.



Фота IREX/ProMedia

Верным ленінцам суботнік – у радасць

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

НАШЫ ДАЎГІ

# Просты вэксаль

**ПРОСТОЙ ВЕКСЕЛЬ**

На сумму: **904 881 565 долларов США**

Дата: «14» марта 1996 года

Место составления векселя: **г. Минск, Республика Беларусь**

**Министерство финансов Республики Беларусь** обязуется безусловно оплатить по этому векселю денежную сумму в размере **Девятьсот четыре миллиона восемьсот восемьдесят одна тысяча пятьсот шестьдесят пять долларов США** непосредственно **Российскому акционерному обществу "Газпром", Российская Федерация** 117784, г. Москва, ул. Наметкина, 16 или по его приказу любому другому предприятию (лицу).

Этот вексель подлежит оплате в следующий срок: **по предъявлению.**

Местом платежа является: **г. Минск, Республика Беларусь**

**Подписи руководителей векселедателя**



Печать

**П.В. Дик**
**Министр финансов Республики Беларусь**

Гэта пазыковае абавязацельства Рэспублікі Беларусь перад Расіяй амаль на мільярд доляраў. Тэрмін аплаты -- па прад'яўленні. Вэксаль выдаў міністр фінансаў Рэспублікі Беларусь Павел Дзік 14 сакавіка 1996 году. Выдаў, не паведаміўшы пра гэта свайму кіраўніку – старшыні ўраду Міхаілу Чыгіру. Гэтак распавёў М.Чыгір 16 красавіка, перадаючы гэты дакумент журналістам. Інтэрв'ю Міхаіла Чыгіра газеце НАША СВАБОДА чытайце ў чарговым нумары, 23 красавіка.

# Плошча для незалежнасці

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Прылеглыя да плошчы будынкі мусяць «падцягнуцца» да новага выгляду плошчы. Чырвонаму касцёлу вернуць агароджу, іншым будынкам падправяць фасады, а да Педагагічнага універсітэту прыбудуюць яшчэ чатыры паверхі. Там, на 20-ым паверсе, размесцяцца рэстаран і пляцоўка, з якой ахвочыя могуць падзівіцца на прыўкрасы сталіцы. Трапіць на такую вышыню можна будзе двума знешнімі ліфтамі з падземнай часткі плошчы.

А там, пад зямлёй, на чатыры ўзроўні ўглыб раскінецца грамадска-гандлёвы цэнтр. На першы падземны ўзровень можна будзе патрапіць праз адзін з пяці пешаходных пераходаў, што пралягуць пад транспартнай магістраллю. Тут для пешаходаў будзе адведзена цэлая вуліца. Цэнтральнае месца на ёй будзе аддадзена вялікаму універмагу і універсаму, а з бакоў прыладзяцца офісы турыстычных фірмаў і модныя бутыкі. Знойдзецца месца і для бараў, кавярняў і рэстаранаў, якія змогуць змясціць да 700 наведнікаў.

Карацей, усё паводле апошніх заходніх стандартаў у архітэктуры і будаўніцтве: і эскалатары паміж паверхамі, і модныя дарагія крамы, і, абавязкова, зімовы сад. Для саду, яшчэ аднаго універмагу і рэстарана на 300 месцаў запланаваныя плошчы на другім падземным узроўні. Астатнія два паверхі зоймуць паркінгі і стаянкі для аўтамашынаў. Калі быць ужо зусім дакладным, месца там хопіць роўна на 591 аўтамашыну.

Асобнае месца ў падземным цэнтры займае круглая універсальная заля, у якой можна будзе ладзіць і канцэрты, і пратакольныя паседжанні. Увышыню яна зойме тры паверхі і замест звычайнай столі завершыцца вялікім шкляным купалам, так званым ліхтаром дзённага святла, які выйдзе на паверхню плошчы. Сама заля са сцэнай размесціцца на трэцім падземным паверсе, гардэроб, вестыбюль – на паверх вышэй, а касы – на першым узроўні. Гэта будзе адна з самых вялікіх заляў краіны: адначасова ў ёй змогуць размясціцца да 3,5 тысячаў гледачоў.

**Алена ЛАБАНАВА**

СВОЙ ГОЛАС

***– Якія помнікі культуры вам падабаюцца, а якія не?***

***– Якія помнікі вы жадалі б убачыць на месцы цяперашніх помнікаў Калініну і Леніну?***



**Андрэй, рабочы:**
– Помнік Янку Купалу мне падабаецца, цяжка нешта яшчэ ўспомніць. Усё мне імпануе, і няма тых будынкаў, якія б не падабаліся. А замест Леніна трэба ставіць каго-небудзь з дзеячаў беларускай культуры, літаратуры.



**Святлана, інжынер:**
– Мне падабаюцца ўсе цэнтральныя плошчы гораду, іх пабудова і афармленне. Замест Леніна трэба паставіць якога-небудзь нашага слыннага паэта, мастака... А ўвогуле, Мінск – самы прыгожы горад.



**Віктар, журналіст:**
– Падабаецца мне помнік «жалезнаму Феліксу» на праспекце. А вось Леніна з Незалежнасці трэба прыбраць.



**Наташа, студэнтка:**
– Падабаецца мне Палац Рэспублікі і Траецкае прадмесце. Таго, што не падабаецца – няма. А Леніна з Калініным можаце здымаць, мне ўсё роўна, чый помнік там стаіць. Мне ўвогуле помнікі ўсё роўна якія.



**Ігар, студэнт:**
– Мне ў горадзе падабаюцца цэрквы ды касцёлы, а ўсё астатняе якраз не падабаецца. І перш за ўсё мне не імпануе савецкая сталінская архітэктура на праспекце. А помнікі ўсім гэтым «важдзям» трэба прыбіраць ды ставіць беларускіх нацыянальных герояў. Любога з нацыянальнага міфалагічнага пантэону.



**Алена, доктар:**
– Я сама з гораду Таліну, што ў Эстоніі, і ў вас тут у гасцях. Мне ў вас адразу спадабаўся Палац Рэспублікі, а вось не спадабаліся дамы ў спальных мікраараёнах, увогуле планіроўка гэтых самых «спальнікаў». А помнікі Леніну трэба прыбіраць, мы свае даўно ўжо папрыбіралі. А пастаўце замест Леніна помнік Бісмарку, напрыклад. Ну і Скарыне, канешне, патрэбен помнік!



**Міхаіл, юрыст:**
– Мне падабаецца Кацярынінская царква, якая знаходзіцца на Нямізе. За дваццаць гадоў у Мінску, якія я тут пражыў, архітэктура і выгляд гораду пачалі змяняцца ў лепшы бок. Я супраць таго, каб прыбіраць помнікі нават і Леніну з Калініным, калі ўжо паставілі. Але вялікім беларусам трэба паставіць.



**Леў Іванавіч, дызайнер:**
– Мне падабаецца найперш касцёл на плошчы Свабоды. А не падабаецца тое, як зараз перарабляюць выхад з Камсамольскай вуліцы на Нямігу. Яны ж сапсавалі, скарожылі ўсю архітэктуру! А замест Леніна ды Калініна паставіць шмат каго можна. Прыкладам, Ластоўскага ды Тарашкевіча.



**Насця, студэнтка:**
– Падабаецца стэла на плошчы Перамогі, а не падабаецца стадыён «Дынама». А замест Калініна чаму б не паставіць Петруся Броўку? Ну і замест Леніна таксама паэта якога-небудзь.

**Апытанне праводзілі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# Пасля 10 сутак за «Пагоню»

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

С.Пачобут адзначыў, што ў палітычным балоце, якое ўтварылася пасля прэзідэнцкіх выбараў, на некаторыя важныя рэчы не звяртаецца ўвагі. Закрылі беларускую газету, якая давала альтэрнатыўную інфармацыю. Спрабуюць пасадзіць у турму журналістаў. Вось чаму ён і ягоныя сябры вырашылі выступіць у абарону. Першая несанкцыянаваная акцыя адбылася 1 красавіка. Міліцыя затрымала шэсць чалавек, у тым ліку С.Пачобута. Усім абвясцілі ў судзе папярэджанне. Ён ведаў, што за паўторны пратэст яму пагражае арышт.

С.Пачобут лічыць, што сёння адпрацоўваецца сцэнарый закрыцця незалежных газет і пакарання журналістаў. Інфармацыйная хваля, пратэсты, замежная падтрымка, на ягоную думку, павінны прымусіць улады шукаць іншага шляху. Калі ўдасца адстаяць М.Маркевіча і П.Мажэйку, значыцца, згуртавана можна будзе процістаяць карнай сістэме, створанай у краіне.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Пад прыцэлам з блок-паста

## Знявагу за свае грошы атрымліваюць беларусы на першым кіламетры расійскай тэрыторыі

*Беларусы не любяць канфліктаваць. Мы прывыклі да нармальнага людскага абыходжання адзін з адным, не зважаючы нават на глыбокія сацыяльныя зрухі. Але каб па-сапраўднаму ацаніць сябе, варта апынуцца дзе-небудзь на сутыку з імперыяй войнаў і «гарачых» пунктаў. Не паважаюць нас у Расіі. Штурхаюць да непрыяцельскіх адносінаў, лічаць тупымі і патрабуюць за гэта маральнай і грашовай платы. Мы атрымалі на тое доказы ў Краснай Горцы на Смаленшчыне, дзе бярэ адлік першы кіламетр суседняй краіны на аўтамагістралі Брэст-Мінск-мяжа Расійскай Федэрацыі.*

### Аўтаматчык

Малады сяржант ДэПэзС-най службы Расіі так і не перакінуў з грудзей на бок аўтамат Калашнікава, хаця адказваў на



За бетоннай стэлай на гасціннай мяжы Беларусі хаваецца ўзброены блок-пост Расіі

пытанні са шчырай усмешкай на твары. Чорная руля гойдалася між намі на адлегласці локця. І яго зброя балюча стукнула мяне па руцэ, калі патрульны сарваўся з месца. О, гэта быў ужо вар'ят! Ён коршунам наляцеў на майго спадарожніка з фотаапаратам і страшна мацюкаўся, бо той навёў аб'ектыў на замаскіраваны аб'ект блок-паста. Ледзьве ўдваіх адгаварыліся; дапамагло, што затвор камеры не быў спушчаны на першым кадры. А калі я разгледзеў, што хаваецца за плямістай сеткай з шаўковых нітак, то халадок працяў нервы. У пясок па макаўку вежы зарыты бронетранспарцёр. Адтуліна яго байніцы цёмным вокам цікуе за заходнім напрамкам, адкуль гужам плыве легкавы і цяжкі аўтатранспарт. Пакуль мы вырульвалі ў хвост гэтай маруднай чаргі, сяржант пазіраў коршунам. Фотаапарат давялося схаваць, бо расійскі міліцыянт прыгразіў, што патэлефануе сваім мытнікам, каб ведалі, што і іхны рэжымны аб'ект могуць рассакрэціць беларускія журналісты. У разгубленасці мы рухаліся ад жалезабетоннага блок-паста да вагончыкаў смаленскай мытні «Чырвонае». Але тут нам пашанцавала знікнуць у людской мітусні.

### Усе – прама, беларусы – у чаргу

Насуперак прапагандысцкай эйфарыі беларускай уладнай вярхушкі пра ўсё большую колькасць падпісаных дакументаў аб цеснай інтэграцыі з Расіяй, заторы на мяжы хочацца назваць транспартнай вайной. Расіяне спыняюць аўтамабілістаў, якія перавозяць грузы на ўсход ад Беларусі, а таксама едуць на асабістых аўто. У другой палове кожнага дня на смаленскай дарозе стаіць да адной сотні дальнабойшчыкаў. Пад завязку запоўненая і стаянка для легкавых аўтамабіляў. У абсалютнай сваёй большасці аўтамашыны маюць беларускія нумары.

У жывой чарзе ля хісткіх сходняў вагончыка з надпісам на чырвонай шыльдзе, што тут месціцца аддзел мытнага афармлення, навічкам падказваюць адразу наведаць будку брокера. Гэта таксама вагончык з дошак, падзелены бар'ерам на дзве часткі, з рыпучай падлогай і няшчыльнымі дзвярыма. На меншай тоўпяцца кліенты, а насупраць, за камп'ютэрамі, сядзяць тры вясёлыя жанчыны. Тут пачынаецца працэдура афармлення дакументу для далейшага руху у Расію – Пасведчання часовага ўвозу транспартнага сродку (ПУТС). У маладзіцаў першае да ўсіх пытанне: ці адагнаныя машыны за шлагбаум на платную стаянку? Стаянка, як і брокерская кантора, – уласнасць даччынай фірмы «Ростэк-Смаленск» унітарнага прадпрыемства «Ростэк». Відавочна, што нейкія кемлівыя смаляне атрымалі дазвол у мясцовай улады на пасярэдніцкую дзейнасць паміж кіроўцамі і мытнікамі на мяжы Расіі і Беларусі. У тамтэйшай мытні не існуе юрыдычнай дамоўленасці на партнёрства з брокерамі. Але варта каму-небудзь з беларускага боку адмовіцца ад дадатковых паслугаў, як мытнік адшукае сто прычынаў замарудзіць ад'езд. Пэўна, мытнікам ад камерсантаў штосьці перападае. Усё ж за паслугі можна назбіваць нядрэнныя «бабкі» Так, у загадзе ад 04.03.2002 г. за подпісам дырэктара прадпрыемства «Ростэк» А.Семчанкава «ў сувязі з вытворчай неабходнасцю» ўсталяваныя наступныя кошты на паслугі:

– за афармленне электронных копіяў Пасведчання на ўвоз легкавога транспарту – 70 расійскіх рублёў, па даверанасці – 85 рублёў. За грузавы транспарт – 100 рублёў;

– за афармленне ДКД ТС (дэкларацыі) з фізічных асобаў – 450 рублёў.

Грошай на месцы брокеры не бяруць, бо ў вагончыку па суседстве атабарылася аперацыйная каса кампаньёна іхняй фірмы – камерцыйнага банку ТАА УКБ «Аскольд». За свае паслугі гэты банк мае адмысловы працэнт. Некаторыя кіроўцы, бегаючы з адной чаргі ў другую, а затым зноў вяртаючыся да брокераў, плююцца ад злосці і з раздражненнем выгаворваюць дамам пра змарнаваны дарагі час. У адказ тыя агрызаюцца заўжды аднолькава і цынічна: «Пабегаеце, гемарою не будзе!».

Увогуле, дрэнныя словы ад расіянаў чуюць толькі беларусы. Аўтамашыны з краінаў далёкага замежжа і з расійскімі нумарамі рухаюцца наўпрост. А касу дадатковай аплаты не мінаюць СНДэшнікі. Беларусы тут затрымліваюцца купкамі. І нас найчасцей зневажаюць, калі мы праколемся на строгіх патрабаваннях. ПУТС выдаецца толькі на тэрмін да 2-х месяцаў. Яго абавязкова трэба аддаць пры вяртанні з Расіі, нават пабыўшы там дзень альбо два. Страта і пратэрміноўка паперы з мытні цягне за сабою штраф ад 3 да 30 расійскіх «мінімалак». Калі не выехаць своечасова на аўтамабілі, то сума штрафу павялічваецца ад 100 да 300% яго ацэначнага кошту.





Злева ад мытні і чаргі – брокерская кантора па выкалочванні грошай за дакументы, якія па рэгламенце бясплатныя

### «Так разбойнічалі царскія апрычнікі…»

Для аплаты штрафаў на мытні ёсць асобны ўваход і свая чарга. Ніна і Мікалай з райцэнтру Бяроза, што на Брэстчыне, усхвалявана распавядаюць, як груба тут з імі абышліся кантралёры.

У ліпені 2001 году гэтая сям'я, муж і бацька якой мае расійскае паходжанне, вярталіся з гасцей ад маці, якая жыве на Смалешчыне. ПУТС, як і належыць, аддалі туды, дзе атрымалі – на мытню «Чырвонае». Цяпер яны зноў едуць у Расію, але іх не пускаюць.

– Мытнікі не адшукалі нашага прозвішча ў сваім банку дадзеных, – скардзіцца Мікалай. – Каб атрымаць ПУТС на праезд зараз, трэба заплаціць штраф за нібыта згубленае пасведчанне мінулага году.

Расіянін па паходжанні і былы афіцэр Савецкай Арміі раззлаваны да болю. Свайго сына ён пакінуў у чарзе да мытніка, дачка сцеражэ машыну на штрафной стаянцы, яны з жонкай ужо замірыліся ў спрэчцы, ці варта плаціць 15 амерыканскіх даляраў за страту ПУТСу, якога, як яны клянуцца, не гублялі.

Свая гаротная гісторыя і ў Міхаіла з Бабруйску. Некалькі дзён таму яго завярнулі на штрафную стаянку, бо ў невядома кім узламанай памяці камп'ютэра на мытні не захавалася звестак пра вяртанне яго легкавіка з Расіі ў Беларусь у мінулы раз.

– Два гады мінула! Я прадаў тую аўтамашыну ў Бабруйску іншаму чалавеку, а яны трасуць, нібыта я хлушу! – эмацыйна выкрыквае Міхаіл, каб чулі мытнікі за дзвярыма.

Гэты малады чалавек вымушаны быў зганяць у Бабруйск, адшукаць новага ўладальніка аўтамабіля, наведацца з ім на тамтэйшую мытню і выцыганіць даведку, што купля-продаж адбылася ў Беларусі, у адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам. Міхаіл заплаціў 10 расійскіх «мінімалак» штрафу. І каб аддаць гэтыя грошы, тоўкся ў адной чарзе, каб затым нервавацца яшчэ і ў другой.

Штрафы на мытні беларусы плацяць з 2001 году, калі за захаванасцю ПУТСу і тэрмінам яго дзеяння расіяне пачалі сачыць асабліва. Саюзнікі напалохаліся, што праз знятую мяжу на Захадзе рыне паток іншамарак беларускіх уладальнікаў. Сапраўды, такія факты былі, і найчасцей расіяне каталіся на чужых аўтамабілях па даверанасці. Яны не рэгістравалі іх у дзяржаўтаінспекцыі па месцы жыхарства, тым больш не плацілі мытных пошлінаў. Ніхто не лічыў гэтага за крымінал, бо беларускі народ сілай цягнулі ў Расію, а за капітуляцыю Айчыны хацелася мець хоць мізэрную кантрыбуцыю. Але, што карысна людзям, тое недаспадобы ўладзе. У аднабаковым парадку Расія ўвяла сістэму дазволаў і забароны, для кантролю за якімі на мяжы з нашай краінай выстаўленыя ўзброеныя блокпасты і 16 аддзелаў мытнага кантролю. На адзін з іх – АМК «Чырвонае», акрамя міліцыі, мытні, брокераў і іхніх касіраў, зараз падцягнутыя: служба Смаленскага абласнога аддзялення Расійскай транспартнай інспекцыі (8 супрацоўнікаў у адну з кругласутачных зменаў), страхавая кампанія «РУСОСТ», ААТ «Расійскі сельскагаспадарчы банк». Кожная структура абцяжараная сваім фінансавым планам і выкалочвае кроўныя з беларусаў, як з грашовага меха. «Так разбойнічалі царскія апрычнікі ў ваколіцах сваёй імперыі», – гаварыў мне знаёмы прадпрымальнік Міхаіл В. з Мінску, які адмовіўся падпісваць тэкст ганебнай «прысягі» аўтаўладальніка пра абавязак падпарадкоўвацца і безадгаворачна плаціць штрафы. Яго за гэта не пусцілі ў Расію, але ён не здаецца і піша ліст Лукашэнку са сваімі прапановамі вярнуць памежнікаў у Рэдзькі, да якіх у студзені 1919 году бальшавіцка-ленінскі ўрад адсунуў гістарычную мяжу Беларусі.



Заўжды тоўпіцца чарга па дазвол на праезд «празрыстай» мяжы Расіі



ФОРД-ЭСКОРТ КУЗОВ KFKYNKSNVLKY1245 ГОС. НОМЕР 1526 ОАА
ПО УДОСТОВЕРЕНИЮ ВРЕМЕННОГО ВВОЗА АБ 6785432 ОТ 19.02.2001 г.
ВЫВОЗ А/М С ТЕРРИТОРИИ РФ БЫЛ ОСУЩЕСТВЛЕН 20.02.2001 г.,
НО ПО НЕЗНАНИЮ Я НЕ УВЕДОМИЛ ТАМОЖЕННЫЙ ОРГАН О ВЫВОЗЕ А/М.
И НЕ СДАЛ УДОСТОВЕРЕНИЕ ВРЕМЕННОГО ВВОЗА.
ФАКТ СОВЕРШЕНИЯ НАРУШЕНИЯ ТАМОЖЕННЫХ ПРАВИЛ И СВОЮ ВИНУ ПРИЗНАЮ. СОГЛАСЕН НА ИСПОЛЬЗОВАНИЕ УПРОЩЕННОЙ ФОРМЫ ПРИМЕНЕНИЯ ВЗЫСКАНИЯ ЗА НАРУШЕНИЕ ТАМОЖЕННЫХ ПРАВИЛ.
ГОТОВ И ИМЕЮ РЕАЛЬНУЮ ВОЗМОЖНОСТЬ ОПЛАТИТЬ ШТРАФ НЕЗАМЕДЛИТЕЛЬНО НА МЕСТЕ.

Па гэтым узоры ганебнага тэксту беларусаў вымушаюць разлічвацца паводле законаў чужой дзяржавы



Гразь і смецце – характэрныя атрыбуты мытні, якая нагадвае дарожны табар

### Маналог замест эпілога

«Я папрашу Лукашэнку наведаць гэты гнайнік бескульту-р'я на ўскрайку Расіі, -- гаворыць Міхаіл. – За грошы, якія тут адбіраюць у беларусаў, можна было ўзвесці харомы. Яны ж наставілі чэзлых буданоў. Каб заплаціць бандыцкія штрафы, трэба гадзінамі падпіраць іхнія брудныя сценкі. Навошта нам такая празрыстая мяжа, калі тут затрымліваюць на нявызначаны час сярод гразі, дыму і смярдзючых лужынаў. Я лічу сябе еўрапейцам і ў Польшчы, Германіі, Бельгіі і іншых краінах, дзе сустракаўся з чужым памежным кантролем, не чуў ніводнага крыўднага слова. Затое наеўся рускага шавінізму. Была б нармальная мяжа – адсутнічала б прыніжэнне. Плаціш, што належыць, і кіруй далей. Вярніце, прэзідэнт, мяжу на месца!»

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# З братанамі да перамогі над голадам!

*Не глядзі, дзе даражэй, а глядзі, дзе бліжэй. Вось новы тэзіс айчынных стратэгаў гаспадарання.*




У той час, як недзе ў далёкай Маскве вяліся перамовы на найвышэйшым узроўні пра нашую інтэграцыю з Расіяй, ваш карэспандэнт мусіў боўтацца па горадзе-героі Мінску.

Хадзіў і слухаў, як народ рэагуе на «эпахальную» падзею. Пад вечар стала ясна: ніяк. Разумны, здаровы і зусім не просты народ аддаў перавагу масаваму праслухоўванню новых опусаў «Нейра Дзюбеля» і дробнагрупавому святкаванню Дня касманаўтыкі.

Чаму? Няўжо серыя сустрэчаў нашага фармальнага лідэра з кішэннымі алігархамі, якіх напладзілі ў Расіі транснацыянальныя карпарацыі са штабкватэрамі ў ЗША, і наступны ягоны хадж у Крэмль не кранаюць сэрцы звычайных еўрапейскіх абывацеляў Мінску і Хойнікаў? Не кранаюць.

Бо сэрца – гэта такі мускул. Ён пачынае працаваць, калі таго чалавека ў чэраве яшчэ пятнаццаць грамаў, і калоціцца, покуль чалавек той не выпруціцца. Каб так калаціцца ўвесь час, трэба атрымліваць энергію. Энергію дае розны харч. Харч вырошчваюць тыя, хто лічыць гэты занятак мэтазгодным.

Атрымліваецца ва ўсіх па-рознаму. У амерыканцаў можа дзесяць гадоў збожжа не ўрадзіць, а яны купляць не будуць і пазычаць не стануць. Такі ў іх запас. Ззяе сонейка не толькі над той Амерыкай, але і над дзяржавай славянаў Беларуссю і над дзяржавай расіянаў Расійскай Федэрацыяй. Ззяць яно, канечне, ззяе, але запасу няма ні халеры. Хапае збольшага на пасеў, а так, традыцыйна, – да Вялікага посту.

Каб галодныя масы не заняліся практычнай дэмакратыяй, збожжа купляем. Вось і сёлета, не чакаўшы рытуальнага абяцання на веснавой планёрцы «адкруціць галаву», сеў наш чарговы міністр сельскай гаспадаркі ў вялізны самалёт і паляцеў у самае сэрца азіяцкіх стэпаў у краіну казахаў. Пра што там талкавалі насамрэч, як заўсёды, сакрэт. Паспрабуем зрабіць бяскрыўдную рэканструкцыю.

Прыляцеў наш бядак і кажа: «Хочам купляць вашай пшаніцы 100 000 тонаў штогод». І кажа яму на тое галоўны іхні міністр пан Імангалі Тасмагамбетаў з усёй пачцівасцю: «А грошы ў цябе ёсць? Няма! Дык давай нам МАЗаў, трактараў, запчастак». Нам, канечне, на чвэрць мільёна больш трэба, каб батоны гэтак не крышыліся, бо зерне ў нашым коласе рыхлае. Маўляў, «навошта нам Аргенціне плаціць, калі Казахстан бліжэй»?

Гэта быў сапраўдны спіч майстра. Гэта быў урок рынкавай эканомікі для рэальных пацаноў і нармальных дзяўчонак. Нават у *Financial Times* гэтыя словы яго на сайце вывесілі.

То на якую трасу было перціся ў Казахстан, калі ад бліжэйшай польскай хлебнай переваклі да першага нашага элеватара якіх сорак кіламетраў па чыгунцы? Дый да Венгрыі, дзе зярняткі ў пушце не мякчэйшыя за цалінныя, не тры лапці па карце. Проста плаціць нам тым палякам ды венграм няма чым, ім нашыя жалязякі без патрэбы.

Але ж і гэта не край свету. Ёсць яшчэ і Украіна. Дый купляць нам трэба сама меней 600 000–700 000 тон збожжа кожны год, калі добра зародзіць.

А можа, у Расіі браць? Яна ж за Оршай недзе пачынаецца. Пад канец сацыялізму СССР меў у засеках 194 млн. тон збожжа штогод і быў трэці ягоны вытворца ў свеце пасля Кітаю (368 млн. т) і ЗША (293 млн. т), апярэджваў Індыю (190 млн. т) і Францыю (57 млн. т). Расія з таго мела больш за палову, прыблізна 100 млн. т, альбо 708 кг на чалавека. Пасля сацыялізму наступныя дзесяць гадоў далі суседзям плёну ў 1,3 раза меней. Зараз меней, чым у нас, бо ў нас кіляў па 650 прыпадае.

Даводзіцца купляць. Сваё няўменне выкарыстоўваць сонечную энергію дзеля вырошчвання раслінаў расійцы кампенсуюць усяму свету нафтай і нікелем, лесам і газам. Таму і купляюць палову харчоў за мяжой, а ў Маскву і Піцер – дык і тры чвэрці.

Розніца паміж імі і намі ў тым, што мы любім свае калгасы, але яшчэ больш любім бульбу з салам. Таму пры жывых калгасах вырошчваем бульбы на душу насельніцтва больш, чым хто ў свеце. На гэтым паліве беларускія сэрцы тахкаюць вялікім хорам.

Тах-тах, прададзім нафтахім. Тах-тах, і лясы прададзім. Тах-тах, усё прададзім. Галавой яно налажыся. Алматы бліжэй за Варшаву і Палтаву. Сяброўства бліжэй за хлеб. Каўбаса даражэй за мову.... Не, заблытаўся, апошняе ўжо з іншай оперы.

Але ж як на свята пакроіць гаспадыня цвёрдай каўбаскі, ды чорных груздоў хрумсткіх пастравіць місачку, ды пляшку гарэлачкі на стол, а яна там халодная, аж пляшачка тая кропелькамі пайшла, і хлеба, чорнага, духмянага, з закальцам... Што і казаць.

А беларусы збожжа за мяжой купілі ўсяго нічога. За часы прэзідэнцтва – восем з паловаю мільёнаў тон. Каб мелі прэзідэнцкі ток: кіламетр на кіламетр, ды ссыпалі на яго тое збожжа, то кучка была б якіх метраў пятнаццаць. Вы прыкіньце, колькі нам гэта стала, нават па звыштанных ста даляраў за тону. І ўсё з нашай кішэні. І ўсё воляй народу.

Тут хочаш не хочаш, а трэба суседзяў на кошце газу дурыць. Бо голад і народная дэмакратыя – гэта прычына і наступства. Надта злое галоднае сэрца. А так – братаны газу запампуюць немцам, каўбасы у іх купяць, і нам за тое хлебца таннага падкінуць.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

# Ад хваробы неплацяжоў чахнуць здраўніцы

Самыя вялікія даўжнікі ў санаторыяў унітарнага прадпрыемства «Белпрафсаюзкурорт» дзяржустановы. Усярэдзіне красавіка Рэспубліканскі цэнтр аздараўлення насельніцтва не разлічыўся за пуцёўкі ў суме 2,6 мільярда рублёў, Міністэрства працы і сацыяльнай абароны – 1 мільярд рублёў. З-за гэтага санаторыі, пансіянаты і дамы адпачынку не могуць правесці разлікі за прадукты харчавання, медыкаменты, энерганосьбіты, выплаціць заробак персаналу. Напярэдадні сезону адпачынкаў пад пагрозу пастаўлена аздараўленне і лячэнне працаўнікоў, дзяцей, пенсіянераў, інвалідаў.

УП «Белпрафсаюзкурорт» і яго заснавальнік Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская неаднаразова пісьмова нагадвалі пра крытычнае становішча ў Адміністрацыю прэзідэнта, да прэм'ер-міністра, міністра працы і сацыяльнай абароны.

Кожны год у прафсаюзных санаторыях паляпшаюць сваё здароўе больш за 98 тысяч чалавек, з іх амаль што 60% з раёнаў, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС. Цяпер у санаторыях знаходзіцці 5,5 тысяч чалавек, з іх – 2 276 дзяцей, 2 200 – «чарнобыльцаў», 518 пенсіянераў і 506 чалавек праходзяць курс рэабілітацыі пасля складаных аперацый і інфаркту міякарду.

Сітуацыя набліжаецца да спынення дзейнасці санаторыяў. Прычым, у першую чаргу зачыняцца найбольш буйныя і добра абсталяваныя, бо ў іх і запазычанасць найбольшая.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**


Фота IREX/ProMedia

# ДАІ працуе па-новаму,

## *а пешаходы і кіроўцы п'юць па-ранейшаму*

У Беларусі сёлета пагоршыліся паказчыкі дарожна-транспартных здарэнняў. Калі ў першым квартале мінулага году было зарэгістравана 138 ДТЗ, то сёлета – 211. З пачатку году ў выніку ДТЗ загінула 27 чалавек (у 2001-м – 20), паранена 222 (адпаведна 141). Па віне кіроўцаў прыватных аўтамабіляў здзейснена 75 ДТЗ, у выніку чаго загінула 10 чалавек, па віне кіроўцаў з прадпрыемстваў – 14 ДТЗ, у якіх загінулі два чалавекі. Пры гэтым 9 кіроўцаў-прыватнікаў былі ў нецвярозым стане, а сярод кіроўцаў з прадпрыемстваў такіх не было. Па віне пешаходаў здзейснена 119 ДТЗ, у якіх загінулі 16 чалавек. Сярод іх 56 былі ў стане алкагольнага ап'янення. Кіроўцаў у стане алкагольнага ап'янення было спынена 1 970. З удзелам непаўналетніх зарэгістравана 27 ДТЗ, у якіх атрымалі раненні 29 дзяцей.

У Мінску зарэгістравана 307 530 адзінак прыватных аўтамабіляў. У штаце сталічнай ДАІ 861 супрацоўнік, у складзе дарожна-патрульнай службы – 530. Акрамя непасрэдных абавязкаў, супрацоўнікі ДАІ ўдзельнічаюць у раскрыцці злачынстваў, а самастойна раскрылі іх сёлета 191. З 24 кіроўцаў, якія зніклі з месца ДТЗ, 17 потым знайшлі.

Начальнік ДАІ Мінску палкоўнік міліцыі Уладзімір Касоўскі канстатуе, што самая галоўная праблема – гэта пешаходы: 78% ДТЗ здзейснена па іх віне.

Па выніках першага кварталу самымі небяспечнымі днямі тыдня што да аварыйнасці прызнаны пятніца, чацвер і панядзелак, а самымі спакойнымі – субота і нядзеля. Па гадзінах: самыя бяспечныя – з 0 да 6 раніцы, за імі кавалак часу ад 6 раніцы да 12; шмат ДТЗ адбываецца з 12 да 18, а больш за ўсё – з 18 да 24 гадзін.

Усіх цікавіла: калі ж на вуліцах будуць працаваць толькі афіцэры ДАІ? Пакуль што такога загаду няма. Палкоўнік Касоўскі зазначыў, што сярод сяржанцкага складу сустракаюцца даволі кампетэнтныя, адказныя і ветлівыя супрацоўнікі. А вось з тымі, хто не мае такіх якасцей, нават пры афіцэрскіх зорачках на пагонах, развітваюцца без ваганняў. Можа, таму цяпер у штаце ДАІ ёсць вакансіі. Начальнік дзяржаўтаінспекцыі запэўніў, што яго падначаленыя ўвесь мінулы год працавалі па прынцыпе: ніякіх дробязных прычэпак, звяртаць увагу толькі на грубыя парушэнні правілаў дарожнага руху. І такіх у сталіцы было выяўлена мільён. У першым квартале выявілі 900 кіроўцаў, якія не мелі вадзіцельскага пасведчання. Дзевяць з іх здзейснілі ДТЗ, у выніку якіх 2 чалавекі загінулі і 11 атрымалі раненні. Уладзімір Пятровіч пагадзіўся, што здаць экзамен на права кіравання аўтамабілем у нас даволі складана. З першага разу гэта атрымліваецца толькі ў 39% курсантаў. Што тычыцца якасці падрыхтоўкі на курсах, то гэта, на думку палкоўніка, залежыць не ад формы ўласнасці, а ад кваліфікацыі выкладчыкаў і стараннасці курсантаў. Як гэта ні дзіўна, але па віне кіроўцаў са стажам да 1 году ДТЗ амаль не здараюцца. Потым кіроўцы «ўпэўніваюцца» ў сваім прафесіяналізме, а ў выніку – ДТЗ.

Вядома, што 70% ад агульнага забруджвання навакольнага асяроддзя – «на сумленні» аўтамабіляў. Як запэўніў начальнік аддзелу экалагічнага нагляду падпалкоўнік Генадзь Шылец, у нас дастаткова прыбораў, каб сачыць за гэтай праблемай. А днямі сталічныя экалагічныя міліцыянты па запрашэнні сваіх калег з Масквы наведаюць сталіцу суседняй дзяржавы, каб перадаць свой досвед.

Старшы інспектар прэс-групы Алена Акуліч распавяла пра дзіцячы траўматызм. Бацькі не тлумачаць дзецям, як сцерагчыся на вуліцы, а самае жахлівае, што падаюць ім адмоўны прыклад. З пачатку году было два ДТЗ па віне пешаходаў, у выніку якіх дарослыя памерлі на месцы здарэння на вачах у дзяцей, якія атрымалі цяжкія цялесныя пашкоджанні. Перад канікуламі распачнецца аперацыя «Увага, дзеці», і кіроўцам трэба загадзя рыхтавацца да язды ўдзень з уключанымі фарамі.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

ЭКСПРЭС

# Эканамічныя нататкі

### Махінацыі ў сотавай сувязі параўноўваюць з наркагандлем

Па ацэнках спецыялістаў, страты аператараў сотавай сувязі па ўсім свеце штогод складаюць каля 20-25 млрд. даляраў. Гэта шматлікія махінацыі з кантрактамі і рахункамі, крадзяжы і «кланаванне» сотавых тэлефонаў і іншыя хітрыя спосабы, каб ашукваць аператараў. Норма прыбытку ад гэтага віду махлярства не меншая, чым у наркагандлі, а рызыка значна ніжэйшая, бо ў большасці краінаў заканадаўства не мае адэкватных захадаў па барацьбе з ім. Напрыклад, з пункту гледжання расійскага заканадаўства мабільная сувязь адносіцца да элементаў камп'ютэрнай сеткі, таму фармальны склад злачынства ў гэтым выпадку – «умяшанне ў працу камп'ютэрнай сеткі», а максімальны прысуд – «ад 3 да 5».

### Польшча «выклянчыла» ў ЕС ільготы

Еўрапейскі Саюз пайшоў насустрач Польшчы і адклаў да 2009 году ўвядзенне ў гэтай краіне еўрапейскага акцызу на цыгарэты. Польшча як кандыдат у ЕС павінна прывесці сваю падатковую палітыку ў адпаведнасць з саюзнай. Напрыклад, акцыз на найбольш хадавыя гатункі цыгарэт павінен быць даведзены да 57% ад паштучнага гандлёвага кошту (узровень у краінах ЕС) супраць сапраўдных 52%. Увядзенне ў Польшчы еўрапейскага падатку падвоіла б кошты на цыгарэты пасля запланаванага на 2004 год яе ўваходу ў ЕС, чаго польскі ўрад пабойваецца. Іншыя кандыдаты, такія, як Чэшская Рэспубліка і Венгрыя, не задаволены гэтым выключэннем, бо яны «дапрасіліся» адтэрміноўкі тытунёвага акцызу толькі да 2007 году. Акрамя таго, Польшчы дазволены да 2007 г. нулявы падатак на дабаўленую вартасць на кніжную прадукцыю і 7-працэнтны падатак на рэстаранныя паслугі.

### Літва сур'ёзна бароніць свайго вытворцу

Літоўскі ўрад зацвердзіў спіс 17 краінаў з нярынкавай эканомікай, да якіх будзе прымяняцца спецыяльны рэжым у знешнім гандлі. Згодна з рэгламентам Савету Еўропы, туды былі ўнесены Албанія, Беларусь, Грузія, Расія, Кітай і яшчэ шэраг краін СНД і Усходу. Кошт на прадукцыю, якая імпартуецца з гэтых краін у Літву, будзе вызначацца ў адпаведнасці з коштам на аналагічную прадукцыю, выробленую ў краінах з рынкавай эканомікай. Кошт тавару, які экспартуецца з краін рынкавай эканомікі, усталёўваецца па кошце ўнутранага рынку экспарцёра. Патрэба ва ўсталяванні адэкватнага кошту ўзнікае, калі ёсць падазрэнне, што імпарцёр наўмысна заніжае яго і падрывае пазіцыі літоўскіх вытворцаў.

### «Пірацкія» дагаворы атрымалі моц закону

У мінулым месяцы атрымалі моц аж два міжнародныя пагадненні аб абароне Сусветнай сеткі «інтэрнэт» ад пірацтва. Першае з іх – «Аб абароне аўтарскіх правоў у інтэрнэце», падрыхтаваны Сусветнай арганізацыяй інтэлектуальнай маёмасці *World Intellectual Property Organization*, было падпісана 160 краінамі. Другое – «Дамова аб прадстаўленнях і фанаграмах», што ахоплівае сферу гуказапісу, было падпісана 30 краінамі (Беларусь таксама значыцца ў іх шэрагу). Гэтыя дамовы, што маюць на мэце падтрымку, абарону і садзейнічанне творчым людзям у інтэрнэце, былі прынятыя яшчэ ў 1996 годзе і атрымалі моц закону праз 3 месяцы пасля таго, як іх ратыфікавалі дзяржавы-ўдзельніцы.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

 



# Забирай свои игрушки...

## *Беларусь опять конфликтует с Европой*

*Официальный Минск в очередной раз инициировал громкий международный скандал. Традиционно противником белорусского режима выступили Западная Европа и США в лице своих корпоративных организаций – ОБСЕ, а также ARTICLE 19.*

Правда, на этот раз все случилось несколько неожиданно. 14 апреля истекал срок аккредитации в Беларуси и.о. руководителя Миссии КНГ ОБСЕ **Мишеля Риволье.** Однако на поданное накануне прошение с просьбой продлить аккредитацию белорусская сторона ответила категорическим отказом – прозрачно намекая, что вопросы аккредитации представителей миссии могут быть решены только после пересмотра мандата КНГ ОБСЕ. Как известно, правящая администрация настаивает на том, что Консультативно-мониторинговая группа, с одной стороны, должна резко уменьшить объем своих консультаций с неправительственными организациями и оппозиционными политическими партиями, а с другой – резко увеличить количество и расширить содержание встреч с официальными представителями. Само собой, со стороны западных организаций последовали жесткие комментарии. *«Отказав исполняющему обязанности руководителя КНГ ОБСЕ в Минске г-ну Риволье во въездной визе, Беларусь тем самым нарушила свои обязательства и тот дух сотрудничества, на котором основывается ОБСЕ. Для установления отношений между Беларусью и ОБСЕ необходимо сотрудничество, а не обструкционизм. В противном случае Беларусь подвергает сомнению самые основы своих отношений с этой организацией»,* – говорится в заявлении посла США при Постоянном Совете ОБСЕ **Стефана Миникеса**, сделанном им 11 апреля в Вене. В общем, налицо серьезное обострение отношений.

### Холодный ветер

По существу, этот демарш официального Минска означает только одно – желание в любом случае избавиться от присутствия в Беларуси постоянных представительств любых влиятельных международных организаций. Ничего удивительного. Дело в том, что постоянное представительство предполагает детальный мониторинг всего того, что происходит в стране. Понятно, что наблюдение на постоянной основе вряд ли позволит сделать вывод о том, что властная система Беларуси становится более демократичной и либеральной. А значит, репутация официального Минска на внешних рынках останется без изменений.

Иное дело – кратковременные визиты отдельных европейских чиновников. Несомненно, только двухдневные инспекции никогда не позволят заинтересованным лицам глубоко проникнуть «в тему». Собственно, поэтому белорусским официальным лицам гораздо больше по нраву, когда тот или иной европейский комиссар приезжает к нам всего дня на два-три. За это время ему, конечно, можно предложить весьма насыщенную информационную программу с нужными администрации «героями» и «комментариями». И даже тот факт, что любой кратковременный визит еврокомиссаров предполагает набор встреч с представителями оппозиционной стороны, нисколько не улучшает ситуацию. Слишком много сумбура и слишком мало времени. Только нахождение в Беларуси на постоянной основе может позволить европейской бюрократии сделать правильные выводы о внутренней напряженности, о реальных влиятельных группах, о возможных направлениях развития ситуации.



Михаил Хвостов

А ведь некоторым европейским *VIP*'ам уже казалось, что **«белорусский кризис»** в ближайшее время будет разрешен к обоюдной радости. Казалось им, что стороны, несмотря на негативистскую стагнацию внутренней политики Беларуси, все-таки пришли к взаимовыгодному договору. «Уступка за уступку». «Шаг за шагом». Называйте как хотите. Скажем, Европа готова была закрыть глаза на тот факт, что уже в течение трех месяцев назначенный на место **Ханса-Георга Вика** руководителем миссии ОБСЕ в Минске **Эберхард Хайкен** не может получить визу. Более того, вопрос с аккредитацией Хайкена и вовсе исчез из повестки дня. В то же время белорусская сторона вроде бы обозначила свои намерения также идти на определенные уступки. Так, местный парламент – при всей условности его законодательных полномочий – решил обсудить на ближайшей сессии перспективы отмены в РБ смертной казни, а также возможность введения в стране должности «уполномоченного по правам человека». Затем официальный Минск и вовсе шокировал общественность – досрочно был освобожден самый известный политический узник Беларуси **Андрей Климов**.

Сам **Лукашенко** в последнее время также намекал на возможность некоторого потепления белорусско-европейских отношений. Наблюдатели восприняли это с пониманием. Россия – наш ближайший союзник – явно заинтересована в тесной политико-экономической интеграции с европейским сообществом. На таком фоне официальный Минск, казалось бы, не мог уже играть роль маленького изгоя в центре Европы. Но так только казалось. Очевидно, у Минска случился рецидив старой болезни.

Это далеко не первая пикировка с западными демократиями, и, судя по всему, не последняя. Лукашенко не изменяет своим привычкам. Хотя несколько и удивляет совершенно неоправданное с точки зрения стратегических выгод нынешнее ухудшение белорусско-европейских отношений. Дело в том, что особых дивидендов нынешняя акция по выдавливанию представительства ОБСЕ из Беларуси официальному Минску не принесет. Ведь сегодня Беларусь не переживает сколько-нибудь значимого социального или политического напряжения. Страна еще не выбралась из поствыборной дремоты. Да и внешнее давление вроде бы несколько ослабело. Следовательно, яркие PR-акции, тем более негативного свойства, не имеют смысла.

Зачем же тогда обозначать свой конфликт с Европой, если никаких выгод это не принесет? С точки зрения ситуативной логики, официальному Минску сегодня гораздо выгоднее поощрять Европу к смягчению позиций, демонстрируя при этом готовность идти на несущественные уступки. Отмена смертной казни в обмен на частичную легитимизацию властных институтов Беларуси на европейской политической арене – разве не интересный размен? Оказывается, нет. Впрочем, местный госменеджмент всегда отличался алогичным мышлением.

### Генетическое уродство

Нынешняя атака на КНГ ОБСЕ – уже третья по счету крупная акция в отношении миссии. Еще в декабре 2000 года рядом официальных лиц было заявлено начало «боевых действий» против представительства ОБСЕ в Минске. Лукашенко, выступая в ноябре 2000 года перед сотрудниками КГБ с объяснениями некоторых громких кадровых решений, счел нужным не только «раскрыть» попутно несколько потенциальных заговоров в белорусском обществе, но также и категорически высказаться относительно позиций западных демократий. Президент заявил тогда о том, что *«пора пересмотреть роль и место миссии ОБСЕ в Беларуси»*. В той гигантской *PR*-акции приняли участие многие топ-чиновники и практически все проправительственные СМИ. Урал Латыпов, только покинувший в то время МИД, первым заявил, что *«действия миссии выходят за рамки мандата»*. Именно этот латыповский пассаж сегодня используется как весомый довод белорусской стороны в ее конфронтации с ОБСЕ.



Ханс-Георг Вик

По версии официального агитпропа, высказанной тогда же, КНГ ОБСЕ якобы намеренно снабжает западные демократии непроверенной и не соответствующей действительности информацией о состоянии политических дел в президентской Беларуси с тем, чтобы спровоцировать Запад на ужесточение санкций против РБ.

Накануне президентских выборов (т.е. летом 2001 года) атаки на КНГ и руководителя миссии Вика достигли своего апогея. Достаточно припомнить в этой связи широко разрекламированное официальным Минском «разоблачение» шпионской игры Запада под названием «Белый Аист». Но тогда на кону стоял вопрос о президентстве. А что сейчас?

Между прочим, стоит признать, что на этот раз правящая администрация более основательно подготовилась к собственной «военной акции». Никакой истерии. Скажем в отличие от прошлых конфликтов, на этот раз избрана тактика игнорирования и выжидания. Белорусские чиновники не делают громких заявлений, не требуют принудительной депортации. Они просто не продляют аккредитацию, а двойственность ситуации оставляют «без комментариев». В дополнение официальные лица отказываются от встреч с иностранными представителями, если те предлагают к обсуждению спорные темы. Именно так поступили чиновники МИДа, администрации президента, отказавшись обсуждать проект нового закона о СМИ с представителями *ARTICLE 19*.

Всему этому алогизму есть несколько объяснений. Во-первых, Лукашенко привык жить и работать в экстремальных условиях. Любой конфликт тонизирует не только главу государства, но держит в напряжении всю исполнительную вертикаль. Позволяет поддерживать тональность пропагандистских программ. Переключает внимание общественности с внутренних кризисов на мнимые межгосударственные конфликты. Во-вторых, судя по всему, официальный Минск старательно готовится к консервации нынешней внутриполитической ситуации. Правящая группировка пытается найти приемлемую формулу, которая позволит на неопределенное время сохранить в стране нынешний властный статус-кво. Может быть, с небольшими косметическими изменениями/дополнениями. Подобную формулу – будь она изобретена – сложно будет реализовать, если в Беларуси по-прежнему будут работать на постоянной основе несколько влиятельных западных миссий. Две из подобных миссий – КНГ ОБСЕ и посольство США – особо досаждают официальному Минску. Ведь Лукашенко не хочет «закрывать» границы. Ему хотелось бы иметь возможность работать на внешних рынках, заимствовать ресурсы и технологии, но не отчитываться в связи с нарушениями прав и свобод собственных граждан.

Кроме всего прочего, перед Лукашенко до сих пор остро стоит проблема его внешнеполитической легитимности как президента. И это заставляет нервничать как самого А.Г., так и его окружение. Именно нервная реакция местных *VIP*'ов и составляет еще одну причину атаки на КНГ ОБСЕ.

Само собой, на любых цивилизованных внешних рынках очевидное пренебрежение принципами политической демократии неизбежно может обернуться для Лукашенко окончательным вытеснением его даже из того минимума политических рынков, на которых он сегодня еще присутствует. Только с политическим маргиналом маловлиятельной и нересурсной державы вряд ли понравятся даже супер-диктаторам Кастро, Ким Чен Иру и Хусейну, пытающимся добиться от мировой общественности хотя бы минимальных уступок. Более того, окончательная внешнеполитическая маргинализация Лукашенко больнее всего ударит по перспективам местных хозяйственников пробить собственное участие на мировых рынках технологий, продаж, инвестиций.

И Беларусь, и прочие постсоциалистические государства Восточной Европы в демократическом плане были абсолютно незрелыми государствами, которые практически не располагали устойчивыми демократическими традициями. Более того, в некоторых из подобных государств далеко не весь социум жаждал жить в новых ценностных условиях. В свою очередь, Западная Европа через создание посреднических структур типа КНГ ОБСЕ пыталась пропагандировать в подобных странах классические демократические ценности. В этом состоит роль и суть деятельности любой мониторинговой миссии.

Официальный же Минск – уникальный случай в посткоммунистической восточной Европе – вряд ли заинтересован в существовании и развитии в Беларуси полноценного гражданского общества. Ведь в этом случае невозможным станет существование авторитарной, неподконтрольной обществу власти президента Лукашенко. В этом и состоит конфликт интересов КНГ ОБСЕ и окружения президента Лукашенко.

**Михаил ПОДОЛЯК**

 

# Коммунистическая лимита

## Кремль резко ослабил позиции КПРФ в Госдуме. Лукашенко это не понравилось...

*На минувшей неделе в России завершилась локальная политическая игра. Завершилась двояко. С одной стороны, некогда безмерные возможности Коммунистической партии Российской Федерации (и ее парламентской фракции) существенно скукожились. Однако спикер-коммунист Геннадий Селезнев – «предмет» особой заботы белорусского президента – усидел в спикерском кресле.*

Нынешний скоропостижный пересмотр так называемого «пакетного соглашения», т.е. принципов распределения руководящих постов в Государственной Думе РФ, знаменовал начало новой избирательной кампании в России. Напомним, что выборы следующего состава российского парламента состоятся уже через полтора года. Срок не такой уж и большой. Если учесть, какие ставки на кону. И если не забывать, какие бюджеты консолидируют российские политические группы аккурат в канун больших выборов.

### «Левый» исход

Несколько неожиданный блицкриг по устранению КПРФ от реальных рычагов влияния в парламенте прошел, в общем-то, без особых эксцессов. В результате бескровного переворота коммунистическая фракция – вторая по величине в российском парламенте – лишилась не только руководства рядом ключевых думских комитетов, но и оказалась перед совершенно необычной для нее политической конфигурацией. Хотя КПРФ всегда позиционировала себя в качестве непримиримой оппозиции, работать компартия привыкла сугубо в комфортных условиях. Скажем так: в условиях доступа к неограниченным властным ресурсам. Нынче коммунистам предложили поработать в качестве политического аутсайдера и на частных (спонсорских) ресурсах.

По существу, российские коммунисты привыкли к тому, что Госдума является не только своеобразным организационно-ресурсным центром «левых», но и мощным избирательным штабом. Что явно способствовало двукратному триумфу коммунистов на парламентских выборах. Но уже осенью 1999 года на думских выборах впервые относительную победу одержали пропрావительственные центристы из блока «Единство». Казалось, что после этого коммунистическая гегемония в высшем законодательном органе прекратится. Но неожиданно для многих кремлевских политтехнологи, в какой-то степени сознавая парламентскую неопытность собственного партийного детища, предложили заинтересованным лицам из КПРФ пресловутое ***«пакетное соглашение»***. Согласно «пакету», центристы из «Единства» и «ОВР», а также коммунисты получили под свой контроль практически все влиятельные думские комитеты. Таким образом, даже потерпев относительную неудачу на выборах, коммунисты совместно с сателлитами из Аграрной фракции Николая Харитонова продолжали играть заметную роль в парламенте. Однако весной 2002 года за считанные дни ситуация кардинально изменилась. Сами левые явно не ожидали такой мощной атаки со стороны проправительственных экс-союзников.

Следует, правда, заметить, что изгнание коммунистов абсолютно соответствует сложившейся на сегодня политической конъюнктуре. Ведь сейчас ни парламентская фракция КПРФ, ни партия коммунистов не играют в российском обществе той роли, которую они играли в течение всех последних лет правления Бориса Ельцина. Более того, судя по явно одиозному и неуместному поведению лидера коммунистов Геннадия Зюганова, его партия постепенно маргинализируется. КПРФ так и не смогла по-настоящему «порозоветь», превратившись в социал-демократию европейского типа. Это связано, прежде всего, с неумением работать конструктивно даже на поле конкурентов. Вследствие этого российская компартия откровенно радикализируется, смыкаясь на ультралевом фланге с одиозными «трудороссами» (Анпилова) и виртуальным Движением в поддержку армии (Илюхина, Макашова).



Геннадий Селезнев



Александр Лукашенко

Смещение «коммунистических» председателей думских комитетов процедурно прошло безукоризненно. Растерянные коммунисты не смогли противопоставить мощной центристской атаке хотя бы полноценную информационную контркампанию. Единственной же заминкой в планах кремлевских технологов следует считать неудавшееся смещение спикера Госдумы Геннадия Селезнева. Если, конечно, предположить, что смещение спикера действительно входило в планы авторов «бархатной парламентской революции». Впрочем, о Селезневе ниже.

### Двойная игра

На мой взгляд, «освобождение» Думы от засилья сановных коммунистов ценно не только само по себе. Дело в том, что в канун парламентских выборов 2003 года, Кремль всерьез озаботился строительством сильной «партии власти». Кремлевская администрация, регулярно пользующаяся услугами продвинутых политтехнологов, абсолютно резонно полагает, что парламентские выборы необходимо выигрывать с результатом 30-35%, а то и все 45%, вытесняя и правых, и левых в маргинальные зоны и оставляя им не более чем по 10% на каждый лагерь. Неплохая идея. Оставалось только добиться объединения всех прокремлевских и центристских группировок под общим организационным и руководящим началом.

Однако начавшееся было слияние «Отечества – Всей России» и «Единства» в новую партию под общим брендом «Единая Россия» привело к многочисленным скандалам и накладкам. Прежде всего следует отметить беспрецедентную борьбу за номенклатурные должности в рядах партии на уровне областных и городских политсоветов. Как говорится, мест мало, а желающих много. «Единая Россия» начала раскалываться, не будучи созданной. Добавим к этому, что ряд влиятельных губернаторов, вступив в противоречия с новоиспеченными партийными боссами, пригрели под своим крылом осколки «ОВР» и «Единства». За бортом новой партии осталось много рядовых активистов двух экспартий власти. Все это только доказывает очевидное – проект «ЕР», казавшийся вначале обреченным на успех (все-таки имеется такой административный ресурс), по старинной российской традиции откровенно пробуксовывает в регионах. Не спасает «ЕР» даже авторитет Путина.

Авторы проекта «Единая Россия» вовремя поняли, что проект не только ресурсно чрезвычайно затратен, но также и весьма пролонгирован по времени. Получается, что к началу избирательной кампании Кремль может и не успеть подготовиться во всеоружии. В связи со всем этим и появилось более интересное решение.

Нейтрализация фракции КПРФ в Госдуме – не просто более быстрый и явно менее затратный путь подготовки Кремля к парламентским выборам. Во-первых, произошло существенное перераспределение основных законодательных рычагов в пользу уже существующей центристской «партии власти». Подобное перераспределение вполне может сгодиться при подготовке и утверждении некоторых изменений и дополнений в выборное законодательство. Если таковые понадобятся. Во-вторых, у КПРФ теперь заметно поубавилось возможностей для участия в теневых предвыборных играх. Резкое падение веса партии в коридорах власти, конечно же, не на руку Зюганову и К°. В-третьих, «партия власти», помимо перераспределения организационных ресурсов, пытается также нейтрализовать и социальную составляющую предвыборных программ КПРФ. Так, основными информационными элементами последних промокампаний центристов являются такие понятия, как государственность, патриотизм, консерватизм *etc*.

Очевидно, все это сильно уязвило самолюбие коммунистических вождей. В частности, Геннадий Зюганов и не скрывает собственной обиды на экс-союзников: *«Я считаю, что в кремлевской администрации слишком много развелось интриганов. Вместо того чтобы нормально работать в государственных органах, они разваливают последний государственный институт. Им уже удалось парализовать Совет Федерации, который превратился в место ссылки, в почетные кадры. У нас будет совет, мы примем решение то, которое сочтем нужным»* **(«Vesti.Ru», 3.04.2002)**. Понять гнев Зюганова несложно. Изгнание коммунистов из ключевых думских комитетов, несомненно, снизит «индексы цитируемости» коммунистических лидеров в преддверии выборной кампании. КПРФ – как традиционно активный ньюсмейкер, в том числе и во властных кулуарах – сразу теряет существенную часть своей привлекательности для тех же российских СМИ.

Впрочем, едва ли не самый важный итог антикоммунистического реванша в Госдуме состоит в том, что в 2003 году КПРФ уже не сможет превратить парламентский аппарат в свой собственный избирательный штаб. Коммунисты традиционно пользовались во время выборной кампании спецсвязью, помещениями, ресурсами Думы. Теперь наверняка все будет иначе. Эти ресурсы будут востребованы «единороссами».

Несомненным также представляется и раскол в рядах партийной элиты КПРФ. Особенно ярко это проявилось в тот момент, когда встал вопрос о снятии спикера Селезнева. Пленум КПРФ, состоявшийся 10 апреля, буквально-таки потребовал от Геннадия Николаевича покинуть пост руководителя отныне «вражеской» Думы. Но Селезнев остался. Если к поступку Селезнева добавить прокремлевское поведение кемеровского губернатора Амана Тулеева, а также действия ряда губернаторов «красного пояса», которых Кремль старательно встраивает в систему вертикальной власти Путина, кризис в рядах КПРФ еще более впечатлит. А ведь и Тулеев, и Селезнов относятся к группе так называемых «розовых», умеренных коммунистов, способных конструктивно работать в рамках существующей власти. Их уход – в той или иной форме – еще дальше выталкивает КПРФ с поля конструктивной оппозиции.

### Белорусские слезы

Ослабление позиции коммунистов в российской законодательной власти непосредственно касается и Беларуси. Ведь именно левая российская оппозиция обеспечивала массированную публичную поддержку политике Лукашенко. Зюганов никогда и не скрывал, что видит в Лукашенко мощного союзника, при помощи которого КПРФ может попытаться захватить власть в России. Правда, подобные мечты и российских левых, и белорусского «батьки» явно остались в далеком – ельцинском – прошлом.

Однако Лукашенко, очевидно понимающий, что для него лично означает лишиться в Москве хотя бы какого-нибудь публичного союзника, попытался поучаствовать в около-думской интриге. Так, уже в Москве накануне встречи с Путиным, белорусский лидер заявил: *«Я считаю, что Геннадий Селезнев должен остаться на своем посту – председателя Государственной Думы. Я в этом заинтересован, так как Геннадий Селезнев – это «мотор интеграции», и я хотел бы, чтобы он и дальше оставался членом Высшего Госсовета»* **(«СБ», 12.04.2002г.)**. Остаться в одиночестве – вот в чем заключается соль нынешней паники мистера Лукашенко. Ведь и в так называемом Межпарламентском собрании Союза России и Беларуси доминирующую роль играют также коммунисты. Именно они обеспечивают полноценный промоушн концепциям Александра Григорьевича на российской территории. Обеспечивают «общесоюзные» инициативы А.Г. законотворческой процедурой. Внешнеполитические высказывания Лукашенко, которые явно противоречат позиции Кремля, обязательно поддерживаются российскими коммунистами-парламентариями. Этот тандем работал долго и плодотворно. И вот теперь наступает крах.

Позиции Лукашенко в России сегодня просто смехотворны. У А.Г. нет регулярного доступа в Кремль. Он может прибыть на рандеву с российскими лидерами только по вызову принимающей стороны. Лукашенко явно не только плохо коммуникатирует с нынешней кремлевской администрацией, но и не находит понимания в российском правительстве и среди помощников российского президента. «Друг» и «учитель» Евгений Примаков несколько поостыл к Александру Григорьевичу из-за того, что последний не почувствовал российской конъюнктуры в послеельцинский период. Теперь Лукашенко лишается мощной поддержки в лице влиятельных некогда думских коммунистов. Стоит ли удивляться после этого его крику о помощи – «оставьте хотя бы Селезнева!»? В противном случае в рядах российского политического истеблишмента у Лукашенко не останется ни одного задушевного собеседника...

**Михаил ПОДОЛЯК**

**ФОНДЫ**

# «За новую Беларусь»

16 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску былы міністр сельскай гаспадаркі Беларусі Васіль Лявонаў паведаў пра ўстаноўчы сход новай грамадскай арганізацыі – расійска-беларускага фонду «За новую Беларусь», які днём раней адбыўся ў Маскве.

В.Лявонаў нагадаў, што яшчэ летам 2001 году ў Мінску прайшоў устаноўчы сход беларускай грамадскай арганізацыі «За новую Беларусь». Тады ж у Міністэрства юстыцыі Беларусі былі пададзены дакументы для рэгістрацыі фонду, аднак адказу дасюль няма. З-за яўнай чынойніцкай цяганіны, зазначыў Лявонаў, было вырашана правесці ўстаноўчы сход зараз ужо беларуска-расійскага фонду «За новую Беларусь» на тэрыторыі Расіі.

15 красавіка ў Маскве былі абраны папячыцельскі савет і праўленне фонду. Старшынёй праўлення стаў вядомы беларускі паэт Уладзімір Някляеў. У папячыцельскі савет увайшлі: з беларускага боку – Васіль Лявонаў, Міхаіл Чыгір, Аляксандр Ярашук, Станіслаў Багданкевіч і Уладзімір Хілько, з расійскага – Аляксей Сіманаў і Валянцін Гефтэр. 18 красавіка дакументы для рэгістрацыі беларуска-расійскага фонду будуць пададзены ў Міністэрства юстыцыі Расіі.

Васіль Лявонаў падкрэсліў, што ў задачы арганізацыі ўваходзіць асветная і дабрачынная дзейнасць у Беларусі і Расіі. Мэтай фонду з'яўляецца садзейнічанне станаўленню дэмакратычных супольнасцяў у Беларусі і Расіі. «Хочам мы гэтага ці не, але па развіцці дэмакратычных інстытутаў, грамадзянскай супольнасці мы на парадак адстаём ад Расіі. Таму мы маем намер знаёміць насельніцтва з дасягненнямі суседняй краіны ў гэтай галіне» – сказаў Лявонаў.

Паводле словаў Лявонава, у сваёй дзейнасці фонд будзе кантактаваць з расійскімі палітычнымі сіламі, «настроі якіх не з'яўляюцца імперыялістычнымі».

**БелаПАН**

## СУББОТА • 27 АПРЕЛЯ



**07.00, 09.00, 15.00, 19.00** Новости.
**07.10** П.Ришар в сериале «Без семьи». 1-я серия.
**08.05** Познавательный сериал «Пятое измерение».
**08.30** Існасць. Духовная программа.
**09.15** Экран индийского кино. **«Я ПОЛЮБИЛ»**. 1-я и 2-я серии.
**12.25** Сад мечты. Передача для дачников.
**12.55** Королевская охота.
**13.20** Здоровье. Тележурнал.
**13.45** Приключенческий сериал «Шака Зулу» (США - Италия). Фильм 1-й «Цитадель». Часть 1-я.
**14.30** «Кортес». Док. фильм о народном артисте Беларуси композиторе Сергее Кортесе («Белвидеоцентр»).
**15.20** Детективный сериал «Комиссар Шимански» (Германия).
**16.50** Белорусская двадцатка.
**17.15** «Пять чудес».
**17.45** Волшебная шкатулка «Союзмультфильма». «Синяя птица».
**18.35** Из достоверных источников.
**19.25** КВН. 1/8 финала Евролиги.
**21.00** Панорама недели.
**22.05** Спорт-курьер.
**22.15** Н.Кински и Ш.Генсбург в криминальной драме **«НАРУШИТЕЛЬНИЦА»** (США - Канада).
**23.50** Прыжки в воду. Международный турнир памяти С.Портнова.
**00.30** Сериал «Одиссея» (США). 1-я серия.
Признанные мастера мирового кино-А.Кончаловский и Ф.-Ф.Коппола-перенесли на экран гениальное творение Гомера. Роскошная постановка величайшей эпической поэмы древнего мира позволила обрести новую жизнь легендарной истории странствий Одиссея, царя Итаки,которому греки были обязаны победой в Троянской войне.
В ролях: А.Асанте, Г.Скакки, Д.Чаплин и др., США, 1996 г.
**01.20** Док.сериал «Пары и дуэты».



**08.00** Новости.
**08.15, 18.00** «Семейные узы». Сериал.
**09.15** Док. детектив. «Разгром Бауманской преступной группировки». Дело 2001 года.
**09.45** Поле чудес.
**10.45** «Ералаш».
**10.50** Библиомания.
**11.00** Новости (с субтитрами).
**15.00** Ирина Скобцева, Вера Глаголева, Лидия Смирнова в фильме **«НАСЛЕДНИЦЫ»**. 2-я серия.
**16.00** Большая стирка.
**17.00** Вечерние новости.
**17.25** Док. детектив. «Как взорвали Дудаева». 1996 год.
**19.00** «Кто хочет стать миллионером?». Телеигра.
**20.00** Время.
**20.35** Комедия **«НА РЫБАЛКУ!»**.
Два старых приятеля средних лет отправляются из Нью-Джерси на ежегодную рыбалку в Эверглейд, штат Флорида. Но несмотря на их решимость, это оказывается не так-то просто для незадачливого дуэта. Сначала какой-то психопат угоняет автомобиль, потом их увлекают гонки на лодке, они попадают в ураган Эндрю, который, конечно же, не мог пройти стороной. Ужасный склероз одного и ... другого значительно усложняют дело.
Режиссер: Кристофер Сейн.
В ролях: Дэнни Гловер, Джо Пеши, Розанна Аркет, США, 1997 г.
**22.25** «Ника». Торжественная церемония.



**08.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**08.10** «Версия». Док. фильм.
**08.30** Золотой ключ.
**08.50** Экспертиза РТР. Дайджест.
**09.00** Семейные новости.
**09.10** **«БРАТ ЗА БРАТА»**. Худ. фильм (Индия). 1997 г.
**10.20** Мелодрама «Жены и дочери». Сериал (Великобритания). 1999 г.
**16.20** Футбол. Чемпионат России. «Торпедо» (Москва) - «Анжи» (Махачкала). Прямая трансляция со стадиона «Лужники».
**18.00** «Комиссар Рекс». Сериал.
**18.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.35** Местное время. Вести - Москва.
**19.55** Ю.Беляев, О.Мысина, Н.Добрынин, М.Могилевская, А.Панин и С.Чонишвили в многосерийном худ. фильме **«СЕМЕЙНЫЕ ТАЙНЫ»**.
**20.55** А.Домогаров и В.Ильин в детективе **«МАРШ ТУРЕЦКОГО»**. Фильм 10-й. «Контрольный выстрел». Часть 2-я.
**22.15** Фильм **«КОНТРАКТ СО СМЕРТЬЮ»**.
Герой фильма, искусный хирург Глеб Сергеевич Игнатовский заключил негласный контракт с крупный аферистом Степановым, депутатом Госдумы. Степанов предлагает использовать человеческие органы "ненужных", на его взгляд, людей - воров, проституток, бомжей и т.п. Он организует своеобразный "санаторий". Однако, в "санатории" возникает бунт, а прозревший Глеб Сергеевич берет в руки автомат...
Режиссер: Дмитрий Астрахан.
В ролях: А.Мягков, Д.Певцов, О.Фомин, А.Легчилова, О.Сутулова, Ю.Пристром и др., 1998 г.
**00.45** Чемпионат мира по автогонкам в классе «Формула-1». Гран-при Испании. Квалификация. Трансляция из Барселоны.

**07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00** Сегодня.
**07.10, 07.35** Утро на НТВ.
**07.50** «Тайны следствия». Сериал.
**09.20, 16.45** Алчность.
**10.05** «Совершенно секретно». «Свои не чужие».
**11.20** Боевик **«МЕРСЕДЕС» УХОДИТ ОТ ПОГОНИ»**.
**13.20** «Продолжение следует...» с Юлией Меньшовой.
**14.15** Пепси-чарт.
**15.30** «Бандитский Петербург». Сериал.
**17.40** Криминал.
**18.00** «Сегодня» с Татьяной Митковой.
**18.35** «Свобода слова» с Савиком Шустером.
**20.15** Фильм **«ВЫКУП»**.
Триллер. У преуспевающего бизнесмена похищают сына и потребовали выкуп в два миллиона долларов за 48 часов. Но операция ФБР по освобождению заложника сорвалась, и тогда отец мальчика выступил по телевидению с обещанием выплатить сумму выкупа тому, кто освободит ребенка. Главарь похитителей - офицер полиции - воспользовавшись ситуацией, убивает сообщников и выдает себя за спасителя ребенка. Но мальчик, глаза которого были заклеены, узнал его по голосу. И тогда заложником стал и его отец...
Режиссер: Рон Хауард.
В ролях: Мэл Гибсон, Рене Руссо, Гэри Синис, Делрой Линдо, США, 1996 г.
**22.55** «Все сразу!» «Ночные развлечения».
**23.35** Сериал «Звездные врата». «Яд» (США).

**09.15** «Экспедиция «Чиж». Историко-этнографическая программа.
**09.40, 16.30** «Ренессанс». «Конец Ренессанса». Док. фильм.
**10.40** «Вас любить немудрено». Творческий вечер Веры Васильевой.
**11.30, 15.00, 17.30, 23.00** Новости культуры.
**11.50** «Дюймовочка». Мультфильм.
**12.20** «Фрак народа». Авторская программа В.Оренова.
**13.15** «Уроки русского». Н.В.Гоголь. «Мертвые души». Читает Михаил Ульянов.
**13.30** **«СВОЙ МЕТОД»**, **«УГРЮМЫЙ ОТЕЛЬ»**. Короткометражные худ. фильмы (США).
**14.30** Графоман.
**15.10** Кино - детям. «Маугли». Мультфильм. Часть 2-я.
**16.10** Л.Бетховен. Два романса для скрипки с оркестром. Солист В.Третьяков.
**17.45** «Дебют поколения». Док. фильм.
**18.15** «Потерянные шедевры». «Эрмитажная Америка». Часть 2-я.
**18.45** «Романтика романса». Ведущий Л.Серебренников.
**19.30** **«СВОЙ СРЕДИ ЧУЖИХ, ЧУЖОЙ СРЕДИ СВОИХ»**. Худ. фильм.
Окончилась гражданская война. России нужен хлеб, а его можно купить за границей только за золото. Губком партии из Сибири отправляет ценный груз в Москву, сопровождать который поручено группе чекистов. Однако сопровождающие убиты, золото похищено...
Режиссёр: Никита Михалков.
В ролях: Ю.Богатырёв, А.Солоницын, С.Шакуров, А.Пороховщиков, Н.Михалков, А.Кайдановский и др., 1974 г.
**21.00** Кинопанорама.
**21.45** «Марш Радецкого». Сериал (Австрия - Германия - Франция, 1994). Режиссер А.Корти.
**23.25** Прогулки по Бродвею.
**23.53** Программа передач.

**8 канал**

**15.00** Фильм-сказка **«СТАРИК ХОТТАБЫЧ»**.
**16.30** «Простой вопрос».
**16.40** Мультфильмы 50-х... «В некотором царстве».
**17.10** «Дела давно минувших дней».
**18.00** Гурман-клуб.
**18.20** Мерилин Монро, Тони Кертис в худ. фильме **«В ДЖАЗЕ ТОЛЬКО ДЕВУШКИ»**.
**20.20** К-видео «Топ-8».
**20.25** «Ракурс».
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** Телемагазин.
**21.15** Мэтью Бродерик, Жан Рено в худ. фильме **«ГОДЗИЛЛА»**.

**СТВ**

**06.15** «Канал истории»: «В поисках снежного человека». Док. фильм.
**07.15** «В гостях у Тофика».
**07.30** Мультсериалы: «Русалочка», «Тик-герой», «Джин-Джин из страны Пандаленд», «Симпсоны».
**10.00** «Пароль - «Вечность». Сериал.
**11.00** «Дискавери» на СТВ.
**11.15** «Ремонт».
**11.30** «Автопанорама».
**11.50** «Завтрак с Ликой».
**12.15** «Мир спорта».
**12.45** Криминальная драма **«ОПАСНЫЕ ДРУЗЬЯ»**.
30-летний Юрий Громов оказался на зоне, можно сказать, по глупости. Но здесь он попал под влияние уголовных "авторитетов". Вместе с ними он замышляет побег, не подозревая о том, что они, скорее всего, просто хотят его использовать в своих планах...
Режиссер: В.Шамшурин.
В ролях: Л.Прыгунов, П.Вельяминов, Г.Тонунц, А.Тришкин, В.Носик, 1979 г.
**14.50** «Очевидец».
**15.20** «Радиоточка».
**15.40** «Портрет в интерьере».
**15.55** «Добро пожаловаться».
**16.05** «Человек-паук». Мультсериал.
**16.45** «Граница. Таежный роман» Сериал.
**18.00** «Премьер-парад «Столичный».
**18.20** Док. фильм «Анатомия катастрофы».
**19.20** «Профессия, которую ты выбираешь».
**19.30** «Три хита в «Алькатрасе».
**20.00** «Час пик» с Григорием Новиковым.
**21.00** Сатирическая комедия **«АМЕРИКАНСКАЯ ДЕВСТВЕННИЦА»**.
Отец Катрины - продюсер порнофильмов. Не удивительно, что Катрина, когда пришло ее время, решила лишиться девственности весьма оригинальным способом - в интерактивном режиме, то есть в прямом телевизионном режиме, с трансляцией на весь мир. Идея эта пришла в голову самому заклятому конкуренту отца Катрины, что очевидно и вывело из себя папу американской девственницы...
Режиссер: Жан-Пьер Маруа.
В ролях: Мина Сувари, Боб Хоскинс, Роберт Лоджа, Сэлли Келлермэн, Франция - США, 2000 г.
**23.05** «Мутанты Икс». Сериал.
**00.10** «Новости мировой шоу-индустрии».
**00.40** «М 1». Музыкальная программа.

## ВОСКРЕСЕНЬЕ • 28 АПРЕЛЯ



**07.00, 09.00, 15.00** Новости.
**07.10** Сериал «Без семьи». 2-я серия.
**08.05** «Агромир». Информационно-аналитическая программа.
**08.30** Арсенал. Программа об армии.
**09.10** Слово Митрополита Филарета на праздник Входа Господнего в Иерусалим (Вербное воскресенье).
**09.25** Мультиклуб.
**09.50** Фильм - сказка. **«ИВАНКО И ЦАРЬ ПОГАНИН»**.
**11.15** «Всё нормально, мама!» Развлекательная программа.
**12.00** Телевитамин.
**12.25** «Одиссея». Сериал (США). 1-я серия.
**13.15** «Судьба человека». Божена и Сергей.
**13.40** III Международный фестиваль цирков в Будапеште.
**14.30** «Наше наследие». Шедевры Национального художественного музея Беларуси. Часть 2-я.
**14.45** «И другие официальные лица».
**15.20** Мир и мы.
**15.40** А.Сорди в комедии **«Я И КАТЕРИНА»** (Италия).
**17.35** Криминальное досье.
**18.00** «Встреча в Троицком» с Александром Домарацким.
**18.30** «Время местное». Репортажи из провинции.
**19.00** Планета «АРТ».
**19.30** Телебарометр. Прогноз погоды.
**19.45** Энциклопедия белорусского спорта. Гандбол.
**20.00** Панорама аналитическая.
**20.40** Спорт-курьер.
**20.50** А.Ларионова в экранизации одноименного рассказа А.П.Чехова **«АННА НА ШЕЕ»** (к/с им. М.Горького).
**22.20** Футбол. Чемпионат Беларуси. «Динамо-Минск» - «БАТЭ» (Борисов). 2-й тайм.
**23.10** Миланская неделя моды в программе «Новая коллекция».
**23.35** Детективный сериал «Жюли Леско» (Франция).

**07.00** Новости.
**07.10** Служу России!
**07.40** Дисней-клуб. «Детеныши джунглей».
**08.05** Утренняя звезда.
**08.50** Библиомания.
**09.00, 14.00** Новости (с субтитрами).
**09.10** «Непутевые заметки» с Дм.Крыловым.
**09.30** Пока все дома.
**10.10** Спасатели. Экстренный вызов.
**10.40** Клуб путешественников.
**11.20** Детектив **«ТАЙНЫ ОТЦА ДАУЛИНГА»**.
**12.15** Юмористическая программа «Сами с усами».
**12.50** Умницы и умники.
**13.15** Сокровища Кремля.
**13.35** Дисней-клуб. «Микки Маус и его друзья».
**14.10** Песня года. Весна.
**16.00** Живая природа. «Голубая бездна».
**17.00** Вечерние новости.
**17.20** Светлана Светличная в комедии **«СТРЯПУХА»**.
**18.50** «Шутка за шуткой». Юмористическая программа.
**19.25** Николас Кейдж и Джон Малкович в боевике **«ВОЗДУШНАЯ ТЮРЬМА»**.
**21.30** Времена.
**22.45** Фильм **«ХОФФА»**.
Взлет и падение самого знаменитого авантюриста и политика от американских профсоюзов Джимми Хоффы. Во времена президента Эйзенхауэра он уговаривал водителей грузовиков вступить в его профсоюз. А во времена Никсона он погибает от рук наемных убийц. Между тридцатыми и семидесятыми - годы борьбы за права, головокружительная карьера, сговор с мафией, тюрьма и снова свобода...
Режиссер: Дэнни ДеВито.
В ролях: Джек Николсон, Дэнни ДеВито, Арманд Ассанте, Дж. Т. Уолш, США, 1992 г.

**06.35** «Астерикс и Клеопатра». Мультфильм (Франция).
**07.45, 01.38** Прогноз погоды.
**07.50** Русское лото.
**08.40** Всероссийская лотерея «ТВ Бинго шоу».
**09.20** Доброе утро, страна!
**09.55** Сам себе режиссер.
**10.50** «Городок». Дайджест. Развлекательная программа.
**11.25** Комедия **«МАТИЛЬДА»**.
Матильда - очень необычная девочка. Ну посудите сами - умножать в голове огромные цифры, двигать взглядом предметы, и делать еще много чего сверхъестественного - это что, по-вашему, нормально? Но ее родители равнодушны к ней - их не только не поражают способности Матильды, им даже не интересно, как живет их дочь. Все, чего хотят "сердобольные" мама с папой - избавиться от нее. Так они и поступают - отправляют девочку в интернат. Вот там-то Матильда и начинает давать волю своим поразительным талантам...
Режиссер: Денни ДеВито.
В ролях: Реа Перлман, Дэнни ДеВитто, Мара Уилсон, Эмбет Дэвитс, США, 1996 г.
**13.00** Вести.
**13.20** Парламентский час.
**14.05** Диалоги о животных.
**15.00** Вокруг света.
**15.50** ТВ бинго новости.
**15.55** Аншлаг.
**17.00** Жан-Клод Ван Дамм в остросюжетном фильме **«УЛИЧНЫЙ БОЕЦ»** (США). 1994 г.
**19.00** Вести недели.
**20.10** «Комната смеха». Юмористическая программа.
**21.10** Комедия **«СВАДЬБА ЛУЧШЕГО ДРУГА»**.
9 лет назад Джулианна Поттер и Майкл О Нил заключили соглашение: если до 28 лет они не влюбятся, то поженятся между собой. Лучшие друзья еще со студенческих времен, они почти позабыли о своем юношеском договоре. И теперь, в 28 лет, Майкл снова поднял вопрос о свадьбе, но уже с другой. Джулианна никогда не знала, что же ей действительно нужно, пока не почувствовала, что это "что-то" уходит из ее жизни. И теперь у нее есть только четыре дня и собственная смекалка, чтобы вернуть Майкла себе.
Режиссер: Пол Джей Хоган.
В ролях: Джулия Робертс, Дермот Малруни, Камерон Диас, Руперт Эверетт, Эммет Уолш, США, 1997 г.
**23.15** Спорт за неделю.
**23.45** Чемпионат мира по автогонкам в классе «Формула-1». Гран-при Испании. Трансляция из Барселоны.

**07.00, 09.00, 11.00, 15.00** Сегодня.
**07.20** Программа для детей «Улица Сезам».
**07.40** Ох, уж эти дети!
**08.10** Пепси-чарт.
**09.15** Криминал. «Чистосердечное признание».
**09.45** Все сразу!
**10.20** Квартирный вопрос.
**11.20** Боевик **«ПОКРОВИТЕЛЬ»**.
Американец китайского происхождения, служащий в полиции, получает задание вместе с напарником отыскать в Гон-Конге похищенную дочь крупного дельца. На месте им противостоят крутые парни из наркомафии. Но бравым американским копам удается не только освободить девушку, но и разгромить логово преступников.
Режиссер: Джеймс Гликенхауз.
В ролях: Джеки Чан, США, 1985 г.
**13.20** Вкусные истории.
**13.25** Служба спасения.
**14.00** Своя игра.
**15.20** «Бешеные гонки». Профессия - репортер.
**15.40** «Я и моя собака». Дог-шоу.
**16.35** Андрей Макаревич. «Женский взгляд» Оксаны Пушкиной.
**17.15** Очная ставка. «Ловушка в Интернете».
**17.45** Шоу Елены Степаненко.
**18.50** Детектив **«ТАЙНЫ СЛЕДСТВИЯ»**. 14-я серия.
**20.00** «Намедни» с Леонидом Парфеновым.
**21.15** Куклы.
**21.35** Мира Сорвино и Джереми Нортэм в остросюжетном фильме **«МУТАНТЫ»** (США).
**23.50** Сериал «Звездные врата». «Духи» (США).
**00.55** Журнал Лиги чемпионов.

**09.00** Программа передач.
**09.10** «Дикие животные». «Снова друзья».
**09.35** «Перепутовы острова». Телеигра для школьников.
**10.03, 14.59, 16.48** Анонсы.
**10.05** Детский сеанс. **«ПОСЛЕ ДОЖДИЧКА В ЧЕТВЕРГ...»** Худ. фильм (К/ст. им. Горького, 1985). Режиссер М.Юзовский.
**11.20** Недлинные истории.
**11.35** 1001 рассказ о кино.
**11.50** **«КОЛЛЕГИ»**. Худ. фильм («Мосфильм», 1962). Режиссер А.Сахаров.
**13.30, 21.30** Новости культуры.
**13.45** Магия кино.
**14.10** «Люди земли и неба». Док. фильм. Режиссер С.Аранович.
**15.00** «Тайна Третьей планеты». Мультфильм.
**15.50** «В мире танца». «Пути танца. Хайнц Шпэрли». Док. фильм.
**16.50** Звездные годы «Ленфильма».
**17.35** Тем временем.
**18.15** Дом актера. «С любимыми не расставайтесь...».
**18.55** **«И ЖИЗНЬ, И СЛЁЗЫ, И ЛЮБОВЬ»**. Худ. фильм («Мосфильм», 1984). Режиссер Н.Губенко.
**20.32** Личные воспоминания о большой жизни.
**20.35** «Гость в актерской студии». Кевин Спейси.
**21.50** **«МОЛОХ»**. Худ. фильм.
Действие фильма разворачивается в течение суток в альпийском замке - секретной резиденции Гитлера. Авторы рассказывают о личной жизни фюрера, его отношениях с Евой Браун, которая, по ее словам, не знает, "где и кто с кем воюет". Гитлер нелеп, смешон... Несмотря на многие подробности, фильм вряд ли можно назвать историческим. Скорее, это размышления, каким мог быть этот злой гений, волей которого были уничтожены миллионы людей.
Режиссёр: Александр Сокуров.
В ролях: Леонид Мозговой, Елена Руфанова, Леонид Сокол, Владимир Богданов и др.
**23.53** Программа передач.

**8 канал**

**15.00** Фильм для детей «Фокус-покус».
**16.30** «Европа сегодня».
**17.00** Мультфильм «Утиные истории».
**18.00** Док. сериал «Взгляд на власть», 3-я серия.
**18.30** Звезды отечественного кино в худ. фильме **«ОТПУСК В СЕНТЯБРЕ»**.
**20.40** Телемагазин.
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** Программа «В баре «У Олега».
**21.45** Шон Коннери в боевике **«ЗОЛОТОЙ ПАЛЕЦ»**.

**СТВ**

**06.00** «Канал истории»: «Ритуалы вуду». Док. фильм.
**07.00** «1/52». Спортивное обозрение.
**07.15** «В гостях у Тофика».
**07.30** Мультсериалы: «Русалочка», «Тик-герой», «Джин-Джин из страны Пандаленд».
**09.00** «Час пик» с Григорием Новиковым.
**10.00** «Пароль - «Вечность». Сериал.
**11.00** «Три хита в «Алькатрасе»».
**11.30, 18.10** «Дискавери» на СТВ.
**12.00** «Завтрак с Ликой».
**12.25** «Премьер-парад «Столичный».
**12.45** Александр Марин, Татьяна Яковенко в криминальной драме **«ПРИГОВОРЕННЫЙ»**.
**14.50** «Очевидец».
**15.20** «Агентство». Комедийный сериал.
**15.50** «Человек-паук». Мультсериал.
**16.40** «Граница. Таежный роман». Сериал.
**18.00** «Здравствуйте, доктор!».
**18.25** «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.
**18.45** «Пока горит свеча...».
**19.15** «Автопанорама».
**19.35** «Добро пожаловаться».
**19.40** «168 часов Минска».
**20.45** Боевик **«ПОБЕГ ИЗ НЬЮ-ЙОРКА»**.
Остров Манхэттен превращен властями в своего рода резервацию, где содержатся бандиты всех мастей, живущие по собственным законам. Президент США, вынужденный катапультироваться в специальной капсуле с "самолета №1", попадает на Манхэттен. На его поиски отправлен Плисскен, по прозвищу "Змей".... Если операция по спасению президента завершится неудачно, "Змей" погибнет спустя 24 часа...
Режиссер: Джон Карпентер.
В ролях: Курт Расселл, Ли Ван Клиф, Эрнест Боргнайн, Дональд Плезенс, США, 1981 г.
**23.05** «Секретные материалы». Сериал.
**00.10** «Альфред Хичкок представляет». Сериал.
**00.45** Ночной музыкальный канал.
**01.50** «М 1» Музыкальная программа.

# Адзін дзень агульных бедаў

*По загадзе міністра ўнутраных справаў аднаўленая практыка правядзення адзінага дня прафілактыкі. Плануецца, што ў гэты дзень супрацоўнікі міліцыі актывізуюць узаемадзеянне з рознымі структурамі. Карэспандэнтаў НАШАЙ СВАБОДЫ запрасілі ў Фрунзенскі РУУС Мінску паглядзець, як гэта адбываецца на практыцы: паседжанні саветаў прафілактыкі на прадпрыемствах, рэйды па гандлёвых пунктах, пазапланавы прыём грамадзян кіраўніцтвам, праверка «падуліковага элементу» і шмат чаго яшчэ.*

## Жыццё «на дне»

Участковыя міліцыянты ўжо даўно распрацавалі самыя кароткія маршруты ад адной кватэры з «дрэннай рэпутацыяй» да другой. Пакуль ішлі, яны распавялі, што больш за 200 кватэраў маюць статус прытонаў, дзе збіраюцца алкаголікі, якія, што самае цікавае, звычайна добра забяспечаныя жыллём. За сістэматычную і працяглую няплату за святло, газ і ваду ў іх кватэрах адключаны ўсе гэтыя выгоды. Як сказаў намеснік начальніка аддзелу прафілактыкі і правапарадку Сяргей Бурдас, жыхары такіх кватэр могуць і вогнішча раскласці сярод пустых сценаў. Згодна з Жыллёвым кодэксам, гэтых грамадзян можна высяляць у кватэры меншай плошчы і меншага камфорту. Але магчыма гэта толькі па рашэнні суду. Пакуль такіх прэцэдэнтаў не было.

І вось мы прыйшлі на першы «аб'ект». За незачыненымі дзвярыма двухпакаёвай «хрушчобы», не здымаючы адзення, спала кабета. Па гэтым «адрасе» яна не прапісаная, а жыве разам з сужыцелем. Палова пакоя ператворана ў склад пустых бутэлек. Сваю, таксама двухпакаёвую кватэру, здае маладой сям'і, падаткаў не плаціць. Дзяцей, што знаходзяцца ў дзіцячым доме, не наведвае. Вельмі ўдзячная, што яе пазбавілі бацькоўскіх правоў: жыве сабе ў радасць.

У трохпакаёвай кватэры нас сустрэў гаспадар. Яго сын не так даўно вярнуўся з месцаў зняволення, а разам з ім у сталіцу з тых жа месцаў прыехаў і сябар – грамадзянін Расіі. На яго тыдзень таму склалі пратакол за пражыванне ў Мінску без рэгістрацыі, штраф ён не плаціць і кажа, што не збіраецца з'язджаць ад нас. Падабаецца тут яму. І не дзіва, ён нідзе не працуе, але добра апрануты, а харчуецца мясам ды гароднінай. Расійскага грамадзяніна папярэдзілі, што, калі не заплаціць штраф, чакае яго прыёмнік-размеркавальнік. На развітанне гаспадар папрасіў участковага Аляксандра Антановіча, зайсці ўдзень, калі «моладзі» не будзе дома, каб пагутарыць: непакоіцца, што яго могуць выкінуць на вуліцу. Кватэра ўразіла адсутнасцю шпалераў на сценах, паламанай мэбляй і не таннымі арганайзерамі і парфумай.

Зноў запыленыя дзверы з прыстасаваннем для навяснога замка. Але цяпер яны адчынены насцеж. У кватэры на канапах адпачываюць трое мужчын. На з'яўленне міліцыянтаў старэйшы з іх рэагуе так:

– Я, я галоўны, – кажа ён і шукае ключ, каб адчыніць шуфлядку і паказаць незнаёмым міліцыянтам пашпарт. А калі ўбачыў свайго участковага, дык нават павесялеў.

Старшы ўчастковы Аляксандр Лозікаў убачыў на кухні багата накрыты стол. Спытаў:

– Дзе рыбу лавілі?

– Дык, Леанідавіч, ты ж ведаеш, мы не крадзём. Здалі паперу і вось купілі паесці.

Як распавялі міліцыянты, рыба на стале ў такіх людзей – сапраўды свята. Звычайна яны харчуюцца больш чым сціпла. Ці ўвогуле толькі п'юць.

Мы прайшлі кватэраў дзесяць – паўсюль аднолькавы пах. Нават не танных напояў, а пах бруду. Дакладна, што гэты кантынгент мылам, шампунем, бытавой хіміяй не карыстаецца. А вось апранутыя яны часцей за ўсё ў вопратку з «сэканд-хэндаў».

## Псіхолаг у пагонах

Дваццацігадовая дзяўчына ўжо хвілінаў сорак скардзілася намесніку начальніка РУУС Аляксандру Сітко на жыццё. Ужо сем год, як памерла яе маці. На руках у бацькі засталося чацвёра дзяцей. Ён больш не жаніўся. Цяпер самай старэйшай – 20, самай малодшай – 10. А скардзілася дзяўчына на тое, што бацька патрабуе, каб яна мыла посуд, прыбірала ў кватэры. Ну, і кавалер яе бацьку не падабаецца. У юрыдычнай кансультацыі ёй парайлі падзяліць асабовыя рахункі. А ў міліцыю яна прыйшла, каб напісаць на бацьку заяву – жыццё ёй не дае. Калі б не месца дзеяння і міліцэйская форма, можна было б падумаць, што прыём вядзе псіхааналітык. Такой канцэнтрацыі эгаізму ў адным чалавеку, як у гэтай дзяўчыны, рэдка даводзіцца бачыць. Як ні тлумачыў маёр, што «ў сям'і наладзіць адносіны можа толькі сама сям'я, а не дзядзька міліцыянт», дзяўчына і слухаць не хацела. Не вытрымаўшы, я параіла дзяўчыне спачатку наведаць псіхолага. Міліцыянт падтрымаў прапанову, тлумачачы, што стэрэатып адносінаў да бацькі як да ворага застанецца ў яе на ўсё жыццё і перакладзецца на ўсіх мужчын. І нават з яе, цяпер улюбёным, кавалерам, праз год-два адносіны сапсуюцца. Яна нас не чула, дый не спрабавала пачуць, а толькі казала: «Я хачу напісаць заяву». Ніхто і не адмаўляўся прымаць у яе заяву. Яна перапісвала яе тры разы: каб было прыгожа. Справа Паўліка Марозава жыве...

## Не ад добрага жыцця...

У начальніка крымінальнай міліцыі Валерыя Федарэнкі было таксама шмат наведнікаў. Вось прыйшла жанчына, сціпла апранутая, з напрацаванымі рукамі. Цяпер яна жыве адна ў трохпакаёвай кватэры, муж даўно памёр, адзін яе сын служыць у арміі, другому яшчэ шмат год сядзець у турме. У кабеты запазычанасць за 2-3 месяцы па аплаце камунальных паслугаў. І вось сяброўка пазнаёміла жанчыну з нейкімі людзьмі, якія гатовы абмяняць яе кватэру на добры дом у райцэнтры ды яшчэ даць грошай. Але нешта ёй не верыцца ў такое шчасце. Яна кажа падпалкоўніку: «Хоць вы і пасадзілі майго сына ў турму, але болей няма з кім параіцца».





І такіх наведнікаў, якіх даводзіцца кансультаваць па звычайных «грамадзянскіх справах», пераважная большасць.

***– Навошта вы гэтым займаецеся, гэта ж кампетэнцыя юрыдычных кансультацыяў.***

– Да нас жа ходзяць не ад добрага жыцця. Людзям трэба дапамагаць, – сказаў падпалкоўнік Федарэнка. – Вы думаеце з пенсіі лёгка выкраіць дзесяць-пятнаццаць тысяч на самую танную юрыдычную кансультацыю? Апошнім часам шмат людзей не маюць тэлевізараў, нават за радыё ім плаціць не па кішэні, газет яны таксама не бачаць. Найчасцей менавіта недасведчаныя, малазабяспечаныя людзі становяцца ахвярамі злачынцаў. Таму вельмі добра, што яны прыходзяць да нас па параду, і да таго ж мы прымаем захады, каб абараніць іх. Злачынцы смелыя толькі тады, калі нас побач няма.

## Крыміналу ў чыстым выглядзе няма

Загадзя дрэнна ставячыся да ўсялякіх мерапрыемстваў, калі пішуць шмат папераў, праводзяць безліч нарадаў, я спытала ў начальніка Фрунзенскага РУУС Мінску Рамана Мельніка:

***– У чым сэнс гэтага адзінага дня? Няўжо ў іншыя дні працуюць неяк інакш?***

– Адзіны дзень трэба разглядаць не як дзень нашай ударнай працы, а як дзень сумесных дзеянняў міліцыі, раённай адміністрацыі, працоўных калектываў і грамадскасці ў вырашэнні самых балючых пытанняў.

***– І якую праблему вы лічыце самай балючай?***

– Не буду арыгінальным – гэта п'янства. Лічу, што яно ўжо становіцца агульнанацыянальнай праблемай. Алкагалізм – медыцынская хвароба на сацыяльнай глебе, і для яе лячэння прыкласці намаганні мусіць усё грамадства. Балюча бачыць, як людзі дэградуюць, і гэта адбываецца кожны дзень. Я не разумею, чаму ў нашай краіне няма ніводнай навукова-даследчай установы, якая б комплексна вывучала гэту праблему.

***– Пакуль няма такой установы, што ўжо сёння робяць вашы супрацоўнікі для магчымага паляпшэння сітуацыі?***

– Галоўнае, выявіць прыхільнасць да алкагалізму на ранняй стадыі, найперш у тых сем'ях, дзе ёсць дзеці. Напачатку чалавеку яшчэ неяк можна дапамагчы. Ведаеце, хоць па службе і даводзіцца больш кантактаваць са злачынцамі, я скажу, што добрых людзей у грамадстве больш. Нават у наш прагматычны час ёсць шмат неабыякавых людзей. У нашым раёне добра працуе добраахвотная народная дружына. На асобных прадпрыемствах добра сябе зарэкамендавалі саветы прафілактыкі. І калі на яго паседжанне запрашаюць чалавека і такія ж рабочыя тлумачаць, што ён не слушна сябе паводзіць, «пазіраючы ў шклянку», гэта даволі дзейсна.

***– Раман Іванавіч, вы задаволеныя вынікам першага такога дня?***

– Калі казаць пра нейкае колькаснае вымярэнне: колькі было выяўлена парушэнняў, знойдзена злачынцаў, то задаволены. Што да сумеснай працы, то яна толькі пачынаецца і, я ўпэўнены, вынік будзе. Крыміналу ў чыстым выглядзе няма. Калі аналізуеш прычыны таго ці іншага злачынства, то карані яго можна знайсці ў самых розных сферах жыцця: ад няшчаснага кахання да барацьбы фірмаў.

## На наступны дзень...

З надыходам цёплых дзён пенсіянеры зноў «тусуюцца» на лаўках каля пад'ездаў, а размовы вядуць такія:

– У нас учора на заводзе выступаў маёр, такога распавёў... Трэба пільнавацца. Можа, давайце, скінемся на жалезныя дзверы ў пад'ездзе і кодавы замок?

– А ў ЖЭСе выступаў галоўны пашпартыст. Сказаў, што на пашпарт можна і чорна-белую фотакартку прыносіць. Асабліва, калі дакладна ведаеш, што за мяжу не паедзеш. От, вядома, беларускія пенсіянеры далей лецішчаў нікуды не ездзяць. А новы пашпарт зрабіць трэба...

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**
**Уладзімір ШЛАПАК (фота)**





# Ерась папоўства

*Вінавацячы каталікоў у «ерасі папізму», праваслаўныя на Русі нярэдка трапляюць у не менш сур'ёзную ерась практычнага жыцця, якую можна назваць падобна – «папоўствам».*

Калі праваслаўныя гавораць пра свае рознагалоссі з каталікамі, пытаннем нумар адзін аказваецца «папізм». З пункту гледжання праваслаўных недапушчальна, каб адзін чалавек – Рымскі папа – мог беспамылкова гаварыць ад імя ўсяе Царквы. «*У нас*, – кажуць праваслаўныя, – *замест папізму саборнасць, калі ўсе прынцыповыя рашэнні прымаюцца супольна, калі сваё месца ёсць і ў архірэя, і ў непісьменнай бабулькі, і ніхто не падмяняе сабою ўсяе паўнаты Царквы*».

Але калі паглядзець на рэальнае жыццё, то акажацца, што ў шмат якіх праваслаўных прыходах з'явіліся свае маленькія «папы рымскія», і беспамылковасць ім прыпісваецца такая, якая рымскаму пантыфіку і не снілася. Нямеранае ўжыванне фразы «як дабраславіце, бацюшка?» – вось асноўны сімптом гэтай хваробы. Самі па сабе светлыя і добрыя, гэтыя словы могуць рабіцца наркотыкам. І, як усялякі наркотык, яны ўціскаюць волю і пазбаўляюць чалавека пачуцця адказнасці за сваё жыццё (вядома, пры ўмове, што тое пачуццё ў яго было). Але ўсё ж ніхто і нішто не падменіць сабою жывых адносінаў з Богам, якія ў кожнага – свае.

Зрэшты, можна паспрабаваць схавацца ад гэтых адносін за спіною прыхадскога бацюшкі. І вось пакліканыя да годнасці дзяцей Божых лепш хочуць заставацца «духоўнымі дзецьмі айца *N*» і вырашаць не столькі духоўныя, колькі душэўныя свае праблемы, з якімі, агулам кажучы, лепш было б звяртацца да псіхатэрапеўта. З рэальнага свету чалавек уцякае ў віртуальны і рухаецца пры гэтым не да Бога і нават не да другога чалавека, а хутчэй да ўласных пра Бога фантазіяў.

Трэба зразумець і святароў: чалавеку даецца вялізная духоўная ўлада над людзьмі, а следам нярэдка прыходзіць захапленне гэтай уладаю і ілюзія ўсёмагутнасці. І нават без вялікіх духоўных дароў, вялікага жыццёвага досведу і элементарных ведаў з прыкладной псіхалогіі носьбіт духоўнага сану можа ўявіць сабе, што ведае найкарацейшую дарогу на неба не толькі для сябе самога, але і для ўсіх навокал. У праваслаўнай традыцыі гэта называецца «младастарчаствам»: духоўна і жыццёва няспелы святар спрабуе граць ролю *старца*, то бок духоўнага генія, здатнага спасцігнуць глыбіні душы кожнага, хто прыходзіць да яго на споведзь.

У выніку сапраўднае духоўнае кіраўніцтва падмяняецца дробязнай апекай: бацюшка «дабраслаўляе» сваіх прыхаджанаў, якія ім чытаць кнігі, на якую працу ўладкоўвацца і якую кашу гатаваць на сняданак. А часам здараецца і такое: святар на споведзі знаёміць юнака і дзяўчыну і абвяшчае ім, што яны мусяць узяць шлюб. Можа выйсці і так, што гэтую пару младастарац адправіць, наадварот, пастрыгацца ў манахі. Словам, як шчыра сказаў адзін з такіх пастыраў, «я люблю ламаць людзей».

Не злічыць прыёмаў, з дапамогай якіх младастарцы маніпулююць свядомасцю сваіх падапечных. Адзін выводзіць сваю паству на бясконцыя мітынгі «супраць індывідуальных падатковых нумароў» ці супраць чаго іншага, ператвараючы авечак статку Хрыстовага ў палітызаваных бараноў. Другі запалохвае прыхаджанаў туманна-містычнымі прароцтвамі пра хуткі надыход канца свету і (бывала і такое!) ладзіць вучэбныя зборы з рэчмяшкамі і запасам кансерваў, каб пры з'яўленні Антыхрыста адразу «ўцякаць у горы».

Такі пастыр, пакліканы быць іконай Хрыста, паступова ператвараецца ў самакаштоўнага ідала. Яго словы ставяцца вышэй за біблейскія запаведзі, пісанні святых айцоў і пастановы царкоўных уладаў. «А наш бацюшка сказаў...» – вось энцыкліка, якая ў рамках аднаго прыходу можа дзейнічаць мацней, чым усе разам узятыя афіцыйныя дакументы ў каталіцкай Італіі.

Асноўная частка расійскага святарства далёкая ад младастарчаства. Але калі ўжо пратэставаць супраць «каталіцкай экспансіі», калі ўжо абвяшчаць вайну «таталітарным сектам», то сапраўды варта падбаць пра пошук бярвёнаў папізму і таталітарызму ўва ўласным воку.

А што ж застаецца рабіць простым хрысціянам, якія трапілі ў сферу ўплыву «младастарца»? Напэўна, перадусім памятаць, што, прыходзячы ў Царкву, мы не павінны здаваць свае мазгі ні ў камеру сховы, ні ў багажнае аддзяленне цягніка, у якім нас абяцаюць даставіць наўпрост у Царства нябеснае.

**Андрэй ДЗЯСНІЦКІ**
**Vesti.ru**

# Злавілі аднаго з верхаводаў сіцылійскае мафіі




Ваенізаваная паліцыя Сіцыліі арыштавала ў наваколлі Палерма ў аўторак верхавода мафіі Антоніё (Ніно) Жуфрэ, піша *Daily telegraph*.

Жуфрэ, вядомы як арганізатар і лідэр так званай «банды чатырох», быў затрыманы непадалёк ад Рокапалумба, у сядзібе ў прадмесці Какама, на паўднёвым захадзе ад Палерма.

Нягледзячы на тое, што бос сіцылійскае мафіі быў узброены, ён не супраціўляўся паліцыі. Разам з ім быў схоплены яшчэ адзін мафіёзі, які падазраецца ў шэрагу злачынстваў.

Жуфрэ, па мянушцы Мануцца (што на адным з тутэйшых дыялектаў азначае «ручанька»), быў завочна асуджаны на пажыццёвае зняволенне за забойства. Ад выбуху ягонай бомбы 19 год таму загінуў суддзя. Неўзабаве пасля гэтага Жуфрэ быў абвінавачаны яшчэ ў адным падобным злачынстве.

Як стала вядома, злачынца, які тры гады хаваўся ад паліцыі, быў правай рукой хроснага бацькі «коза ностры» Бернарда Правенцана, якому ўдаецца пазбягаць сустрэчы з правасуддзем ужо 39 гадоў.

У італьянскім сенаце вестку пра затрыманне буйнога мафіёзі сустрэлі з уздымам. Міністр унутраных справаў Клаўдыя Скаджола выказаў вялікую задаволенасць бліскучай паліцэйскай аперацыяй. Чалец антымафіёзнага ведамства Карла Віціні заявіў, што гэты арышт робіць рэальным і хуткае затрыманне Правенцана.

Правенцана, які па некаторых звестках хворы на рак прастаты, стаў сапраўднай легендай Сіцыліі. У паліцыі, якая ўжо шмат гадоў на яго палюе, ёсць толькі два фотаздымкі няўлоўнага мафіёзі, зробленыя яшчэ ў 60-я (!) гады.

За апошні год у наваколлі Палерма былі арыштаваныя некалькі ягоных найбліжэйшых памочнікаў, аднак сам Правенцана пакуль што на свабодзе. Паліцыя лічыць, што ён хаваецца ў Сіцыліі.

# Уладзімір Ільіч Пуцін

*Ты скажи мне, Россия, ты ответь на вопрос:*
*Почему президенту ты веришь?*
*И смотря на него, ты не чувствуешь слез*
*И душой за него ты болеешь?*



– гэта першы слупок «Песні пра прэзідэнта», напісанай Алегам Ярушыным, студэнтам юрфаку з Чэлябінску. І хоць радыёстанцыі рэдка транслююць гэтую песню, яе часта чуваць на маскоўскіх вакзалах і рынках. «Песня пра прэзідэнта» вядомая і з другой нагоды – яе аўтар падаў у суд на нямецкага журналіста, які напісаў, што гэтая песня – праява культу асобы ў Расіі. «Ніякі гэта не культ асобы», – кажа малады паэт з Чэлябінску карэспандэнту часопіса *Wprost*. – Ніхто мяне да гэтага не падгаворваў і ніхто не даваў за гэта грошай. Я так напісаў таму, што так адчуваў». Цяпер студэнт Ярушын, відаць, адчувае, што яму належыцца значная кампенсацыя, а нямецкі журналіст мусіць аднаўляць акрэдытацыю.

### Пуцін заўжды жывы

– На першы погляд усё ясна, і на Захадзе гэта можа ўспрымацца толькі як культ асобы, – заяўляе палітолаг Павел Казлоў. – Але ці можна забараніць каму-небудзь любіць свайго прэзідэнта? Нельга. Пра тое, што ніхто і не спрабуе гэта зрабіць, сведчаць маскоўскія кнігарні. Паліцы аж угінаюцца пад цяжарам партрэтаў кіраўніка дзяржавы. Ёсць вялізныя партрэты, прызначаныя для офісаў. Ёсць выявы прэзідэнта нашмат меншых памераў, якія кожны можа павесіць у сябе ў пакоі. Пуцін сядзіць, Пуцін стаіць, на фоне Крамля і на фоне пышнага вінаграду. На ўсіх партрэтах ён лагодна ўсміхаецца. Для больш пераборлівых ёсць календары з партрэтамі прэзідэнта. У Санкт-Пецярбургу, родным горадзе Пуціна, да нядаўняга часу можна было купіць невялікі бюст кіраўніка дзяржавы. Попыт быў такі вялікі, што фігуры хутка скончыліся.

У дэмакратычнай Расіі правадыроў па-ранейшаму атачае не толькі павага, але і вернападданніцкая любоў. У шапіках і на рынках аж уваччу мітусіцца ад біяграфіяў прэзідэнта. З іх вынікае, што Уладзімір Пуцін змалку вызначаўся асаблівымі вартасцямі, дзякуючы якім і заняў пост прэзідэнта. У выданні пецярбургскага аддзялення партыі «Адзінства» Пуцін прадстаўлены ў трох іпастасях: як дзіця, як малады чалавек і як прэзідэнт. Гэтая кніга прызначана для першакласнікаў і павінна стаць дадатковым падручнікам.

На першай фатаграфіі маленькі Вова на руках у мамы. Подпіс пад фатаграфіяй: «Калі ён быў маленькі, ніхто не ведаў, што ён стане прэзідэнтам такой магутнай краіны». Ніжэй Вова ў школьныя гады: «Яго аднакласнікі ведалі, што Валодзя сапраўдны сябар, у якім можна быць упэўненым. А трэнер па дзюдо памятаў, што гэта баец, які ніколі не здаецца».

«Калі Пуціна замяніць на Леніна, кніга цалкам адпавядала б камуністычнай эпосе», – пісалі расійскія журналісты. Суаўтар Віктар Юракоў дзівіцца, што ягоная кніга выклікала гэтулькі спрэчак. «Мы вучымся патрыятызму, – тлумачыць ён. – Будзе лепш, калі дзеці змалку пазнаюць сваю гісторыю, чым калі яны звяжуцца з наркотыкамі. З дзяцінства трэба фармаваць сістэму вартасцяў. Кожны шукае сабе героя. І мы ім у гэтым дапамагаем». Як заяўляе Юракоў, дзеці пасля заняткаў пішуць прэзідэнту лісты, просяць дапамагчы ў вырашэнні сваіх праблемаў.

«Дзядзя, пачытай мне пра Леніна, у мяне вочы баляць», – кажа ў адным савецкім фільме малы герой. Гэтую фразу могуць паставіць сабе замест эпіграфа ўсе біёграфы Пуціна.

### Пуцін'югенд

Пра арганізацыю «*Идущие вместе*», якую злыя языкі называюць «Пуцін'югенд», Расія пачула ў дзень першай гадавіны выбараў прэзідэнта ў траўні 2000 году. «Гэта вялікі дзень для нас і для нашай краіны. У нас ёсць прэзідэнт!» – крычаў на сходзе лідэр арганізацыі Васіль Якіменка, а тры тысячы маладых людзей, адзетых у майкі з партрэтам прэзідэнта Расіі, адказвалі: «Пуцін, Пуцін!». Шэрагі расійскіх хунвэйбінаў увесь час шырацца. «Гэта ўсё дзякуючы падтрымцы Крамля, – заяўляе журналіст тыднёвіка «*Власть*» Афанасій Збораў. – Сістэма простая: старшы групы з пяці чалавек атрымлівае бясплатна пейджэр. За кожную добра праведзеную акцыю – 50 даляраў. Звычайныя чальцы арганізацыі ўзнагароджваюцца дармовымі паездкамі ў Маскву. У праграме арганізацыі можна прачытаць: «У 90-я гады палітычная і эканамічная эліта разрабоўвала народнае багацце. Сітуацыя змянілася пасля прэзідэнцкіх выбараў. Расія атрымала, магчыма, апошні шанец стаць нармальнай дзяржавай. Ты з намі! Ты з прэзідэнтам!»

### Пуцін і маласольныя агуркі

Крайнія формы культ Пуціна набывае ў правінцыі. Кожны візіт такога шаноўнага госця – падзея, якая павінна ўвайсці ў гісторыю. Таму ў вёсцы Красны Сад, што пад Растовам-на-Доне, збудавалі каплічку «ў памяць пра візіт прэзідэнта Расіі Уладзіміра Уладзіміравіча Пуціна». У памяць аб прыездзе прэзідэнта хавальнік музею горада Ізборска (недалёка ад Пскова) праводзіць з турыстамі экскурсію па шляху прэзідэнта Пуціна. Каштуе яна крыху больш за даляр. Доўжыцца паўтары гадзіны, бо якраз столькі часу Пуцін аглядаў ваколіцу. Гледзячы на таблічкі, можна даведацца, што менавіта рабіў прэзідэнт. «Тут прэзідэнт пагаварыў з дзяўчынаю», крыху далей «паспытаў маласольны агурок і сказаў, што смачны», у самым канцы «прэзідэнт зняў пінжак і напіўся вады з ручая». Я спытаўся ў хавальніка, ці карыстаецца поспехам гэтая экскурсія. «З усяе Расіі прыязджаюць і ніхто не хоча нічога іншага глядзець, а адразу крычаць: «Правядзіце нас па пуцінскіх мясцінках!» – адказвае хавальнік.

**Гжэгаж ШЛЮБОЎСКІ**
**Wprost (Польшча)**

# Вежы-блізняты скінуць у акіян

На ўспамін пра разбураныя тэрарыстамі вежы Сусветнага гандлёвага цэнтру (СГЦ) у Нью-Йорку неўзабаве могуць быць пабудаваныя іхнія «двайнікі». Але гэта будуць не хмарачосы. Па праекце нью-йоркскага архітэктара пра разбураныя вежы будуць нагадваць пірсы-блізняты.

Праект «Светлавыя вежы» спыніў сваё існаванне. Два вялізныя светлавыя слупы больш не будуць увасабляць сілуэты дзвюх вежаў-блізнятаў, што адышлі ў нябыт. Гэты праект адразу меркаваўся як часовы, разлічаны максімум на месяц. Увесь гэты час у ЗША ішлі бурныя спрэчкі, што павінна быць на месцы разбуранага тэрарыстамі комплексу. Найбольш жорстка крытыкавалася ідэя рэканструкцыі вежаў-блізнятаў.



Сваякі ахвяраў тэрактаў 11 верасня не дапускаюць і думкі пра тое, што на тым месцы зноў вырастуць хмарачосы. Яны б хацелі, каб плошча СГЦ стала месцам памяці і вялізным мемарыялам.

Ідэю будаўніцтва мемарыялу падтрымліваюць нью-ёркскія і федэральныя ўлады, а кампанія *Lower Manhattan Development Corp.* ужо разглядае праекты помнікаў і мемарыяльных комплексаў. Заяўкі і прапановы прыйшлі з некалькіх дзесяткаў краінаў.

Ужо вядома, што манхэтэнскі комплекс будзе называцца «Парк свабоды».

*BBC* прапануе аддаць перавагу праекту архітэктара і аглядальніка з Нью-Йорку Фрэда Бернштэйна. Па гэтым праекце мяркуецца пабудаваць у паўднёвай частцы Манхэтэна два вялізныя пірсы-блізняты. Яны будуць пачынацца з нью-ёркскага дзелавога цэнтру *Battery Park* і цягнуцца да даліны ракі Гудзон. Адзін з пірсаў будзе накіраваны дакладна на статую Свабоды, другі – на выспу Эліс. Памер кожнага з пірсаў будзе адпавядаць памерам разбураных вежаў. Бернштэйн бачыць у будаўніцтве гэтых пірсаў адмысловую сімволіку. Пірсы – гэта вежы-хмарачосы, якія ўпалі, іх праламленне і адлюстраванне.

На паверхні пірсаў мяркуецца пазначыць нумары паверхаў і імёны тых, хто на гэтых паверхах загінуў.

Архітэктар лічыць, што, нягледзячы на ўнушальныя памеры, ягоныя пірсы не стануць перашкодай для суднаходства. Наступныя пакаленні змогуць усвядоміць, якімі высокімі былі вежы СГЦ, і ўявіць сабе маштабы вераснёўскай трагедыі. Практычнае выкарыстанне пірсаў таксама відавочнае. Архітэктар мяркуе, што яны дазволяць пракласці новыя маршруты для паромаў і прагулачных катэраў, а будаўніцтва, па словах Бернштэйна, будзе недарагім і нядоўгім.

Прыхільнікі нью-йоркскага архітэктара лічаць асноўнай перавагай гэтага праекту якраз хуткасць і лёгкасць яго здзяйснення. Яны мяркуюць, што пірсы можна пабудаваць задоўга да таго, як рэстаўруецца ніжняя частка Манхэтэна. Чакаецца, што аднаўленчыя працы на месцы комплексу СГЦ працягнуцца не менш за два гады. За гэты час *Lower Manhattan Development Corp.* мяркуе ажыццявіць адразу некалькі амбітных праектаў, у тым ліку будаўніцтва новых аўтамабільных і чыгуначных тунеляў, транспартных развязак і падземных гаражоў і рэканструяваць прылеглыя да комплексу вуліцы.

**Васіль СЯРГЕЕЎ**

# Не бярэ толькі рыба

*Карупцыя, асабліва хабарніцтва як яе найбольш арганічны гатунак, дадзела польскаму грамадству. Прыдуманая жартаўнікамі і вынесеная ў загаловак гэтай публікацыі ідыёма стала абавязковай часткай рэпертуару мясцовых анекдотчыкаў, гуляе па старонках газет і часопісаў. Усе бяруць і ўсе даюць. Так лічыць сярэдні паляк. Гэта пацвярджаюць і дадзеныя даследавання на тэму карупцыі, праведзенага варшаўскім Цэнтрам па вывучэнні грамадскай думкі. 93% апытаных лічаць, што карупцыя – вялікая праблема для Польшчы. На думку 70% рэспандэнтаў, шмат хто з чыноўнікаў высокага рангу здабывае асабістую выгаду з выканання сваіх публічных функцыяў. І толькі 1% (!) апытаных верыць у крыштальную сумленнасць прадстаўнікоў чыноўнага люду. Класічны варыянт карупцыі па-польску звязаны з выкарыстаннем дэпутацкага мандату. Крымінальная гісторыя з былым парламентарыем Маркам Каласінскім у гэтым плане вельмі красамоўная.*



## За дзень да дэпутацкага дэмбелю

17 кастрычніка мінулага году дэпутат Каласінскі ўцёк з краіны. Затрымаць на мяжы чалавека з дыпламатычным пашпартам ніхто не меў права. Дзейнічаў імунітэт. Апошні дзень.

Першымі ўзнялі шум вакол нячыстага на руку дэпутата юрысты сейму. Яны запатрабавалі ад Каласінскага вярнуць у парламенцкую касу 253 тысячы злотых, якія той незаконна атрымаў як прафесійны заканадаўца, утоіўшы на момант падачы дэкларацыі аб даходах факт валодання шасцю фірмамі.

Потым пачалі ўсплываць усё новыя і новыя бізнес-фокусы дэпутата Каласінскага. Гаворка ішла пра мільённыя сумы. Змовіўшыся з былым старшынём аднаго з філіялаў Польскага ашчаднага банку, дэпутат атрымаў некалькі крэдытаў для сваіх фірмаў на суму 6 млн. злотых. Ён не пагрэбаваў пайсці на супрацоўніцтва з адным з кіраўнікоў прушкаўскай (Прушкаў – невялікі гарадок паблізу Варшавы) мафіі Е.Баранскім па мянушцы Бараніна. Трэцім у гэтай кампаніі, па некаторых звестках, быў колішні міністр спорту Я.Дэмбскі, забіты пазней, як падазраюць следчыя органы, на замову Бараніны. Трое гэтых джэнтльменаў актыўна адмывалі накрадзеныя і нарабаваныя грошы. Дзейнічалі яны ад імя нейкага фонду дапамогі моладзі ў Любліне і на падставе фальшывых дакументаў выманілі крэдытаў на суму 130 млн. злотых.

Дэпутат Каласінскі ўмеў рабіць вялікія грошы даслоўна з паветра. Гэты найвышэйшы пілатаж дэпутацкага шулерства раскрылі функцыянеры Цэнтральнага следчага бюро. На пагранпераходзе Жэпін яны затрымалі трох мытнікаў: тыя выдалі фірме, што належала М.Каласінскаму, 1 500 фальшывых фактураў на цыгарэты, якія нібыта вывозіліся з краіны. Насамрэч цыгарэты заставаліся ў краіне, а па фальшывых фактурах чараўнік-бізнесмен атрымаў мільёны злотых ад вернутага НДС.

На дэпутата быў абвешчаны міжнародны вышук. І вось днямі ўцякач адшукаўся ў суседняй Славакіі. Затрымала яго славацкая паліцыя. Узялі яго проста на выхадзе з касцёлу ў ваколіцах гораду Марцін. Каласінскі прадстаў перад паліцыяй... у сутане. Мясцовым парафіянам ён прадстаўляўся як чалавек, які мае моцныя сувязі з Ватыканам і манаполію на продаж віна, якое выкарыстоўваецца на імшы.

Замежнае слова «карупцыя», як вядома, у перакладзе азначае «псаванне, распусту». Найбольш псуе вялікая ўлада. І вялікія грошы. Два гэтыя паняцці шчыльна пераплятаюцца між сабою. Каб займець вялікія грошы, неабавязкова мець капітал ці быць непасрэдным удзельнікам вялікай палітыкі. Дастаткова быць побач з ім. І тады адкрываюцца выдатныя магчымасці, каб атрымаць хлебную пасаду. У Польшчы такіх пасадаў процьма: розныя дзяржаўныя агенцтвы, фонды, акцыянерныя таварыствы, што належаць дзяржаўнай казне. Асабліва забуялі разнастайныя сінекуры пры ранейшым урадзе з Е.Бузекам на чале. Сведчанне гэтаму – нядаўні

## скандал вакол «Польскай медзі»

«Польскай меддзю» завецца акцыянернае таварыства, якое займаецца здабычай і перапрацоўкай гэтага каштоўнага каляровага металу. Тры гады фірмай размашыста кіравала каманда, якая ўмудрылася патэнцыяльна прыбытковае прадпрыемства зрабіць стратным. Асобаю старшыні праўлення Марыяна Кшэмінскага занялася пракуратура. Пытанняў да Кшэмінскага шмат. Перадусім гэта злоўжыванні, звязаныя з арэндаю для яго вілы ў мястэчку Лясная Падкова. 1 260 злотых выдала «Польская медзь», каб яе кіраўніку было ўтульна! Паралельна на свет божы выплылі рахункі на дзесяткі тысяч злотых у месяц за пражыванне ў варшаўскіх гатэлях «Шэратон» і «Хілтан». Плюс да кошту гатэляў – даўгія рахункі за харчаванне, алкагольныя напоі.

Але каронным нумарам кіраўніцтва сталі аплаты так званых кансалцінгавых паслуг. За кансалцінгавую распрацоўку з 16 старонак, збольшага проста перапісаную з розных кніжак, адна з фірмаў атрымала 200 000 даляраў ЗША. Такім чынам, як падлічылі польскія журналісты, адна старонка вылілася ў суму 52 тысячы злотых, а радок каштаваў амаль 2 тысячы злотых, то бок вышэй за польскую сярэднямесячную зарплату!

Дарэчы, папярэдні польскі рэкорд за аплату паслуг кансалцінгавым фірмам таксама належаў кіраўніцтву «Польскай медзі». Яно заплаціла кансультантам з Варшавы 100 000 злотых за тры старонкі тэксту, то бок 30 тыс. злотых за старонку і 1 тысячу – за радок.

Як і ў кожнай постсацыялістычнай краіне, што ўстала на шлях грамадска-палітычнай трансфармацыі, карупцыя ў Польшчы вельмі жыва адрэагавала і на

## гэтае салодкае слова – «прыватызацыя»

Прыватызацыя стала сапраўдным эльдарада для несумленных палітыкаў, што атрэсліся ад сацыялістычнай дрымоты, і дробных жулікаў, што ім спадарожнічаюць. Камбінатары, прыйшоўшы ў парламент на хвалі «скрышальнае» дэмакратыі, адразу забылі пра свае перадвыбарныя абяцанні і пачалі сутаргава ўзбагачацца. Яны выдатна разумелі, што другой такой магчымасці жыццё ім не дасць.

У Польшчы бывалі выпадкі, калі вялікія заводы і фабрыкі куплялі чалавек, які не меў ні капейкі. Дастаткова было мець сябра-міністра. З ім можна было пайсці ў банк і папрасіць крэдыт на фінансаванне пагаднення. Як правіла, рэакцыя банку была станоўчая. Купіўшы прадпрыемства, наваспечаны ўласнік цешыўся са свайго набытку толькі пару месяцаў, а затым прадаваў яго так званаму стратэгічнаму інвестару разоў у дзесяць даражэй.

Зрэшты, банк не заўсёды быў патрэбны. Навошта фармальнасці, кучы папераў? Былі і іншыя метады. Простыя да банальнасці. Скажам, нейкі завод афіцыйна выстаўлялі на продаж за 100 мільёнаў злотых. І тут на сцэне з'яўляўся кліент з дзесяццю мільёнамі. Плюс яшчэ адзін мільён. У кішэні. І там жа імгненна апынаўся і завод.

У польскай мове няма слова, аналагічнага расійскаму «*прихватизация*». Праўда, у Польшчы і «прыхватвалі» не ў такіх маштабах, як у Расіі. Тут няма такіх паняткаў, як «новыя палякі», «алігархі». На думку вядомага венгерскага эканаміста Яноша Карнаі, аўтара кнігі «Эканоміка недабору», што выйшла яшчэ ў 1980 годзе і ў якой аўтар паддаў разгромнаму аналізу эканамічную сістэму рэальнага сацыялізму, ужо ў самой стратэгіі расійскай прыватызацыі, у адрозненне ад польскай ці венгерскай, была закладзена большая на некалькі парадкаў карупцыягеннасць.

Як лічыць Карнаі, якраз чэкавая прыватызацыя ў Расіі прывяла да таго, што дзяржаўная ўласнасць не прадавалася, а фактычна раздавалася. І апынулася ў руках тых, хто найбліжэй стаяў пры раздачы, – былых «чырвоных дырэктараў», што парабіліся алігархамі. У Польшчы ж, як і ў Венгрыі, не было так званай суцэльнай прыватызацыі. Тут прыватызацыя адбывалася разам са стварэннем сотняў тысячаў дробных і сярэдніх прадпрыемстваў: гэта значыць, што тут капіталізм адраджаўся як бы «знізу», а не «зверху». Карупцыянеры сярэдняга маштабу не задушылі сабой нармальны сярэдні клас, які ўзнік натуральным чынам.

Карупцыя, на думку галоўнага рэдактара *Gazety wyborczej* Адама Міхніка, – неад'емны спадарожнік эканомікі пераходнага перыяду. У пэўным сэнсе яна непазбежная. Але, застаючыся пабочным і досыць непрыемным прадуктам эпохі пераходу ад псеўдасацыялізму да капіталізму, польская карупцыя не можа засланіць тых поспехаў, якіх дасягнулі за дзесяць мінулых гадоў былыя насельнікі «самага вясёлага бараку» ў лагеры «краінаў народнай дэмакратыі». І гаворка тут не толькі і не столькі пра павышэнне ўзроўню жыцця, а перш за ўсё – пра змены ў свядомасці грамадства, без якіх рух у бок большага дабрабыту немагчымы. У Польшчы капіталізм канчаткова перамог у свядомасці грамадзян. Чаго нельга сказаць пра Расію.

**Міхаіл БАЦЯН**
**Novayagazeta.ru**

# Карупцыя ў Еўропе

Ніводная краіна ў свеце не можа лічыць сябе застрахаванай ад карупцыі. Так, у 1994 г. Швейцарыя, якая ганарылася непадкупнасцю сваіх службоўцаў, скаланулася грандыёзным скандалам вакол чыноўніка з кантону Цюрых – рэвізора рэстаранаў і бараў. Яго абвінавачвалі ў хабары на суму амаль 2 мільёны даляраў. Адразу ж пасля гэтага пачалося расследаванне супраць пяці рэвізораў-хабарнікаў са складу ураду Швейцарыі, якія спрыялі асобным фірмам пры арганізацыі дзяржаўных паставак. Потым грымнулі яшчэ некалькі скандалаў.

У Францыі перыядычна адбываюцца масавыя расследаванні карупцыйных дзеянняў бізнесменаў і палітычных дзеячаў.

У 1993 г. прэм'ер-міністр упершыню паабяцаў, што не будзе гэтаму перашкаджаць. «Становішча ў Францыі паступова мяняецца, яшчэ дзесяць год таму тут было забаронена расследаваць выпадкі хабарніцтва і карупцыі», – сцвярджаў французскі суддзя Жан-П'ер Цьеры. Усе мы памятаем гучны карупцыйны скандал вакол Бернара Тапі – уладальніка французскага футбольнага клубу «Алімпік», які браў хабар і ўдзельнічаў у розных фінансавых махінацыях.

Шматлікія выпадкі карупцыі ў Італіі, якія закранулі самыя высокія палітычныя колы, прывялі да таго, што больш за 700 бізнесменаў і палітычных дзеячаў паўсталі перад судамі ў выніку расследаванняў, якія пачаліся ў 1992 г. у Мілане.

У шмат якіх буйных гарадах Германіі пракуратуры занятыя расследаваннем некалькіх тысячаў выпадкаў карупцыі, перш за ўсё ў Франкфурце-на-Майне, Мюнхене, Гамбургу, Берліне. У 1995 г. было афіцыйна зарэгістравана амаль 3 тысячы выпадкаў хабарніцтва. У 1994 г. перад судом апынуліся амаль 1,5 тысячы чалавек, а ў 1995 – больш за 2 тысячы, прычым эксперты лічаць гэтыя дадзеныя толькі вяршыняй айсбергу. У карупцыю ўцягнутыя ўстановы па праверцы замежных уцекачоў, пункты рэгістрацыі новых аўтамабіляў і інш. Так, за наяўныя грошы можна незаконна «купіць» права на адкрыццё рэстарана ці казіно, пасведчанне кіроўцы, ліцэнзію на адбуксіроўку няправільна прыпаркаваных аўтамабіляў. Найбольш заражаная карупцыяй будаўнічая індустрыя.

**Максім ЛІХАЛЕТАЎ**

**КАНФЛІКТ**

# Перамовы з дужым Ізраілем

Пачаўшы паўнамаштабную аперацыю на тэрыторыі Палесцінскай аўтаноміі, Ізраіль практычна паставіў кропку ў нядоўгай гісторыі мірнага працэсу ў рэгіёне – працэсу, які ўжо колькі гадоў аганізуе. Сёння варта зноўку задацца пытаннем, а ці быў той працэс, чые архітэктары – Іцхак Рабін, Шыман Перэс і Ясер Арафат – ушанаваныя Нобелеўскай прэміяй міру, рэальнай дарогаю да пагаднення паміж габрэямі і арабамі? Або ён лагічна вёў у чарговы тупік, выхадам з якога аказалася эскалацыя тэрарыстычных дзеянняў? Ясна, што бакі выкарысталі нядоўгі перыяд міру на ўсю поўніцу. Ізраіль – каб стварыць прывабны вобраз краіны, здатнай стаць эканамічным цэнтрам рэгіёну і знайсці паразуменне з суседзямі. Палесцінская аўтаномія – каб збудаваць побач з Ізраілем квазідзяржаўную структуру і ўзмацніць ціск на Ізраіль.



Па сутнасці, усе гэтыя гады бакі жылі зусім рознымі ўяўленнямі пра будучыню. Ізраільцяне ўспрымалі рэальнасць у дзвюх катэгорыях – бяспекі і эканамічнай мэтазгоднасці. Па сутнасці, сам мірны працэс стаў магчымы якраз таму, што з свядомасці большыні ізраільцянаў пачала знікаць псіхалогія аблажанай крэпасці. Пачало здавацца, што бяспекі льга дасягнуць не коштам кантролю над тэрыторыямі, якія населеныя палесцінцамі і выкарыстоўваюцца Арганізацыяй вызвалення Палесціны (АВП) як плацдарм для тэрарыстычнай дзейнасці, а коштам самой дамоўленасці з арабскім светам і з АВП. Гэта дамоўленасць, у сваю чаргу, мелася вызваліць ізраільскае грамадства ад здані няспынных войнаў і ператварыць краіну ў эканамічнага і турыстычнага лідэра Блізкага Усходу. Ідэалогіі, як бачым, у гэтых меркаваннях зусім няшмат.

Затое ідэалагічны складнік быў вядучым для палесцінскай адміністрацыі (усяго гэтага шматлікага атраду эмігрантаў, што прыехаў на зямлі аўтаноміі разам з Арафатам) і мясцовага насельніцтва. У выпадку ізраільскага грамадства мы маем справу з элітай, што існуе ўжо больш за пяць дзесяткаў гадоў ува ўмовах дзяржавы, якая хоць і вядзе вайну, але ўсё ж застаецца дэмакратычнаю. У выпадку ж палесцінцаў мы маем справу з элітай новай, якая атрымала небывалую магчымасць узбагачацца, якая прапускае цераз сябе ўсе фінансавыя плыні дапамогі аўтаноміі і існуе ўва ўмовах дыктатарскага рэжыму, пазбаўленага якога-колечы кантролю з боку грамадства.

Але, як і ў любой краіне, дзе карумпаваная эліта акумулюе ў сваіх руках усе сродкі, скіраваныя на эканамічнае развіццё, грамадству трэба тлумачыць, чаму тое развіццё не адбываецца. Тлумачэнне было абрана ідэалагічнае: пакуль палесцінцам не будзе дадзена магчымасць стварыць паўнацэнную дзяржаву з сталіцаю ў Іерусаліме, трэба думаць не пра эканоміку, а пра барацьбу за стварэнне такой дзяржавы.

Так нейкі час на адлегласці выцягнутай рукі адно ад аднаго існавалі грамадства, заклапочанае развіццём высокіх тэхналогіяў і турызму, і грамадства, заклапочанае закупам зброі, вырабам узрыўчаткі і татальным зладзействам.

Пасля 11 верасня ўзнікла новая ілюзія – што палесцінцы спужаюцца атаясамлення з сусветным тэрарызмам і спыняць тэракты. Ілюзія апраўдалася толькі часткова: палесцінцы сапраўды спужаліся, прычым так моцна, што ўжо праз пару месяцаў пачалі даводзіць, маўляў, зусім былі не напужаліся – і даводзіць гэта ўсё новымі выбухамі ў ізраільскіх гарадах.

Але што здарылася за гэтыя месяцы з абодвума бакамі? Яны памяняліся ролямі. У Ізраілі – як натуральная рэакцыя на атмасферу татальнай небяспекі – зноў ўваскрэс ідэалагічны складнік. Сіянізм адрадзіўся – бо што яму яшчэ заставалася?

А што ж палесцінцы? Простыя жыхары сектару Газа зараз заклапочаныя не процістаяннем Ізраілю, а ўласным выжываннем. Якраз таму ўжо неўзабаве палесцінскай адміністрацыі давядзецца змяніць тактыку, разглядаючы новыя мірныя перамовы як магчымасць для выжывання ўласнага насельніцтва і захавання ўласнасці сваёй эліты.

Але гэта толькі ў выпадку, калі гэтая вайна будзе выйграна Ізраілем. Калі я кажу пра выйгранне, я маю на ўвазе перадусім разуменне палесцінцамі таго, што Ізраіль мацнейшы за іх і не збіраецца недзе знікнуць, што ЗША не будуць падтрымліваць Арафата, што арабскія краіны будуць падтрымліваць палесцінцаў толькі на словах, але не пойдуць на правакаванне ў свеце нафтавага крызісу. Карацей кажучы, палесцінцы мусяць зразумець, што ім давядзецца дамаўляцца з дужым Ізраілем і гэты Ізраіль не ўдасца запалохаць ніякімі тэрарыстычнымі актамі.

**Віталь ПОРТНІКАЎ**
**Wdi.ru**

# Нам засталася спадчына...

## *А ці застанецца што пасля нас?*

З нагоды Міжнароднага дня аховы помнікаў і гістарычных мясцін, які адзначаецца ўжо дваццаць гадоў 18 красавіка, мы задалі колькі адпаведных пытанняў асобам, так ці інакш з гэтым звязаным:

1. Якія беларускія скульптуры, замкі, палацы, храмы ці цэлыя мясціны для вас самыя ўлюбёныя і, наадварот, нялюбыя?

2. Якія гісторыка-культурныя помнікі ў Беларусі, на вашую думку, трэба даглядаць і аднаўляць у першую чаргу?

3. Каму, як вы лічыце, з нашых суайчыннікаў, у тым ліку з сучаснікаў, у будучыні паставяць помнікі?

4. Наколькі, як вам падаецца, актыўна нашае грамадства займаецца аховай гісторыка-культурных каштоўнасцяў?

**Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір ГІЛЕП:**

1. У мяне ёсць два любімыя месцы, якім, апрача ўсяго, я асабіста аддаваў увагу і з якімі звязанае маё жыццё. Гэта Нясвіж: будучы намеснікам міністра культуры, я займаўся Нацыянальным Нясвіжскім гісторыка-культурным музеем-запаведнікам, ствараў Міжнародны фонд «Нясвіж», якога цяпер ужо няма. І яшчэ шмат для мяне значаць мясціны Адама Міцкевіча: я ініцыяваў аднаўленне таго маёнтачка ў Завоссі, дзе нарадзіўся паэт. Зараз я багата апякуюся старажытнымі беларускімі паркамі.

2. Пералічыць усё проста немагчыма. Напрыклад, хацелася б, каб увага грамадства і дзяржавы была звернутая на Нясвіж, яшчэ на Спаса-Еўфрасіннеўскую царкву ў Полацку, дзе абавязкова і тэрмінова трэба рэстаўраваць фрэскі. Трэба займацца домам, дзе нарадзіўся Касцюшка, домам, дзе нарадзіўся Манюшка. У першую чаргу гэтым мусіць апекавацца дзяржава, бо нельга адмаўляцца і аддаваць нашую культурную спадчыну палякам ці яшчэ каму. А то мы зноў апынемся абутымі ў лапці. У пер-



шую чаргу трэба дагледзець і адрэстаўраваць тое, куды можна запусціць турыстаў. Гэта і Мір, і Нясвіж, і Косава, і шмат іншых выдатных помнікаў, нанізаных як на шампур па дарозе з Парыжа ў Маскву.

3. Каму з сучаснікаў, пра гэта ніколі не думаў. Я лічу, каб паставіць чалавеку помнік, трэба вытрымаць гадкоў сто. Праверыць, захаваецца ці не захаваецца гэты чалавек і тое, што ён рабіў, у памяці народу. Час пакажа, а нашыя ўнукі вырашаць, каму помнік ставіць, бо ёсць асобы, якія пры сваім жыцці асабліва нічога не вызначалі, а сёння ім варта помнікі ставіць. А бывае, што чалавек памёр, а яму ўжо праз дзесяць дзён збіраюцца помнік узводзіць і вуліцу ягоным імем называць. Паглядзіце, колькі ў нас такіх вуліц, што ніхто не ведае, у гонар каго яны названыя. Павінны з'явіцца помнікі тым жа Тадэвушу Касцюшку і Станіславу Манюшку, Кастусю Каліноўскаму і Фердынанду Рушчыцу...

4. У Германіі каля помнікаў ахвярам вайны ні смецця, ні бруду, а ў нас калі ляжаць там



кветкі, то абавязкова даўно завялыя, бо пакладзеныя яшчэ год таму на леташні Дзень Перамогі 9 траўня. Чаму так? Таму што ў нас у завядзёнцы кампанейшчына: у Дзень помнікаў прыходзілі, прыбіралі і забываліся да наступнага такога дня. А там кожны дзень нехта прыходзіць, вырывае якую быліначку. Няправільна так рабіць, як мы робім, толькі зрэдзьчасу збіраючыся талокамі і кідаючыся прыбіраць помнікі. А во каб у старажытных сядзібах і парках мы (а нас жа нямала – 10 мільёнаў) па загадзе сэрца хай сабе раз на тыдзень рабілі гэтую пачэсную справу, то яны не былі б такімі закінутымі.

**Намеснік старшыні Дэпартаменту па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Васіль ЧЭРНІК:**

1. Для мяне аб'екты, што ўваходзяць у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі, усе любімыя. І старажытныя сядзібы, якіх у Дзяржспісе 123, і нашыя замкі – Нясвіжскі, Мірскі, Навагрудскі, Крэўскі, Гродзенскія. Дужа мне падабаюцца забудовы гістарычнага цэнтру Гродна, Полацку, а таксама Мінску. Маю тут на ўвазе Верхні горад і Траецкае прадмесце, не зважаючы на некаторыя нюансы, што з'явіліся пасля рэканструкцыі. Я негатыўна стаўлюся да навабудаў у гістарычнай частцы гораду – усялякіх там гмахаў. А наагул якое стагоддзе ні вазьмі, яно дало Беларусі якую-небудзь, і не адну, цікавую пабудову. У 20-ым стагоддзі, напрыклад, з'явіўся і ўжо ўвайшоў у наш Дзяржспіс праспект Скарыны.

2. Найперш Нясвіж вымагае ўкладання сродкаў у рэстаўрацыйныя работы. Натуральна, Мірскі замак – адзіны беларускі аб'ект, нерухомая гісторыка-культурная каштоўнасць, якая ўнесеная і ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі, само сабой, і ў Спіс сусветнай спадчыны *UNESCO*. На мой погляд, неабходна правесці кансервацыю Крэўскага замку, а таксама Навагрудскага. Патрабуюцца неадкладныя захады па ўратаванні Каложскай царквы, у прыватнасці, па ўмацаванні схілу (Каложа, архітэктурны помнік 12-га стагоддзя, стаіць на беразе Нёману і ўвесь час застаецца пад рэальнай пагрозай абрынуцца ў раку. – **К.П.**)

3. Што казаць пра сучаснікаў, калі слынным гістарычным асобам помнікаў няма. Так, у Мінску абавязкова мусіць быць помнік Скарыну. Ён ёсць у Лідзе, у Полацку, а ў сталіцы, на жаль, няма. У Гродне павінен паўстаць помнік князю Вітаўту – сапраўдны, а не драўляны. Заслужыў помнік, на мой погляд, і Леў Сапега.

4. Дэпартамент атрымлівае лісты, заявы, скаргі на тыя ці іншыя парушэнні заканадаўства па ахове нашых гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Стараемся супрацоўнічаць, бо ахова помнікаў і гістарычных мясцін – агульны клопат і агульная справа грамадскасці і дзяржавы. Што праўда, раней былі недахопы ў узаемаадносінах паміж тагачаснай Дзяржаўнай інспекцыяй па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і людзьмі. Цяпер мы гэта выпраўляем. Напрыклад, зараз рыхтуецца новы склад Рэспубліканскай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны, куды, як мяркуецца, увойдуць прадстаўнікі грамадскасці. Каб захаваць тое, што, на шчасце, ёсць на нашай зямлі, трэба дзейнічаць разам.

**Намеснік старшыні Мінскай гарадской рады Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Уладзімір ДЗЯНІСАЎ:**

1. Некалі я дужа любіў










Верхні горад Мінску, які захоўваў сваю аўтэнтычнасць да 1980-ых гадоў. Зараз калі я там праходжу, вельмі цяжка на душы. Усё дзякуючы дзейнасці «Старога Мінску», інтарэсы якога лабіруюць адпаведныя дзяржаўныя органы, адказныя за ахову помнікаў гісторыі і культуры. Калі казаць пра самыя каштоўныя аб'екты, то гэта Нясвіж, увесь тамтэйшы палацава-паркавы комплекс. Дарэчы, дакументы па ўключэнні яго ў Спіс сусветнай спадчыны былі падрыхтаваныя яшчэ дзесяць гадоў таму, але дагэтуль у адмысловы камітэт *UNESCO* так і не перададзеныя. Нялюбы стаў Мірскі замак, які пасля няўдалай рэстаўрацыі пад кіраўніцтвам былога старшыні былой Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Дзмітрыя Бубноўскага страціў свае адметныя вартасці.

2. Праблемаў шмат паўсюдна. І яны збольшага ад чалавечай дзейнасці, а не ад прыродных фактараў. Хоць ёсць нядобры ўплыў і ад іх, як у выпадку з Каложай. Не выдзяляюцца сродкі на замкі. Напрыклад, у Крэве, дзе была падпісаная вядомая Крэўская унія. Занядбаны сядзібы, і для іх выратавання неабходная спецыяльная праграма. Скажаюцца гістарычныя цэнтры гарадоў, старажытныя будынкі якіх аддаюцца камерцыйным структурам. Узяць хоць бы рэканструкцыю, што ідзе ў доме № 2 на плошчы Свабоды, дзе мяняюцца гістарычныя інтэр'еры. Якраз тут у 19-ым стагоддзі працавала кнігарня, дзе пачалі прадавацца першыя кнігі па-беларуску, заля, дзе праводзіліся разнастайныя імпрэзы, цукерня, дзе таемна сустракаліся будучыя ўдзельнікі паўстання 1864 году. А вазьміце ідэю будаўніцтва на Нямізе шматузроўневага паркінгу. Спецыялісты кажуць, што гэта будзе апошні цвік у труну Старога Мінску.

2. Хай людзі даўжэй жывуць: будзе помнік ці не будзе – не так ужо важна. Што да гістарычных дзеячаў, то па сённяшні дзень чамусьці няма ў Мінску помнікаў Скарыну, Каліноўскаму. А гэта ж дзеячы не лакальнага, а агульнанацыянальнага маштабу. Няма помнікаў Манюшку, Дуніну-Марцінкевічу, нават помнага знаку няма. Помнік Ваньковічу гатовы, але яго ніяк не могуць устанавіць каля дома-музею Ваньковіча па вуліцы Інтэрнацыянальнай. Няма помніка заснавальніку гораду – Мянеску.

4. На жаль, зараз няма таго ўздыму, што быў напрыканцы 1980-ых гадоў, калі пачыналася нацыянальнае Адраджэнне, калі ствараліся розныя беларускія суполкі. Такія, як «Талака». Моладзь тады выходзіла бараніць Верхні горад, гарадскі тэатр на плошчы Свабоды, знішчаны ў 1984 годзе. У цяперашніх пакаленняў моладзі няма тае актыўнасці, а ўлады не хочуць ісці на кантакт з грамадскасцю. На нашыя звароты ў Дэпартамент па ахове гісторыка-культурнай спадчыны мы атрымліваем адпіскі і ветлівыя адмовы.



**Запісаў Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Мясціна Браніслава Тарашкевіча

Паблізу Радашковічаў захаваліся рэшткі сядзібы, дзе жыў і працаваў знакаміты дзеяч нацыянальнага руху, заснавальнік Таварыства беларускай школы ў Заходняй Беларусі, старшыня Беларускай сялянска-работніцкай грамады, знаны літаратар Браніслаў Тарашкевіч. З гэтай мясцінай злучаны таксама імёны іншых заслужаных людзей: Андрэя Снітко – краязнаўцы, старшыні Мінскага царкоўна-археалагічнага таварыства, Уладзіміра Уласава, першага рэдактара «Нашай Нівы», роднага брата Лізаветы Снітко, жонкі Андрэя. Браніслаў Тарашкевіч пасяліўся тут, калі ўзяў шлюб з іх дачкой Верай.

Пасля Рыжскага міру асноўны маёнтак сям'і Снітко – «Калісберг» – апынуўся на тэрыторыі БССР, а былы фальварак, вядомы пад назвай «Ферма», – на польскім баку. Лізавета Снітко, ужо зведаўшы бальшавіцкі парадак у часе бежанства, выбрала для жыцця «Ферму».

Фальварак займаў жывапісную мясціну на беразе Вязынкі. Але нейкі час па вяртанні Елізавета Снітко з дачкой жыла ў брата, Аляксандра Уласава, у Мігаўцы, таксама ў наваколлі Радашковічаў, бо «Ферму» займалі польскія салдаты.

Цэнтрам сядзібы быў дом аканома. У 1923 годзе для маладых пачалі будаваць новы дом. Напачатку ён меў тры пакоі, потым прыбудавалі яшчэ два і даволі вялікую мансарду. Захавалася шмат здымкаў гэтага дома, дзе зведалі шчасце маладыя Тарашкевічы разам са сваім сынам Радаславам.

Сярод пабудоваў сядзібы асобную ролю меў непрыкметны дамок – так званы «кабінет» Тарашкевіча. Дом пабудавалі ў 1930 годзе спецыяльна для літаратурнай працы Браніслава. Менавіта ў гэтай хатцы Тарашкевіч працаваў над перакладам «Іліяды» Гамера. Абсталяваны ён быў сціпла – пара крэслаў, канапка, стол, кніжная паліца і на стале машынка для друкавання.

Вокны прарэзалі ў кожнай сцяне, бо Тарашкевіч любіў глядзець на сад. Хата была напачатку халодная, потым у ёй паставілі грубку.

У верасні 1933 году Тарашкевіча, які сядзеў у польскай турме, бальшавікі выменялі на Францішка Аляхновіча, а праз чатыры гады яго арыштавала НКВД і ўвосень 1937 году забіла ў Курапатах. Яго жонку і сына ў 1939 пасля ўз'яднання выселілі з хаты як «памешчыкаў». Уладзіміра Уласава, якому было 65 гадоў, у кастрычніку таго ж году арыштавалі, выслалі ў Сібір, па дарозе ў лагер ён памёр. Такая афіцыйная версія, а як было на справе і дзе магіла гэтага легендарнага чалавека, невядома. Пасля вайны Лізавета і Вера Снітко жылі ў адным з пакояў дома аканома, астатнія памяшканні «Фермы» заняла бальніца. Пра мемарыялізацыю сядзібы, звязанай з імем «нацдэма, ворага народа», гаворкі быць не магло. У 1960 гадах памяшканні дома зведалі капітальны рамонт і перапланіроўку. Дом змяніў свой пачатковы выгляд. А «кабінет» Тарашкевіча наогул напаткаў трагічны лёс. У часе вайны немцы зрабілі з яго склад, а на пачатку 1950-х гадоў бальніца скарыстала «кабінет» пісьменніка пад морг. У 1983 годзе яго знішчылі.

Навуковыя даследаванні сядзібы праводзіліся тут на самым пачатку 1990 гадоў. Але музеефікацыя не адбылася, тут нічога не зроблена. Падстава – грошай няма.

**Віктар САКАВЕЦ**

# Самыя-самыя помнікі Мінску

*У Мінску ў параўнанні з іншымі еўрапейскімі гарадамі мізэр помнікаў. Паставіць больш, кажуць чыноўнікі, няма грошай. Народ мяркуе, што няма жадання, і задавальняецца тым, што ёсць.*

### Самы стары

Самы стары ў беларускай сталіцы помнічак у Цэнтральным, ці Аляксандраўскім, сквэры, што паміж Кастрычніцкай плошчай з аднаго боку і прэзідэнцкай адміністрацыяй і Купалаўскім тэатрам – з другога. Хлопчыку, што гуляе з лебедзем, ужо болей за 125 гадоў. Сквер на тусовачным слэнгу моладзі называецца Панікоўкай. У аматараў «Залатога цяляці» Ільфа і Пятрова хлопчык выклікаў асацыяцыі з літаратурным гусіным злодзеем Міхаілам Самуэлевічам Панікоўскім. Адсюль і Панікоўка. Гэтая скульптурная кампазіцыя італьянца Берніні з'явілася ў Мінску ў Аляксандраўскім сквэры ў 1974 годзе, праз 2 гады пасля таго, як у гэтым месцы разбілі сам сквер. Узвялі фантан з хлопчыкам ды лебедзем з нагоды адкрыцця гарадскога водаправоду.

Праз некалькі гадоў пасля Другой сусветнай вайны, якую хлопчык і птушка перажылі, яны апынуліся пад пагрозай зносу. Рэч у тым, што тады пракладалі камунікацыі ад цяперашняга праспекту Скарыны (у той час Сталіна) да цяперашняй Адміністрацыі прэзідэнта (тагачаснага ЦК КПБ). Але пасля некаторых развагаў скульптуру было вырашана не чапаць.





Фота Ул. ШЛАПАКА

### Самы вялікі

Што да скульптураў, то самая высокая ў Мінску – гэта бронзавая постаць Леніна, якая ўзвышаецца перад Домам ураду на плошчы Незалежнасці аж на 7 метраў. Мінскі Ленін, дарэчы, самы высокі ва ўсім колішнім СССР. Праўда, помнік Сталіну, які былі ўзвялі на Цэнтральнай плошчы сталіцы на пачатку 1950-ых і знеслі ў 1962 годзе, меў 17 метраў росту. Калі помнік Сталіну прыбралі, ягоны профіль зьнік і з саракамэтровага абеліска на плошчы Перамогі, усталяванага ў ліпені 1954 году да дзесяцігоддзя вызвалення Мінску. Але гэта яшчэ не самы высокі помнік у горадзе. Вышэйшы за яго амаль на дзесятак метраў мемарыял «Мінск – горад-герой» на праспекце Машэрава.

### Самы свежы

Гэта помнік самаму вядомаму ўкраінскаму паэту – кабзару Тарасу Шаўчэнку, падораны украінцамі. Паставілі яго ў сквэрыку па вуліцы Старавіленскай, што за будынкам украінскага пасольства ў Беларусі. Месца для помніка Шаўчэнку шукалі доўга. Было яшчэ некалькі варыянтаў – напрыклад, на аднайменным бульвары, каля кінатэатра «Кіеў». Помнік ужо стаіць, але афіцыйна ён яшчэ не адкрыты. Мяркуецца, што гэта будзе зроблена бліжэйшымі тыднямі. Між тым многія беларускія скульптары лічаць, што помнік Шаўчэнку не зусім удалы – «сярэдняй рукі». Што да ўсталявання ў адказ помніка, скажам, Купалу ці Караткевічу ў Кіеве, то нейкіх канкрэтных размоваў пра гэта пакуль не вядзецца.

У найбліжэйшай перспектыве – усталяванне помнікаў Купалу і Коласу да іхніх 120-гадовых юбілеяў, якія будуць адзначацца сёлета, у Маскве і Санкт-Пецярбургу. Але ці паўстануць яны там у пару, вялікае пытанне.

### Самы папулярны

У іншаземцаў гэта помнік Леніну. Усё ж экзотыка. У жыхароў Мінску – «Хлопчык з лебедзем» на Панікоўцы, хоць фантан там працуе з перабоямі, Янка Купала ў сквэры ягонага ж імя, дзе народ збіраецца і проста адпачыць, і на разнастайныя літаратурныя сустрэчы. Помнік Купалу ў Мінску лічыцца адным з самых удалых у горадзе. У Міхайлаўскім сквэры заўсёды шмат ахвотнікаў паабдымацца з ужо згаданай нерухомай паняю на лаўцы. Падчас вяселля маладая з маладым часта ўскладаюць кветкі да Вечнага агню на плошчы Перамогі і падыходзяць да анёла на Выспе слёз на Свіслачы каля Траецкага прадмесця. Маладая па мінскай завядзёнцы дзеля пладавітасці кранае інтымнае месца ў хлопчыка-анёла. Робіцца гэта досыць часта, таму скульптуру адзін раз ужо забіралі на рэстаўрацыю. Усё часцей на вяселле маладыя пачалі ўскладаць кветкі да помніка Максіму Багдановічу каля Опернага тэатру. А помнік Якубу Коласу гадоў з дзесяць таму, кажуць, дужа палюбілі бамжы. Быццам бы яны зрабілі ў нішы пад коласавым ботам начлежку, але камунальныя службы гораду яе выявілі і замуравалі.





Фота Ул. ШЛАПАКА



### Самы недарэчны

Хтосьці з менчукоў лічыць, што гэта помнік Леніну, нехта назаве Калініна на аднайменнай плошчы і Максіма Горкага ў аднайменным дзіцячым парку. Па ўсім відаць, самыя недарэчныя ў Мінску – помнікі савецкае спадчыны. Дарэчы, першы такі помнік – рэвалюцыйнаму салдату – паўстаў у беларускай сталіцы ў 1917 годзе на плошчы Свабоды, але праз год ён быў знесены ў ходзе Першай сусветнай вайны.



Фота Ул. ШЛАПАКА

### Самы чаканы

Гэта, безумоўна, помнік Францішку Скарыну ў Мінску. Конкурс на яго стварэнне быў абвешчаны яшчэ ў 1989 годзе. Помнік зрабілі, знайшлі месца для ўзвядзення – пляцоўку перад будынкам Акадэміі навук. Аднак тамтэйшае кіраўніцтва выказала пратэст і ўпарціцца дагэтуль. Як альтэрнатыўнае месца для помніка Скарыну называюць пляцоўку каля новага будынку Нацыянальнай бібліятэкі, які з'явіцца праз некалькі гадоў. Яшчэ адзін варыянт пасадкі помніка – на плошчы Незалежнасці замест помніка Леніну. На жаль, дзесяцігоддзе таму, калі перайменавалі галоўны праспект сталіцы, адпаведную ракіроўку помнікаў не правялі. Хоць у сталіцы помніка Скарыну няма (апрача невялічкага ў пантэоне помнікаў гістарычным асобам ва ўнутраным дворыку БДУ), затое яны ёсць у Полацку, Лідзе і Празе, дзе ў Карлавым універсітэце вучыўся наш першадрукар і асветнік.

### Самы пацярпелы

Больш за ўсё дасталося скульптуры «Дзяўчынка з парасонам», што стаіць на ўваходзе ў Міхайлаўскі сквер з боку чыгуначнага вакзалу. Вандалы ламалі ёй руку з парасонам ужо не раз, хоць стаіць яна тут усяго два гады. Астатнія дзве скульптуры ў гэтым сквэры – пані на лаўцы і фарсовы хлопец Лахоўскі – такога не зазналі. Ад вандалізму пацярпеў таксама помнік Пушкіну, што стаіць каля гатэлю «Беларусь» у гістарычным раёне Мінску Пярэспе. Неяк яму адламалі пяро. Відаць, гэта справа рук тых, каго расійскі паэт «дастаў» у школе сваімі творамі. Дарэчы, некалькі гадоў таму было зламана пяро і ў нашага пражскага Скарыны.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 19 красавіка

**1906.** Памёр П'ер Кюры, французскі фізік, адзін з стваральнікаў вучэння аб радыеактыўнасці. Кюры загінуў пад коламі экіпажу. Цікава, што ў дзённіку вучонага ёсць такое месца: «Учора выпадковая кабета (з выгляду сапраўдная цыганка) прадказала мне смерць ад экіпажу. Натуральна, я не мог гэтаму паверыць, мой розум не дазваляе верыць у падобныя недарэчнасці».

**1943.** Паўстанне вязняў Варшаўскага гета. У гэты дзень на загад Генрыха Гімлера эсэсаўцы павінны былі ачысціць гета, адправіўшы ягоных жыхароў у лагеры смерці. Назаўтра, у дзень народзінаў Гітлера, Гімлер планаваў далажыць пра завяршэнне гэтай аперацыі. Але карнікі сустрэлі адпор. Баі працягваліся амаль месяц, пакуль у абаронцаў гета не скончыліся боепрыпасы. Помсцячы за супраціў, немцы ўзарвалі галоўную варшаўскую сінагогу.

**1967.** Пайшоў з жыцця Конрад Адэнаўэр, адвакат, эканаміст, каталіцкі святар і першы пасляваенны канцлер Нямеччыны ў 1949-1963 гадах.

### 20 красавіка

**1841.** Апублікавана першае дэтэктыўнае апавяданне – «Забойства на вуліцы Морг» Эдгара Алана По.

**1913.** Трагічная гібель у Парыжы дзяцей знакамітай танцоўшчыцы Айседоры Дункан. Аўтамабіль, у якім ехалі яе сямігадовая дачка і пяцігадовы сын з нянькай, заглух, падымаючыся ўгару. Кіроўца выйшаў паглядзець рухавік, і тут машына пакацілася ўніз і звалілася ў Сену. Усе пасажыры патанулі.

**1962.** Петрусю Броўку і Міхасю Лынькову прысвоеныя званні народных пісьменнікаў Беларусі.

### 21 красавіка

**1142.** Памёр П'ер Абеляр, французскі тэолаг, філосаф і паэт. Калі Абеляру было 40 гадоў, яго запрасілі настаўнікам для 18-гадовай Элаізы. Яны пакахалі адно аднаго. Абеляр пісаў Элаізе вершы, якія развучваў увесь Парыж. Яны таемна ажаніліся, у іх нарадзіўся сын. Апякун Элаізы, у доме якога яна жыла і які запрасіў Абеляра настаўнічаць, быў страшэнна абураны гэтай сувяззю, загадаў наймітам, і тыя вылегчалі Абеляра, калі ён спаў. Пасля гэтага здарэння былыя каханкі ўсамотніліся ў манастырах. Іхнія магілы можна пабачыць на могілках Пэр-Лашэз у Парыжы.

**1921.** Выйшаў першы нумар газеты «Чырвоная змена», якая сёлета ў красавіку спыніла самастойнае існаванне і стала дадаткам да газеты «Звязда».

**1967.** Праз ваенны пераварот да ўлады ў Грэцыі прыйшлі «чорныя палкоўнікі».

### 22 красавіка

**1370.** На загад караля Францыі Карла V быў закладзены першы камень у фундамент крэпасці Бастылія. Пры кардынале Рышэльё яна пачала выкарыстоўвацца як дзяржаўная турма. Гэтак было, пакуль народ, паўстаўшы, не захапіў яе ў рэвалюцыю, 14 ліпеня 1789 году. Дзень узяцця Бастыліі адзначаецца ў Францыі як нацыянальнае свята.

### 23 красавіка

**1902.** Нарадзіўся самы вядомы ісландскі пісьменнік Хальдоўр Кільян Лакснес, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 1955 год. Ён аўтар аповесці «Дзіця прыроды», раманаў «Вялікі ткач з Кашміру», «Салка Валка», «Самастойныя людзі», трылогіі «Ісландскія званы», тэтралогіі «Святло свету», якую пісьменнік лічыў сваім галоўным творам.

**1932.** У Стратфардзе-на-Эйване ў дзень народзінаў Ульяма Шэкспіра (1564 год) адкрыўся Каралеўскі шэкспіраўскі тэатр, які праводзіць традыцыйныя шэкспіраўскія фестывалі.

**1932.** Згодна з рашэннем кампартыі «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацыяў», былі распушчаныя ўсе пісьменніцкія аб'яднанні, што існавалі на той час у СССР, і ўтварыўся агульны Саюз савецкіх пісьменнікаў.

**1997.** Амерыканец Лары Уолтэр атрымаў Дарвінаўскую прэмію. Гэтая чорнагумарная прэмія прысуджаецца за самы дурны ненаўмысны сыход з жыцця, а дарвінаўскай яна названая таму, што, расстаючыся недарэчным чынам з жыццём, ейны ўладальнік тым самым паляпшае генетычны код чалавека. Што ж зрабіў Лары Уолтэр? У 1982 годзе ён прывязаў да крэсла чатыры з паловай дзесяткі напоўненых геліем шароў ад метэазондаў і выправіўся на іх у палёт. Лары меркаваў, што ўздым у паветра будзе павольны, але крэсла ўмомант узляцела на 5 кіламетраў. Праляктаючы паблізу, пілоты самалётаў слалі на зямлю паведамленні, што бачаць нешта неверагоднае. Добра, што ў Лары быў з сабой пісталет, стрэламі з якога ён, здранцвелы ад халадэчы, прабіў 10 шароў і пачаў спускацца. За парушэнне правілаў палётаў яго аштрафавалі на 4 тысячы даляраў. Дарвінаўскую прэмію Уолтэру прысудзілі праз 15 гадоў пасля палёту, але ён так і не атрымаў яе, бо незадоўга да гэтага скончыў жыццё самагубствам.

### 24 красавіка

**1972.** Ганс-Вернер Гросэ ўстанавіў рэкорд далечыні палёту напрасткі на аднамесцавым планеры – 1 460 кіламетраў. Ён праляцеў з нямецкага Любека да французскага Біярыца.

### 25 красавіка

**1792.** Доктар Жазеф Гійятэн узвёў на плошчы ў Парыжы сваю машыну, якая без болю і імгненна адсекла галаву бандыту Нікаля Пеляцье. Машыну гэтую назвалі ў гонар вынаходніка гільяцінай. Яе выкарыстанне было забароненае ў 1981 годзе, калі ў Францыі адмянілі смяротнае пакаранне.

**1823.** У Вільні на загад генерал-губернатара Рымскага-Корсакава знішчаецца масонская маёмасць. Паліцыя спаліла падсвечнікі, зоркі ды іншыя рытуальныя прыналежнасці.

**1857.** Нарадзіўся Леанкавала Руджэра, італьянскі кампазітар, аўтар такіх опер, як «Паяцы» і «Багема». «Паяцы» ідуць у нашым Оперным тэатры.



Падрыхтаваў
**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Сэрца Еўропы *in rock*




Прэзэнтацыя польска-беларускага музычнага праекту «Сэрца Еўропы *in rock*» адбудзецца 18 красавіка ў Парк-клубе «Мінск» з удзелам гуртоў «Крама», «Новае Неба», «*Rima*» і інш.

Праект ажыцьцёўлены пры дапамозе Польскага інстытуту ў Мінску і БМАgroup. Ідэя праекту, прызнацца, неблагая: польскія рок-гурты сьпяваюць па-беларуску, беларускія – папольску. І праўда, спэцыфічны акцэнт польскіх гуртоў надае пэўны каларыт беларускамоўным сьпевам. А беларускія музыкі, трэба адзначыць, даволі хораша спраўляюцца з польскім вымаўленьнем. Хоць гэты альбом адлюстроўвае далёка не ўвесь польскі музычнарокавы спэктр, але прадстаўляе нядрэннае знаёмства з суседскімі талентамі, накшталт КВЗнаўскага прывітаньня. Больш за тое, знакамітая песьняроўская «Беларусачка» ў выкананьні польскага гурта «Алесюкі» (Бельск) гучыць неяк па-новаму, бадзёра і энэргічна, хаця ўжо падзабываецца паціху беларусамі, адыходзіць у даўніну. Гурты з розных рэгіёнаў Польшчы: і «*Step*», і «*Rima*», і «*Proletaryat*», і «Кардон» – усе маюць сваю вызначальную ноту ў сьпевах і музыцы, што робіць іх творчасьць, безумоўна, вартаснай на эўрапейскім музычным полі.

Альбом «Сэрца Еўропы» – гэта першая ластаўка такога кшталту на Беларусі. Да гэтага часу ладзіліся фэстывалі тыпу «Басовішча», было і драбнейшае супрацоўніцтва, але каб палякі з задавальненьнем запісваліся і сьпявалі па-беларуску... Па звестках, гэты альбом перададзены ўжо на польскае радыё, дзе карыстаецца посьпехам.

Пра беларускіх музыкаў казаць даводзіцца няшмат, бо яны даўно і добра зарэкамэндавалі сябе што да польскамоўных тэкстаў. Тыя ж НРМаўцы, Кася Камоцкая, «Крама», «*Zygimont VAZA*» і іншыя выдатна валодаюць мовай заходняй суседкі, што не раз даказвалі на канцэртах.

**Ірына ТОЎСЦІК**

## Суперэканамічная навінка ад «Фальксвагена»

Канцэрн «Фальксваген» прадставіў сваю тэхнічную навінку – машыну з расходам паліва менш за літр на 100 кілямэтраў. Шэф «Фальксвагена» Фэрдынанд Піх, які сёньня перадае свае паўнамоцтвы Бэрнду Пішэтсрыдэру, асабіста прыгнаў аднацыліндравы дызэльны аўтамабіль з Вольфсбургу ў Гамбург, дзе адбывася сход акцыянэраў канцэрну. Каб праехаць 230 км, яму спатрэбілася 3 гадзіны, пры гэтым ён ехаў з сярэдняй хуткасьцю 75 кілямэтраў у гадзіну. Цалкам запоўнены паліўны бак машыны аб'ёмам 6,5 л дазваляе праехаць больш за 650 км.

Паводле словаў прадстаўнікоў «Фальксвагена», 290-кіляграмовы аўтамабіль расходуе 0,89 л паліва на 100 км. Ягоныя габарыты: 3,65 м у даўжыню, 1,25 – у шырыню і крыху больш за мэтр у вышыню. Магутнасьць рухавіка аўтамабіля – 6,3 кілявата. Кузаў цудмашыны зроблены з камбінаваных лёгкіх матэрыялаў. Каб зменшыць вагу, адмовіліся нават ад лякіраваньня.

На думку прадстаўнікоў канцэрну, гэты прататып можа легчы ў аснову цэлай сэрыі аналягічных машын: ад эканамкляса да спартовых мадэляў.

## Басэйны прыводзяць да нараджэньня вырадкаў

Наведваньне плавальных басэйнаў можа быць небясьпечным для цяжарных. Як высьветлілі навукоўцы з Імпэрацкага каледжу навукі, тэхналёгіі і мэдыцыны ў Лёндане, у вадзе басэйнаў утрымліваецца зашмат трыгалямэтанаў – рэчываў, якія ўтвараюцца пры хлараваньні. Ёсьць дадзеныя, што яны могуць выклікаць выкідышы, нараджэньне дзяцей з нізкай вагой і сур'ёзнымі хібамі ў разьвіцьці.

Як патлумачылі вучоныя, пасьля хлараваньня вады часьцінкі хлёру пачынаюць узаемадзейнічаць з клеткамі скуры і касмэтычнымі сродкамі, што прыводзіць да ўтварэньня шэрагу пабочных прадуктаў, сярод якіх ёсьць і трыгалямэтаны. У апошнія гады дасьледчыкі ўсё часьцей зьвязваюць іх з разнастайнымі праблемамі ў рэпрадукцыйнай сфэры чалавека.

У часе дасьледаў навукоўцы дасьледавалі ваду з васьмі плавальных басэйнаў цягам трох тыдняў. Пры гэтым рэгістравалася тэмпэратура паветра і вады, а таксама колькасьць людзей у вадзе. Аказалася, што трыгалямэтаны прысутнічалі ў вадзе ў вялікай колькасьці. Асабліва высокая канцэнтрацыя ўзрастала пры павышэньні тэмпэратуры і павелічэньні колькасьці наведнікаў.

Узровень шкодных рэчываў параўноўвалі з вадаправоднай вадой. Было вызначана, што плыўцы моцна рызыкуюць, паколькі іх скура доўга кантактуе з вадой, і яны да таго ж удыхаюць вадзяны пыл. Высьветлілася, што за гадзіну, праведзеную ў басэйне, чалавек атрымлівае ў 141 раз большую дозу трыгалямэтанаў, чым падчас мыцьця ў душы, і ў 93 разы большую, чым калі выпівае шклянку вады.

Навукоўцы, аднак, папярэдзілі, што не варта рабіць пасьпешлівыя высновы адносна дадзеных, апублікаваных у сьвежым нумары *Occupational and Environmental Medicine*. Для ацэнкі дзеяньня трыгалямэтанаў патрэбныя дадатковыя дасьледы.

# Цудоўны розум Джона Нэша,

## *або Што засталося за кадрам*

*Амэрыканская кінаакадэмія назвала фільмам году стужку Рона Говарда «Гульні розуму». Біяграфічная карціна, прысьвечаная гісторыі жыцьця геніявар'ята – матэматыка Джона Нэша, – стала цудоўным узорам кінапрадукцыі, якой нельга не даваць прызы.*

І ўсё ж, як адзначаюць многія крытыкі, фільм пра Нэша атрымаўся, можа, дзівосная сагай пра каханьне і вар'яцтва, але зусім не пра «цудоўны розум» прынстанскага генія. Але фільм абудзіў цікавасьць да рэальных дасягненьняў аднаго з самых незвычайных навукоўцаў ХХ стагодзьдзя.



Лаўрэат Нобэлеўскай прэміі Джон Нэш

### «Гэты чалавек – геній»

Джон Форбс Нэш-малодшы нарадзіўся 13 чэрвеня 1928 году ў Заходняй Вірджыніі ў сям'і інжынэра-электрыка і школьнай настаўніцы. Бацькі клапаціліся пра адукацыю свайго першынца. У школе Нэш не быў круглым выдатнікам, бо рабіў усё па-свойму. Не быў ён і ўлюбёнцам настаўнікаў – праз цяжкі, каб не сказаць, дрэнны, характар.

Спачатку Джон планаваў стаць інжынэрам-электрыкам, як і ягоны бацька. Аднак, паступіўшы ў Політэхнічны інстытут Карнэгі, ён запісаўся на аддзяленьне хіміі. Але і інжынэра-хіміка з яго не атрымалася, бо яму не хацелася гібець над чарцяжамі.

Расчараваны ў хіміі Нэш паддаўся на ўгаворы матэматыкаў і заняўся гэтай найабстрактнейшай з навук. Цікава, што, нягледзячы на вялізныя здольнасьці да матэматыкі, Нэш не хацеў займацца ёю сур'ёзна, лічачы, што матэматыка наўрад ці дапаможа яму зрабіць добрую кар'еру. Аднак, як толькі будучы Нобэлеўскі лаўрэат пераключыўся на матэматыку, ён без праблемаў стаў развязваць самыя складаныя задачы, якія стаялі перад навукай у той час.

Скончыўшы ўнівэрсытэт за тры гады і атрымаўшы ступені і бакаляўра, і магістра, Джон Нэш выправіўся ў Прынстан пісаць дысэртацыю. Рэкамэндацыйны ліст, які Нэшу даў ягоны выкладчык Рычард Дафін, меў толькі адзін радок: «гэты чалавек – геній».

### Час гульняў

Прынстан канца саракавых – пачатку пяцідзясятых быў асаблівым месцам. Там працаваў Альбэрт Эйнштэйн. Жыў у Прынстане таксама Джон фон Нэйман, вучоны, які ў сярэдзіне саракавых апублікаваў знамянальную кнігу «Тэорыя гульняў і эканамічныя паводзіны».

Тэорыя гульняў стала для амэрыканскай навукі адмысловым ключом да рашэньня самых разнастайных праблемаў: пачынаючы ад пытаньняў мікраэканомікі і заканчваючы стратэгіяй зьнешняй палітыкі ЗША.

Сваю дысэртацыю на модную тады тэму, якая складалася ўсяго з 27 старонак, Нэш абараніў у 22 гады і праз яшчэ 45 гадоў атрымаў за яе Нобэлеўскую прэмію.

Адно з галоўных дасягненьняў нашага героя – фармулёўка так званай «раўнавагі Нэша»: у кожнай гульні існуе пэўны набор стратэгіяў яе ўдзельнікаў, пры якім ніводзін з іх не можа зьмяніць свае паводзіны, каб дамагчыся большага посьпеху, калі іншыя ўдзельнікі свае стратэгіі не мяняюць. Іншымі словамі, гульцам нявыгадна адмаўляцца ад гэтага балянсу, бо ў адваротным выпадку яны толькі пагоршаць становішча.

У фільме адкрыцьцё Нэша было праілюстравана эпізодам з пяцьцю сымпатычнымі дзяўчатамі. Калі б усе Нэшавы прыяцелі кінуліся б да самай прыгожай з іх (то бок сталі гуляць кожны за сябе), яны б, папершае, штурхаючы адзін аднаго, не дамагліся б яе, а падругое, павярнуўшыся да яе сябровак сьпінамі, былі б адрынутыя і імі, бо ніхто не хоча аказацца «суцяшальным прызам». «Раўнавага Нэша» прапанавала ім другі варыянт – пачаць заляцацца да кожнай дзяўчыны паасобку, у выніку чаго практычна ўсе атрымалі жаданае.

### Шызафрэнія

Дзякуючы сваім распрацоўкам Джон Нэш трапіў у лябараторыі карпарацыі *RAND* – найбуйнейшага мазгавога цэнтру ЗША часоў халоднай вайны. Зараз амэрыканцы адкрыта прызнаюць, што тэорыя гульняў і ўдзеленне пра раўнавагу, з якіх вынікае, што зьнішчэньне ворага – не найлепшая мэта, дапамаглі ўтрымаць «тэмпэратуру вайны» ад павышэньня. Пасьля *RAND* Нэш нейкі час выкладаў у Масачусецкім тэхналягічным інстытуце, даволі хутка робячы акадэмічную кар'еру. Там ён пазнаёміўся з Алісіяй Лардэ, пэрспэктыўным маладым фізікам, якая з часам стала ягонай жонкай.

Здавалася б, усё ішло цудоўна. Алісія чакала дзіця, а Нэш у свае 30 гадоў меўся стаць адным з самых маладых прафэсараў – ужо Прынстана. Аднак на паведамленьне пра гэта матэматык адрэагаваў зусім нечакана. «Я не магу заняць гэтую пасаду, – сказаў ён, – мяне чакае трон імпэратара Антарктыкі». Нэша шпіталізавалі з дыягназам «параноідальная шызафрэнія».

Цягам наступных 30 гадоў ён не напісаў ніводнага артыкулу. Шмат хто лічыў, што Нэш памёр. Ён страціў усё – працу, сяброў, сям'ю. У сапраўдным жыцьці Алісія не вытрымала гэткага цяжару і ў 1963 годзе разьвялася з Джонам. Аднак яму было не да таго: ён уцякаў у Эўропу, лічыў сябе збаўцам сьвету, вінаваціў ва ўсім камуністаў і габрэяў, трызьніў, лячыўся, і ніяк не мог пакінуць сьвет ілюзіяў. Лекі не дапамагалі.

Пасьля разводу Нэш пераехаў у дом сваёй маці. Аднак у 1970 годзе яна памерла. Тады Нэш папрасіў прытулку ў Алісіі. Усім на дзіва яна пагадзілася прыняць яго. Яны пасяліліся недалёка ад Прынстана. Нэш шпацыраваў па ўнівэрсытэцкім гарадку, заходзячы ў аўдыторыі і пакідаючы на дошках загадкавыя матэматычныя формулы і лісты без адрасу. Студэнты празвалі яго «Фантомам».

### Вяртаньне

Аднак, напачатку 1990-х Нэш паступова стаў вяртацца ў рэальны сьвет. Ягоныя выказваньні сталі лягічнымі. Ён стаў выкарыстоўваць асэнсаваныя матэматычныя выразы. Пачаў вучыцца працаваць з кампутэрам і пасябраваў з некаторымі студэнтамі. Дактары тлумачылі гэтую дзіву годную рэмісію ўзроставымі зьменамі арганізму. Сам Нэш кажа, што ён паправіўся, бо навучыўся адзяляць ілюзію ад рэальнасьці. Гэта не азначае, што ён вылечыўся – ён навучыўся жыць з хваробай.

Калі Швэдзкая акадэмія навук прызнала яго заслугі ў галіне тэорыі гульняў, Нэш успрыняў гэтую навіну досыць спакойна; зрэшты, абмежаваная гама эмоцыяў – характэрная



Расэл Кроў у ролі Джона Нэша ў фільме «Гульні розуму»

асаблівасьць шызафрэнікаў. Яго больш цікавіла тое, што ён нарэшце зможа сам утрымліваць сям'ю, бо, акрамя яго, у Алісіі на руках яшчэ і іхні сын, таленавіты малады чалавек, які таксама захварэў на шызафрэнію.

Нобэлеўскую прэмію Нэш атрымаў як «піянэр у аналізе раўнавагі ў тэорыі некааперацыйных гульняў». Пасьля гэтага Прынстан прыняў рашэньне вылучыць яму кабінэт і даць магчымасьць выкладаць. Нэш сьцьвярджае, што, нягледзячы на гады і стан здароўя, ён гатовы браць новыя матэматычныя вышыні.

Але ад Нэша не чакаюць грандыёзных адкрыцьцяў. Пэўна, гэта ўжо не так важна, бо ён пасьпеў зрабіць у жыцьці дзьве самыя важныя рэчы: стаў прызнаным геніем у маладым веку і перамог невылечную хваробу ў старасьці.

**Wdi.ru**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газэту НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаваньні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зьміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газэты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1146 Нумар падпісаны ў друк 18/04/2002 (12:00) Наклад – 7.730